ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



САКАВІК
№ 3 (5)
1931

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

сакавік

№ 3 (5)



МЕНСК — 1931

# Вынікі кампаніі па давыбарах акадэмікаў Беларускай Акадэміі Навук.

23 студзеня б. г. акадэмічны савет Беларускай Акадэміі Навук вынес сваю пастанову аб правядзеньні дадатковых выбараў акадэмікаў.

Кампанія па давыбарах новых акадэмікаў як раз супала з пераломным момантам у жыцьці і перабудове ўсёй работы Беларускай Акадэміі Навук. Яна павінна была сыграць вялікую ролю ў гэтай перабудове, у гэтым ператварэньні Акадэміі з гнязда контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў, якім БАН была ў сваім мінулым, у Акадэмію Савецкую — у цэнтар пролетарскай навукі і нацыянальнай пролетарскай культуры.

На працягу выбарчай кампаніі новых акадэмікаў ставілася задача азнаёміць масы рабочых і савецкую грамадзкасьць з тым, якую ганебную ролю адыграла Акадэмія ў мінулым, што робіцца ў ёй зараз і чым яна павінна быць у бліжэйшыя часы. Няма чаго гаварыць аб тым, што пра Беларускую Акадэмію Навук нічога ня ведалі шырокія працоўныя масы, Акадэмія ніякай сувязі ня мела з пролетарскай грамадзкасьцю. Гэта як раз адпавядала ўстаноўкам панаваўшых раней у Акадэміі нацыянал-дэмакратаў і нацыянал-опортуністаў.



Проект новага будынку БАН.

Выносячы пытаньне аб Акадэміі Навук і выбарах новых акадэмікаў на сходы рабочых, навуковых працаўнікоў і савецкай інтэлігенцыі, ставілася мэта: атрымаць ад рабочых і савецкай грамадзкасьці прак-

тычныя прапановы аб тым, як лепш організаваць работу Акадэміі, на што зьвярнуць у першую чаргу ўвагу яе работнікаў, па якіх важнейшых проблемах павінны быць мобілізаваны сілы нашых навуковых працаўнікоў, якія мерапрыемства неабходна правесьці ў справе разгортаньня і організацыі плянава-навуковай дасьледчай працы ў БССР, як шчыльна ўвязаць усю навуковую працу з выкананьнем задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Пастаноўкай такіх пытаньняў перад адпаведнымі сходамі прыцягвалася ўвага працоўных мас да работы Акадэміі, да навукова-дасьледчай справы наогул. Гэтым самым мы рабілі першыя крокі набліжэньня Акадэміі да рабочых мас, да нашай савецкай грамадзкасьці. Асьвятляючы ход кампаніі па давыбарах новых акадэмікаў у нашым партыйна-савецкім друку, мы знаёмілі шырокія працоўныя масы з нашымі важнейшымі задачамі ў галіне навукова-дасьледчай працы.

Выносячы пытаньне аб выбарах новых акадэмікаў на рабочыя сходы і сходы навуковых працаўнікоў, мы былі ўпэўнены ў тым, што пролетарская грамадзкасьць, сходы рабочых і навуковых працаўнікоў дапамогуць нам выдвінуць у лік новых акадэмікаў такіх савецкіх вучоных, якія сапраўды заслугоўваюць званьня пролетарскага акадэміка і дапамогуць нам зрабіць Акадэмію цэнтрам пролетарскай навукі і соцыялістычнай культуры.

З таго часу як была вынесена адпаведная пастанова акадэмічнага савету БАН аб давыбарах новых акадэмікаў прайшло крыху больш месяца і зараз мы можам падагуліць кампанію.

Якія-ж мы маем вынікі ў справе правядзеньня гэтай важнейшай кампаніі? Як аднеслася савецкая грамадзкасьць да яе?

Трэба сказаць, што гэта кампанія па выбарах новых акадэмікаў прайшла ня дрэнна; яна мела і будзе мець для Акадэміі і для рэорганізаванай усёй навукова-дасьледчай справы ў нас, у БССР, вялікае значэньне. Пытаньне аб Акадэміі і выбарах новых акадэмікаў абгаварвалася на 38 сходах рабочых і навуковых працаўнікоў. Праўда, ня ўсе гэтыя сходы конкрэтна абгаварвалі высунутых кандыдатаў у акадэмікі. Але-ж затое ўсе яны абгаварвалі пытаньне аб Акадэміі, аб яе плянах і мерапрыемствах, знаёміліся больш шырока з тэй здрадніцкай працай, якую пасьпелі правесьці беларускія нацыянал-дэмократы і нацыянал-опортуністы ў галіне навуковай работы.

На ўсіх сходах выносіліся рэзолюцыі, практычныя прапановы аб рэорганізацыі Акадэміі, аб палепшаньні ў нас навукова-дасьледчай справы. Сходы па ўсіх гэтых пытаньнях склікаліся ня толькі нашымі навукова-марксыцкімі таварыствамі, навукова-дасьледчымі ўстановамі, колектывамі навуковых працаўнікоў і студэнтаў нашых ВУЗ'аў, але і на фабрыках і заводах, у паасобных цэхах прадпрыемстваў.

Паводле няпоўных падлікаў за апошні месяц па пытаньнях аб Акадэміі і выбарах новых акадэмікаў адбылося:

1) рабочых сходаў — 10;
2) сходаў марксыцкіх таварystваў — 7;
3) навукова-дасьледчых устаноў — 8;
4) навуковых працаўнікоў і студэнтаў ВУЗ,аў — 9;
5) сэкцыі навуковых працаўнікоў — 4.

Трэба сказаць, што фактычная колькасьць сходаў складала большую лічбу, асабліва на прадпрыемствах.

На ўсіх гэтых сходах было вынесена шмат рэзолюцый і практычных прапаноў. Да чаго ў асноўным зводзіліся запатрабаваньні, пажаданьні, наказы рабочых, навуковых працаўнікоў, савецкай інтэлігенцыі

пры абмеркаваньні пытаньня аб Акадэміі і новых акадэміках? Іх можна ў асноўным зьвесьці да наступных важнейшых момантаў:

1) ператварыць Акадэмію ў сапраўдны адзіны савецкі цэнтар навукова-дасьледчай працы, аўторытэтнейшую марксыцка-ленінскую ўстанову ў БССР;

2) высоўваць у новыя акадэмікі лепшых барацьбітоў на марсыцка-ленінскім навуковым фронце, адданых справе рабочае класы;

3) зрабіць Акадэмію Навук вастрэйшай зброяй комуністычнай партыі і савецкай улады;

4) падначаліць усю працу Акадэміі задачам соцыялістычнага будаўніцтва і будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры, шчыльна зьвязаўшы работы ўсёй Акадэміі і кожнага навуковага працаўніка з прадпрыемствамі, з рабочай і савецкай грамадзкасьцю;

5) шырэй разгарнуць работу па падрыхтоўцы новых маладых навуковых кадраў з рабочых, колгасьнікаў і адданай справе пролетарыяту інтэлігенцыі;

6) канчаткова выкрыць і ліквідаваць нацдэмаўскую контр-рэволюцыю на навуковым фронце і рашуча вясьці барацьбу з усялякага роду буржуазнымі і дробна-буржуазнымі плынямі ў навуцы, і ў першую чаргу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і мясцовымі шовінізмамі розных колераў;

7) разгарнуць навукова-дасьледчую працу на пэрыфэрыі, сыстэматычна кіруючы ёю, організаваць навокал Акадэміі ўсе навуковыя сілы ў БССР;

8) разгарнуць навукова-популярызатарскую работу Акадэміі сярод шырокіх працоўных мас у прыватнасьці на прадпрыемствах.

Вось тыя важнейшыя запатрабаваньні, якія прад'яўлены Акадэміі на адпаведных сходах рабочых і навуковых працаўнікоў.

На сходах асабліва падкрэсьлівалася, каб Акадэмія ў сваёй далейшай працы зьнішчыла элемэнты бясплянавасьці, бяссыстэмнасьці работы і адарванасьць ад соцыялістычнага будаўніцтва, якія да гатага часу наглядаліся ў навукова-дасьледчай рабоце ў БССР. Рабочыя і навуковыя працаўнікі рашуча ставілі пытаньне аб концэнтрацыі ўсёй навукова-дасьледчай работы навокал Акадэміі.

Будзе не бяз цікавасьці прывесьці тут найбольш важныя і цікавыя вытрымкі з рэзолюцый агульных сходаў рабочых розных прадпрыемстваў. Так, рабочыя заводу „Энэргія“ пішуць: „Акадэмія Навук павінна быць такім асяродкам, які-б распрацоўваў самыя розныя пытаньні, патрэбныя для будаўніцтва соцыялізму зараз-жа. Акадэмія павінна кіраваць усёй навуковай працай у БССР. Акадэмікі не павінны адрывацца ад пролетарскай грамадзкасьці. Кожны акадэмік павінен рабіць перад рабочымі справаздачы аб сваёй дзейнасьці і аб плянах і меркаваньнях адносна сваёй працы. Кожнага акадэміка рабочая маса павінна ведаць“.

Рабочыя мэханічнага цэху заводу „Полымя рэволюцыі“ патрабуюць, каб „зрабіць Беларускую Акадэмію Навук сапраўдным цэнтрам пролетарскай думкі, пролетарскай навукі. Зрабіць БАН магутным вагаром соцыялістычнага будаўніцтва“.

Табельшчыца таго-ж цэху Аляшкевіч Вера піша: „дапамагчы краіне хутчэй завяршыць пабудову соцыялізму — асноўны зьмест работы БАН. А для гэтага трэба, каб акадэмік быў масавіком, зьвязаны з рабочай грамадзкасьцю“.

Рабочыя вагавага цэху заводу „Ўдарнік“ патрабуюць, каб Акдэмія выдавала „такія навуковыя працы, якія патрэбны соцыялістычнаму

будаўніцтву і цалкам адпавядаюць задачам, якія высунуты пяцігадовым плянам. Таксама павінна быць зьвернута ўвага на выданьне навукова-популярнай літаратуры для шырокіх рабочых мас".

На ўсіх сходах у новыя акадэмікі быў высунуты 21 кандыдат.

Па спэцыяльнасьці гэтыя кандыдаты падзяляюцца на наступныя групы:

1) гісторыкаў — 4
2) экономістаў-аграрнікаў — 3
3) па агульных проблемах культуры і пэдагогікі — 2
4) па філёзофіі і ленінізму — 4
5) па хэміі — 3
6) па матэматыцы — 2
7) па праву і савецкаму будаўніцтву — 1
8) па літаратуразнаўству — 1
9) па вышэйшай нэрвовай дзейнасьці чалавека — 1

Сярод высунутых кандыдатаў—18 членаў КП(б)Б і 3 беспартыйных.

Амаль на ўсіх сходах падыход да абгаварэньня высунутых кандыдатаў быў надзвычайна сур'ёзны. Да высунутых кандыдатаў прад'яўляліся надзвычайна вялікія запатрабаваньні як у сэнсе іх заслуг у галіне навукі, так і асабліва ў справе адданасьці дыктатуры пролетарыяту і соцыялістычнаму будаўніцтву.

Тая акалічнасьць, што ў сьпісы кандыдатаў новых акадэмікаў, ня гледзячы на высокія запатрабаваньні, высунута 21 чалавек, гаворыць аб тым, наколькі мы вырасьлі ў культурных і навуковых адносінах, як параўнаўча ўжо многа мы маем з часу Кастрычнікавай рэволюцыі нашых, адданых савецкай уладзе, вучоных.

Сваімі новымі навуковымі кадрамі мы зможам ня толькі замяніць тых лжэвучоных нацдэмаў, якія тварылі ў Акадэміі справу контррэволюцыі, але і паставіць навуковую працу ў нас, у БССР, на патрэбную вышыню. Уліваючы ў Беларускую Акадэмію новых, адданых савецкай уладзе і соцыялістычнаму будаўніцтву акадэмікаў, мы робім наступны рашучы крок па ператварэньні Акадэміі ў вышэйшы пролетарскі навукова-дасьледчы цэнтар БССР.

Акадэмічны Савет БАН на сваім паседжаньні 3 марта гэтага году зрабіў адпаведныя вывады з кампаніі па давыбарах акадэмікаў і з ліку 21 кандыдата, якія былі высунуты на сходах, абраў 10 новых акадэмікаў БАН. Сярод абраных па спэцыяльнасьці:

1) гісторікаў Беларусі — 1
2) гісторыкаў Захаду — 1
3) па проблемах культуры і пэдагогікі — 2
4) па ленінізму — 1
5) па гісторыі рэлігіі і этнографіі — 1
6) агра-хэмікаў — 1
7) аграрнікаў-экономістых — 1
8) матэматыкаў — 1
9) па вышэйшай нэрвовай дзейнасьці—1

Трэба адзначыць у заключэньне, што наша партыйна-савецкая прэса ўдзяліла вялікую ўвагу кампаніі па давыбарах новых акадэмікаў. На працягу яе было зьмешчана ў газэтах да 50 розных артыкулаў і заметак аб выбарах акадэмікаў і аб рабоце Акадэміі.

*В. Шчарбакоў.*

В. Самцэвіч.

# За актыўны ўдзел у вырашэньні баявых задач спажывецкай коопэрацыі.

XVI партзьезд побач з радам іншых важнейшых задач партыі ў далейшай рабоце па соцыялістычнай індустрыялізацыі СССР паставіў „ажыцьцяўленьне намечанага падвышэньня *рэальнай заработнай платы*, палепшаньне работы снабжэнчай сеткі, асабліва па лініі спажывецкай коопэрацыі (з рэзол. па спавазд. ЦК).

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б, надаючы надзвычайна вялікае значэньне рабоце спажывецкай коопэрацыі, вынес шэраг практычных прапаноў, выкананьне якіх павінна карэнным чынам зьмяніць сыстэму работы спажывецкай коопэрацыі як у горадзе, так і ў вёсцы і палепшыць абслугоўваньне і забесьпячэньне спажывецкімі таварамі рабочых асноўных галін народнае гаспадаркі, а таксама і ўсіх іншых груп працоўнага насельніцтва. Але пасьпяховае ажыцьцяўленьне пастаноў пленуму ў справе перабудовы працы спажывецкай коопэрацыі і наладжаньне забесьпячэньня магчыма толькі пры ўмове непасрэднай і актыўнай дапамогі спажывецкай коопэрацыі з боку ўсёй партыі, профсаюзаў, гаспадарчых і савецкіх органаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці.

Краязнаўчыя організацыі, якія да гэтага часу зусім не займаліся пытаньнямі дасьледваньня працы спажывецкай коопэрацыі, павінны таксама прыняць самы актыўны ўдзел у вырашэньні практычных задач, пастаўленых партыяй перад спажывецкай коопэрацыяй. Вельмі важна і неабходна, каб у краязнаўчай працы ў галіне коопэрацыі прынялі актыўны ўдзел непасрэдныя працаўнікі коопэрацыі. Дасьледчая праца ў галіне коопэрацыі можа ўскрыць і паставіць для практычнага вырашэньня шэраг новых задач і проблем. Шляхам выяўленьня недахопаў, хібаў у працы пэўных коопэратываў, а таксама шляхам паказу і популярызацыі дасягненьняў лепшых коопэрацыйных установ—краязнаўчыя організацыі павінны дапамагчы партыі, профсаюзным, савецкім і гаспадарчым установам і організацыям у найлепшай організацыі працы спажывецкай коопэрацыі.

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б абавязаў Белкоопсаюз не пазьней, як на працягу паўтарамесячнага тэрміну, скончыць рэорганізацыю нізавой сеткі на вёсцы на аснове аднаўленьня выбарных коопэратываў („Сельпо“) на 1-2 сельсаветы, устанаўленьня цеснай сувязі спажывецкай коопэрацыі з разьвіцьцём колгаснага руху і будаўніцтвам саўгасаў і забесьпячэньня за колгасамі кіруючай ролі ў рабоце сельскай спажывецкай коопэрацыі.

Пры правядзеньні рэорганізацыі нізавой коопэрацыйнай сеткі на вёсцы краязнаўчыя організацыі павінны дакладна вывучыць і дапамагчы раённым установам і організацыям выбраць найбольш адп-

ведныя населеныя пункты сельсаветаў для адчыненьня ў іх „сельпо“ з тым, каб у максымальнай меры забясьпечыць сувязь спажывецкай коопэрацыі з разьвіцьцём колгаснага руху і будаўніцтвам саўгасаў, прычым краязнаўчыя організацыі павінны з першых-жа дзён організацыі сельскіх спажывецкіх таварыстваў („сельпо“) распачаць вывучэньне забесьпячэньня спажывецкай коопэрацыяй соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, запатрабаваньняў соцыялістычнага сэктару да спажывецкай коопэрацыі.

У мэтах лепшага забесьпячэньня рабочых буйных саўгасаў з боку спажывецкай коопэрацыі Пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў організаваць у такіх буйных саўгасах і прамысловых прадпрыемствах (з колькасьцю рабочых звыш 250 чал.), якія знаходзяцца на вёсцы, саўгас-рабкоопэратывы, як правіла, закрытага тыпу і ў меншых саўгасах і прамысловых прадпрыемствах — закрытыя разьмеркавальнікі. Вывучэньне работы саўгасрабкоопаў і закрытых разьмеркавальнікаў (у саўгасах, на фабрыках і заводах), як новай формы клясавага разьмеркаваньня продуктаў, мае надзвычайна вялікае значэньне ў справе найлепшай організацыі гэтага разьмеркаваньня. Пленум адзначыў, што ў рабоце ўжо існуючых закрытых разьмеркавальнікаў „маецца рад буйных недахопаў: нявыразнасьць організацыйных форм, наяўнасьць памылак пры правядзеньні прымацаваньня да закрытых разьмеркавальнікаў асобных груп рабочых, слабая ўкомплектаванасьць закрытых разьмеркавальнікаў лепшымі працаўнікамі прылаўкаў, незабясьпечанасьць неабходным асортымэнтам тавараў і нябоўнамернасьць разьмеркаваньня тавараў...“. З усёй катэгорычносьцю Пленум ЦК абавязаў спажывецкую коопэрацыю, партыйныя, савецкія і профэсыянальныя організацыі „паставіць у цэнтры ўвагі сваёй работы неакладнае паляпшэньне пастаноўкі работы закрытых разьмеркавальнікаў і неакладнае зьнішчэньне буйных недахопаў у іх рабоце і раду памылак, якія былі дапушчаны пры самай іх рэорганізацыі. Задача краязнаўчых організацый заключаецца ў тым, каб разам з непасрэднымі працаўнікамі закрытых разьмеркавальнікаў і з рабочымі, якія абслугоўваюцца імі, выявіць як недахопы, так і ўсе дасягненьні лепшых разьмеркавальнікаў з тым, каб гэтыя дасягненьні можна было перанесьці ў іншыя разьмеркавальнікі.

Пры найбольш буйных прадпрыемствах (ня менш 2.000 рабочых) гарадоў БССР згодна пастановы Пленуму павінны быць організаваны закрытыя рабочыя коопэратывы, як зусім самастойныя коопэрацыйныя організацыі, якія будуць мець свае сьвінаадкормачныя пункты, малочныя фэрмы і прыгародныя гаспадаркі. Організацыя такіх коопэратываў з сваімі прыгароднымі гаспадаркамі зьяўляецца вялікім крокам уперад у справе паляпшэньня рабочага забесьпячэньня, заснаванага на клясавых прынцыпах. Вывучэньне работы такіх закрытых рабочых коопэратываў, высьвятленьне вопыту і дасягненьняў лепшых з гэтых коопэратываў зьяўляецца вельмі важнай задачай у справе хутчэйшага вырашэньня задач рабочага забесьпячэньня, пастаўленых перад спажывецкай коопэрацыяй, савецкімі і профсаюзнымі організацыямі і перад усёй рабочай клясай.

Прэзыдыум ЦСПСБ, улічваючы вялізарнае значэньне працы закрытых сталовак і разьмеркавальнікаў і маючы на ўвазе мобілізаваць шырокія рабочыя масы навокал баявых задач спажывецкай коопэрацыі, абвясьціў усебеларускі агляд-конкурс на лепшую работу закрытага разьмеркавальніка і сталоўкі (гл. „Сав. Беларусь“ № 38, 15/II, 1931 г.). Агляд-конкурс павінен будзе выявіць найлепшыя мэ-

тоды і формы работы закрытых разьмеркавальнікаў, сталовак. Бязумоўна, у памянёным аглядзе-конкурсе актыўны ўдзел павінны прыняць краязнаўчыя організацыі, дапамагаючы ў організацыі дасьледчай працы завкомам, коопбюро і спэцыяльным брыгадам, складзеным з саміх рабочых.

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б адзначыў „наяўнасьць раду абураючых недахопаў і прарываў у боенскай справе, у пераапрацоўцы мяса і скарыстаньні жывёлы: зусім нездавальняючае становішча боень, бясплянавае перакідваньне жывёлы, выпадкі масавага пахварэньня і падзяжу жывёлы ў дарозе і на бойнях, адсутнасьць кармоў, няпоўнае скарыстаньне мясных адыходаў“. Усё гэта дрэнна адбіваецца на забесьпячэньні рабочых мясам. Трэба дабіцца значнага паляпшэньня ў становішчы боень, у перавозцы жывёлы і забесьпячэньні яе кармамі, даглядзе зажывёлай, прызначанай да забою і г. д. У справе найхутчэйшага вырашэньня пытаньня забесьпячэньня рабочае клясы мяснымі і малочнымі продуктамі вялізарнае значэньне мае разьвіцьцё і палепшаньне адкормачных опэрацый, правільная організацыя рыбнай гаспадаркі і максымальнае скарыстаньне ўсіх натуральных вадазбораў для павялічэньня ўлову рыбы, павялічэньня таварнага выхаду малака і малочных продуктаў у колгасах, саўгасах і прыгародных гаспадарках спажывецкай коопэрацыі.

Актыўнейшы ўдзел у вырашэньні гэтых пытаньняў могуць і павінны прыняць усе мясцовыя краязнаўчыя організацыі. Трэба дакладна вывучыць пастаноўку работы на адкормачных пунктах, выяўляючы як недахопы, так і дасягненьні ў гэтай справе (оргнізацыя дагляду і ўтрыманьня жывёлы, найлепшыя віды кармоў, нормы харчаваньня, тэмпэратурныя ўмовы і г. д.). Асноўнай задачай у вывучэньні адкормачных опэрацый — выяўленьне максымальнай эфэктыўнасьці адкорму, выяўленьне лепшых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў у гэтай справе, магчымасьцяй і шляхоў далейшага палепшаньня адкорму жывёлы. У такой-жа меры неабходна разгарнуць масавую дасьледчую працу па выяўленьню ўсіх нашых рыбных багацьцяў, па вывучэньню найлепшай організацыі і будаўніцтва рыбных гаспадарак, па выяўленьню ўсёй практыкі павялічэньня іх эфэктнасьці (улову рыбы).

Да вывучэньня работы спажывецкай коопэрацыі, гэтага вельмі важнага вучастку ў сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва, трэба падыйсьці з усёй сур‘ёзнасьцю і ўважлівасьцю. Раённыя і гарадзкія бюро краязнаўства, краязнаўчыя гурткі на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах павінны неадкладна організаваць вывучэньне паасобных пытаньняў спажывецкай коопэрацыі, увязаўшы сваю працу з працай мясцовых партыйных, профсаюзных і савецкіх організацый. У дасьледчую працу ў галіне спажывецкай коопэрацыі трэба абавязкова ўцягнуць копэрацыйных работнікаў і рабочых з прадпрыемстваў, саўгасаў і інш., якія блізка зацікаўлены работай сваіх сталовак, разьмеркавацеляў, прыгарадных фэрм, адкормачных пунктаў і г. д. Трэба організаваць спэцыяльныя дасьледчыя брыгады для вывучэньня пэўных акрэсьленых заданьняў, узяўшы цьвёрды курс на організацыю і замацаваньне сталых краязнаўчых гурткоў па лініі спажывецкай коопэрацыі. Вынікі вывучэньня работы спажывецкай коопэрацыі трэба шырока абгаварыць на сходах рабочых і вынесьці конкрэтныя прапановы для паляпшэньня працы кожнай паасобнай коопэрацыйнай установы. Дасягненьні ў працы спажывецкай коопэрацыі і Наркамснабу трэба папулярызаваць у мясцовым і цэнтральным друку ў мэтах абмену вопытам.

Матвяёнак.

# Рэволюцыя 1905 г. на Магілеўшчыне.

## 1. Рабочы рух.

Нацыянал-дэмократы і іхныя агенты ў шэрагах компартыі — нацыянал-опортуністыя стараліся давесьці, што на Беларусі ў 1905 г. ня было ні бальшавіцкай організацыі, ні рабочага руху. Рэволюцыю 1905 году яны імкнуліся асьвятліць, як дробна-буржуазную рэволюцыю, праведзеную пад кіраўніцтвам Беларускай Соцыялістычнай Грамады. Сярод нацыянал-опортуністых знаходзіліся нават такія, што лічылі, нібы да 1917 г. на Беларусі зусім ня было бальшавікоў, што яны зьявіліся з Беларускай Грамады, калі ад яе аддзялілася левая частка, увайшоўшая потым у комуністычную партыю. Імкнуліся яны сьцьвярджаць і тое, што Кастрычнікавая рэволюцыя на Беларусі не пролетарская, а сялянская і зроблена яна „народнай“, „дэмократычнай“ партыяй—Грамадой, а беларускія комуністыя, гэта тыя-ж самыя „грамадаўцы“. Мы павінны разгледзець у асноўных рысах гісторыю рэволюцыйнага руху на Беларусі ў 1905 г., каб фактамі давесьці няправільнасьць гэтага нацыянал опортуністычнага погляду.

На Беларусі, як і ў Расіі, пролетарыят у 1905 г. быў рухаючай сілай рэволюцыі, гегемонам у ёй. Ёсьць шмат фактаў, якія сьцьвярджаюць тое, што сялянскія паўстаньні і пачаліся тады, калі ў суседнім горадзе адбываліся ўжо рабочыя стачкі. Ёсьць шмат і такіх фактаў, якія гавораць аб непасрэдным удзеле рабочых у сялянскіх бунтох супроць паноў і поліцыі. Так, напрыклад, рабочыя мястэчка Копысю організоўвалі сялян у бліжэйшых вёсках для самавольнага захопу панскай зямлі; сяляне Клімавіцкага раёну былі ўзьняты на паўстаньне прыехаўшымі з Донбасу шахцёрамі, якія былі самі родам з Клімаўшчыны. Над самым пролетарыятам у той час стаў пашырацца бальшавіцкі ўплыў. Беларуская Грамада і эсэры наогул-жа не зьвярталі ўвагі на кіраўніцтва рабочым рухам, а быўшая на Беларусі досыць пашыранай партыя Бунд карысталася посьпехам і аўторытэтам галоўным чынам сярод яўрэйскіх рамесьнікаў і саматужнікаў, а не сярод рабочых. Аб гэтым сьведчыць ужо той факт, што ў беларускіх соцыял-дэмократычных організацыях, быўшых на Беларусі і аб‘яднаных Паўночна-Заходнім Камітэтам у Вільні, з ліку 970 членаў партыі больш за палову было партыйцаў яўрэяў[1]). Рабочыя забастоўкі, якія ў 1905 г. адбываліся на Беларусі, — у Вільні, Менску, Гомлі, Віцебску ды іншых гарадох, — праходзілі ў пераважнай большасьці пад бальшавіцкім кіраўніцтвам.

---

[1]) Ю. Майзель і М. Шапавалаў. Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б, ст. 23.

Да 1905 г. на Беларусі існавалі 2 партыйныя камітэты РСДРП—Паўночна-Заходні ў Вільні (стварыўся ўвесну 1904 г.) і Палескі ў Гомлі[1]). Палескі Камітэт РСДРП кіраваў рэволюцыйнай работай ў Гомлі, Рэчыцы, Мазыры, Быхаве, Магілеве, Воршы і Мсьціслаўлі, Паўночна-Заходні — у іншых гарадох Беларусі. У 1905 г. са складу Палескай організацыі вылучаны былі два асобныя партыйныя камітэты: Гомельскі і Магілеўскі. Магілеўскі камітэт узяў пад сваё кіраўніцтва рэволюцыйную работу на тэрыторыі ўсяе былое Магілеўскае губэрні, за выключэньнем Гомельскага павету. Гомельскі Камітэт ахапляў сваім уплывам, апрача Гомельшчыны, яшчэ Рэчыцкі, Мазырскі, Рагачэўскі і Бабруйскі павет. З тае прычыны, што Магілеўскі Камітэт увайшоў у самую бяспрынцыпную згоду з Бундам, пайшоўшы яму на розныя ўступкі, Гомельскаму Камітэту прыходзілася кіраваць рэволюцыйным рухам і на Магілеўшчыне.

Да 3-га партыйнага зьезду толькі адна Менская організацыя была цалкам бальшавіцкай. Ня гледзячы на тое, што яна ўваходзіла ў склад Паўночна-Заходняга Камітэту і ня мела права пасылаць ад сябе асобнага дэлегата на зьезд, яна дабілася згоды Бюро Камітэтаў Большасьці на камандыраваньне свайго прадстаўніка. На 3-ці зьезд ад Менску быў пасланы бальшавік Шклоўскі, а ад Паўночна-Заходняга Камітэту прымірэнец Пасталоўскі. На зьезьдзе стаяла пытаньне аб паводзінах Магілеўскага Камітэту ў адносінах да Бунду. Зьезд прызнаў недапушчальным такую згоду з Бундам, калі ўся работа сярод яўрэйскіх рабочых перадаецца пад кіраўніцтва Бунду, як гэта было ў Магілеве, і прыводзіў Магілеўскі дагавор з Бундам у прыклад таго, якіх дагавораў ня трэба заключаць з нацыянальнымі партыямі[2]).

У большасьці партыйных організацый на Беларусі да часу 3-га партзьезду бальшавікоў і меншавікоў было прыблізна пароўну. Пасьля 3-га зьезду ленінская большасьць афармілася ў большасьці парторганізацый на Беларусі. Бальшавікі ўзялі верх у Палескім Камітэце і ў цэлым шэрагу падпарадкаваных яму організацый. Меншавікі панавалі толькі ў тых організацыях, дзе здаўна меў вялікі ўплыў Бунд, як, напр., у Гомельскай і Копыльскай раённых організацыях[3]). З гэтага відаць, што меншавікі і бундаўцы зьбліжаліся паміж сабой на адзінай опортуністычнай пляцформе, узаемна дапамагалі адны адным.

Беларуская Социялістычная Грамада складалася ў большасьці з інтэлігенцыі, вышаўшай з шляхты, і найбольш заможнага сялянства. На Магілеўшчыне-ж, напр., у яе складзе зусім ня было сялянства і ўся Магілеўская організацыя БСГ складалася пераважна з чыноўніцтва ды інтэлігенцыі. Праўда, гэта не перашкаджала ёй у 1905 г. высоўваць досыць рэволюцыйныя запатрабаваньні аб захопе панскай зямлі. Але на рабочыя запатрабаваньні яна зьвяртала нязначную ўвагу, а дзеля таго бадай што зусім ня мела ў сваім складзе рабочых.

У 1906 г., калі сялянскі рух на Беларусі яшчэ ня спыняўся, БСГ ужо заклікала масы не да рэволюцыйнай барацьбы, а да прымірэньня з клясавымі ворагамі, да адзінага нацыянальнага фронту. Нацыянальныя інтарэсы аказаліся для яе важнейшымі за клясавыя інтарэсы. Так, напр., у 1-м нумары сваёй газэты „Нашай Нівы“ БСГ пра свае задачы пісала: „Ня думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці

1) Там-сама, ст. 24.
2) С. Агурский. Очерки по истории рев. движения в Белоруссии.
3) Там-сама.

адным мужыкам. Не, ніколі. Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу." Тут нават няма і ўспаміну пра рабочых. З такой партыяй у асяродзьдзі пролетарыяту бальшавіком зусім ня прыходзілася весьці барацьбу,—рабочыя масы за ёю ня ішлі. Супроць БСГ бальшавіком прышлося весьці агітацыю толькі сярод сялянства Заходняй часткі Беларусі, прычым варта было паказаць сялянам, што ў склад БСГ уваходзяць, часам, і памешчыкі, як сяляне хісталіся і масава адыходзілі з-пад іхняга ўплыву.

Рабочая кляса на Беларусі к 1905 г. была нязначнай часткай грамадзтва. Прамысловасьць тут была разьвіта слаба. Больш-менш буйныя фабрыкі ды заводы былі ў нямногіх гарадох, як, напр., у Беластоку, Горадні ды інш. Найбольш разьвіта на Беларусі было рамесьніцтва, аднак, рамесьнікі ў большасьці сваёй былі менш рэволюцыйныя, чым рабочыя, нават, дробных заводаў. Прыклады рэв. руху ў шмат якіх мястэчках Беларусі (Талачын, Дуброўна, Ляды, Копысь і г. д.) поўнасьцю сьцьвярджаюць гэты вывад.

У адказ на расстрэл рабочых 9-га студзеня па ўсёй тэрыторыі Беларусі адбыўся шэраг рабочых стачак. Часам гэтыя стачкі протэсту пэратвараліся ў паўстаньні рабочых, у выніку якіх улада ў асобных мясцох пераходзіла ў рукі пролетарыяту. Так было, напр., у Смаргоні Віленскай губ., у Крынках, Горадзенскай губ., адкуль у часе паўстаньня паўцякала ўся мясцовая ўлада. Але ў наступныя дні падведзенымі з іншых месц вайсковымі сіламі паўстаньне было задушана. Надзвычайную актыўнасьць у студзеньскія дні 1905 г. выявілі рабочыя чыгуначнікі. Так, 13 студзеня ў г. Гомлі ў чыгуначных майстэрнях, на якіх працавала больш як 1200 чал. рабочых, пачалася забастоўка. Забаставаўшыя рабочыя выставілі каля майстэрняў пікеты рабочых на варце, каб не дапушчаць да работы несьвядомых рабочых і штрэйкбрэхераў. Сярод рэволюцыйных пропагандыстых, заклікаўшых рабочых да забастоўкі, былі рабочыя з гэтых майстэрняў і студэнты невядома якой партыі, з якіх тры чалавека былі заарыштаваны. Рабочыя хваляваньні на гэтым ня спыніліся. Калі супроць забастоўшчыкаў пачалася барацьба поліцыі — арышты, забойствы і г. д..—рабочыя пачалі ставіць палітычныя запатрабаваньні, як, напр., амністыі для палітычных зьняволеных і інш. У Гомлі 16 студзеня натоўпам рабочых быў адбіты ад канвою арыштаваны рэволюцыянэр-пропагандысты. З натоўпу па канвою было зроблена некалькі стрэлаў. У Горках адбылася бурная масавая дэмонстрацыя ў той-жа самы дзень. Масы вялі сябе так пагражаюча і былі настолькі організаваны, што поліцыя абстраляла дэмонстрацыю, ня здолеўшы разагнаць яе іначай. У выніку абстрэлу 2 чалавекі былі забіты і 1 паранены[1]).

Выкліканыя ў Гомель казакі, пачалі „наводзіць парадак". Аднак, забастоўка спынілася толькі на чыгуначных майстэрнях, дзе найбольш былі разгромлены рэволюцыйныя сілы. Усе іншыя прадпрыемствы гораду баставалі далей. Рух перакідваецца ў драбнейшыя прамысловыя пункты. 20 лютага забаставалі рабочыя копыскіх кафельных заводаў у колькасьці больш 260 чал.[2]) Забаставаўшыя абышлі ўсе заводы і заклікалі рабочых падтрымаць іхную забастоўку. Рабочыя далучыліся да забастоўкі. Наладжана была дэмонстрацыя па гораду, прычым поліцыя ўгаварвала рабочых разыйсьціся. Рабочыя,

[1]) 1905 г. у Беларусі. Зборнік архіўных докумэнтаў, ст. 207-208.
[2]) Там-сама. ст. 208-209.

яшчэ ня досыць уразумеўшыя свае палітычныя мэты, адказалі: „Мы супроцьурадавых злачынстваў не рабілі і рабіць ня будзем, а хочам змагацца з капіталізмам, і з гэтай прычыны не будзем брацца за работу і другім не дамо працаваць, а таксама не дазволім уласьнікам заводаў вывозіць з Копысю нарыхтаваны тавар, пакуль нам не падбавяць платы“. 9-га красавіка копыскія рабочыя абвясьцілі экономічную стачку з запатрабаваньнем павышэньня зарплаты і ўстанаўленьня 8-гадзіннага рабочага дня. Адсюль недалёка ўжо і да палітычнай стачкі, бо запатрабаваньні 8-гадзіннага рабочага дня мае палітычнае значэньне.

Там, дзе рабочыя ішлі за Бундам, яны праводзілі экономічныя стачкі, нават без запатрабаваньня 8-гадзіннага рабочага дня. Так, напр, 9 красавіка наладжана была ў Гомлі стачка прыказчыкаў, па ініцыятыве Бунду, выставіўшая шэраг экономічных запатрабаваньняў, сярод якіх цікавымі былі пункты аб устанаўленьні 12,5 гадзіннага рабочага дня ўлетку і 11,5—узімку і аб падвойнай плаце за работу ў яўрэйскія сьвяты—Пейсах і Сукес[1]). Адсталасьць гэтых бундаўскіх запатрабаваньняў адразу кідаецца ў вочы, як характэрная рыса Бунду. Палітычных запатрабаваньняў Бунд не выстаўляў ніякіх.

Досыць актыўную ролю ў наладжваньні палітычных выступленьняў і дэмонстрацый адыгрывалі вучні сярэдніх школ. У Магілеве 23 студзеня вучні гімназіі, рэальнай і фэльчарскай школы разам з рабочымі організавалі палітычную дэмонстрацыю. Дэмонстрацыя была расстраляна паліцыяй. Паранены 2 рэалістыя і 1 рабочы. У адказ стрэламі дэмонстрантаў паранены 1 гарадавы. Заарыштавана 10 асоб, западазроных у кіраўніцтве дэмонстрацыяй. Паліцыяй было устаноўлена, што на кватэры жонкі нотарыуса—Ельніцкай, у якой былі два сыны гімназістыя, зьбіраюцца на сходкі вучні гімназіі, рэальнай і фэльчарскай школы і духоўнай сэмінарыі ў колькасьці 30—40 чал. Шпігамі з кішэні аднаго з удзельнікаў гэтых сходак быў выцягнуты чырвоны сьцяг з надпісам: „Прэч самаўладзтва“; гэта так напалохала паліцыю, што яна зрабіла вобыск на кватэры. Вобыскам нічога „істотнага не здабыта“, як саромліва даносіў аб гэтым начальству жандарскі палкоўнік Палякоў[2]). Дэмонстрацыя супроць самаўладзтва, наладжаная вучнямі, разам з рабочымі 21 красавіка праведзена была і ў Воршы. З шэрагаў дэмонстрантаў стралялі ў паліцыю, але паранілі толькі аднаго каня пад ураднікам. Кіраўнікі дэмонстрацыі, мясцовыя соцыялдэмократы, былі выкрыты і заарыштаваны[3]).

Царызм сваімі распраўмі з рэволюцыйнымі рабочымі толькі яшчэ больш рэволюцыянізуе, азлабляе супроць сябе тых рабочых, якія яшчэ былі папрымірэнцку настроены ў адносінах да царызму. Так, у адказ на зьверскае прыдушэньне рабочых паўстаньняў у Лодзі і Адэсе, організаваліся магутныя дэмонстрацыі протэсту ня толькі ў буйных гарадох Беларусі — Менску, Віцебску, Вільні і г. д.,—але і ў невялічкіх прамысловых пунктах. 29 чэрвеня організавана была ўсеагульная стачка ўсяго насельніцтва ў м-ку Талочын[4]). Дэмонстранты, узброеныя рэвольвэрамі, кінжаламі, нагайкамі і кісьцянямі хадзілі па вуліцы з чырвонымі і чорнымі сьцягамі, гаварылі антымонархічныя прамовы. Каб запалохаць паліцыю, стралялі залпамі ўгару. І сапраўды, паліцыя была так запалохана, што ніводны паліцэйскі не

[1]) Там-сама, ст. 210.
[2]) Там-сама, ст. 209-210.
[3]) Там-сама, ст. 211.
[4]) Там-сама.

адважыўся падыйсьці да дэмонстрантаў. Нават надпісаў на сьцягох ім прачытаць не ўдалося,—так здалёку глядзелі яны на дэмонстрацыю, як прызнаецца ў сваім данясеньні жандарскі ротмістар[1]).

5-га ліпня забастоўка протэсту супроць расстрэлаў у Лодзі і Адэсе пачалася ў Воршы, 4-га ліпня—у Горках. Значны лік удзельнікаў дэмонстрацый у гэтых гарадох складаўся з вучняў. Дэмонстранты адстрэльваліся ад паліцыі, але былі разагнаны атрадам драгунаў. 9-га ліпня вялізарная дэмонстрацыя адбылася ў Гомлі. Заслухаўшы рэволюцыйную антымонархічную прамову—дэмонстранты паднялі прамоўцу на руках над натоўпамі і з чырвонымі сьцягамі пайшлі па гораду, раскідаючы па дарозе проклямацыі. Памоцнік прыстава, які пачаў пагражаць дэмонстрантам, быў забіты[2]). 11 ліпня адбылася забастоўка, на гэты раз ужо палітычная, у Копысі. Рабочыя ў Копысі прымусілі зачыніць усе крамы і, у першую чаргу, продаж гарэлкі, і спынілі рух парому праз Дняпро, каб не дапусьціць пераправы войск у Копысь. Група рабочых прайшла ў гэты дзень па полі, пераконваючы сялян у тым, што канечна трэба адсьвяткаваць гэты дзень, як і кожны іншы хрысьціянскі сьвяточны дзень. Сяляне ў большасьці пакінулі работу. Потым была наладжана дэмонстрацыя, у якой адных рабочых удзельнічала больш, як 700 чал. Дэмонстранты былі ўзброены і далі некалькі залпаў у паветра (паліцыі ня было нідзе, іначай гэтыя залпы дасталіся-б на яе долю). На другі дзень—12 ліпня, у Копысь прыслалі з Магілева роту салдат і пакінулі там для барацьбы з рэволюцыйным рухам, пасьля чаго рабочыя прымушаны былі распачаць работу на заводах[3]). У рабочых мястэчках Дуброўне і Лядах таксама праведзены масавыя дэмонстрацыі 3-га і 10-га ліпня. Частка дэмонстрантаў была ўзброена і страляла ў паасобных паліцэйскіх, не пасьпеўшых схавацца ад рабочай помсты. У Горках рэволюцыйна настроеныя рабочыя і вучні трымалі, фактычна, у аблозе (асадзе) паліцыю і чыноўніцтва, не даючы ім магчымасьці паказвацца на вуліцах, а па начох страляючы пад іх вокнамі з рэвольвэраў. Паліцэйскія докумэнты сьведчаць аб вялікім уплыве гарадзкіх рэволюцыянэраў на наўкольнае сялянства, пачаўшае паддавацца гэтаму ўплыву. У мястэчку Лядах нават і паліцыя павінна была прызнаць значную рэволюцыйнасьць мясцовых сялян. 9-га ліпня адбылася дэмонстрацыя ў Быхаве і Шклове, прычым у Быхаве дэмонстрацыя была зараз-жа разагнана, а ў Шклове рабочыя хваляваньні цягнуліся да 16-га ліпня. У гэты апошні дзень дэмонстрацыя была наладжана масавая і дружная. Былі зьняты з работы рабочыя ўсіх прадпрыемстваў, да дэмонстрацыі далучылася значная частка сялян. Дэмонстранты несьлі чырвоныя і хаўтурныя сьцягі. Некалькімі стрэламі з натоўпу паліцыя была разагнана. У той-жа дзень з Магілева была накіравана ў Шклоў рота салдат, з дапамогай якой паліцыя ўзялася „наводзіць парадак“. Было арыштавана 9 чал. кіраўнікоў з мясцовай соцыял-дэмократычнай організацыі. Каб ня было хваляваньняў і надалей роту—салдат пакінулі на нейкі час у Шклове[4]).

Наогул у 1905 г. паліцэйскія органы ўлады толькі тады лічылі сябе ў бясьпецы, калі ім удавалася выпрасіць у начальства прысылкі войска. Але прыслаць салдат ва ўсе гарады і мястэчкі ня было магчымасьці, прыходзілася здымаць салдат з аднаго месца і перакідаць іх у другое, а тым часам у ранейшым месцы зноў аднаўляўся рэволю-

[1]) Там-сама.
[2]) Там-сама, ст. 212, 214.
[3]) Там-сама, ст. 215-216.
[4]) Там-сама, ст. 216-217.

цыйны рух. Так, напр. паўстаньне ў Талочыне скончылася тады, калі туды прысланы быў атрад драгунаў, які пасвойму расправіўся з працоўнымі і застаўся там на нейкі час. Але ў хуткім часе паўсталі сяляне ў маёнтку аднаго з буйнейшых паноў—Любамірскага. Для прыдушэньня паўстаньня ў маёнтку такой важнай асобы патрабавалі самых надзейных войск. Туды і былі накіраваны драгуны з Талочына. Тут цікава адзначыць, як характарызуе жандарскае данясеньне вынікі дзейнасьці драгунаў: „Пры появлении полуэскадрона драгун, под влиянием исправника, экономия и крестьяне пришли к миролюбному соглашению“ [1]. Добрае „миролюбнае соглашение“! Яны бізунамі навялі парадак у маёнтку вяльможнага пана. Затое ў Талочыне зараз-жа пасьля выхаду з мястэчка драгун, пачаліся ізноў рабочыя непарадкі і цягнуліся да таго часу, пакуль туды ня прыслалі роту салдат і не пакінулі яе там надалей. Такія факты лепш за ўсё сьведчаць аб правільнасьці ленінскай тактыкі ў рэволюцыі, якая заключаецца ў канечнай патрэбе злучэньня ў рэволюцыі рабочых паўстаньняў у гарадох з сялянскай вайной супроць паноў на вёсцы. Калі-б у 1905 г. ўдалося злучыць „у адно рэчышча тры струмяні“, як казаў Ленін:—паўстаньні рабочых, сялян і салдат, у царызма не хапіла-б сіл на прыдушэньне паўстаньня“.

Важна адзначыць яшчэ адзін факт рэволюцыйнага руху ў Магілеве, які характарызуе клясавую сьвядомасьць рабочых. 28-га ліпня памёр ад збойства паліцыі мясцовы соцыял-дэмократ Эйтынгоф. Рабочыя, да якіх далучылася і шмат вучняў, арганізавалі ўрачыстае пахаваньне яго. Некалькі тысяч чалавек ішлі за труной. Каб не дапусьціць дэмонстрацыі протэсту, якая рыхтавалася рабочымі, былі выкліканы 2 роты Каднікаўскага палка мясцовага гарнізону, якія сталі разганяць ўдзельнікаў хаўтурных провадаў прыкладамі. Аднак, шматтысячны натоўп не разыходзіўся. Тады, далі некалькі стрэлаў па натоўпу. Бяззбройныя пачалі разьбягацца, узброеная дружына дала некалькі (да 60) адказных стрэлаў. Згодна з паліцэйскімі данымі, было паранена 6 рэволюцыянэраў і 1 салдат, хоць сам паліцэйскі докумэнт зазначае, што было паранена і „шмат іншых, але гэта захоўваюць“ [2]. Трэба сказаць, што ўдзел у пахаваньні быў добрай зачэпкай для выступленьня, а самае выступленьне было падрыхтавана яшчэ 23 ліпня шматтысячным (нават паводле прызнаньня паліцыі) сходам у гарадзкім садзе.

Паміж студзенем і кастрычнікам рабочыя хваляваньні не абмінулі ніводнага гораду, мястэчка. У буйных гарадох, як, напр., Гомлі, паводле заявы жандармэрыі: „вулічныя дэмонстрацыі дасягнулі зусім нясьцерпных разьмераў“ [3]. Ва ўсіх мястэчках і маленькіх прамысловых пунктах таксама адбываліся стачкі і дэмонстрацыі, тым больш, што ў дробных гарадох ды паселішчах было мала паліцыі. У некаторых мясцох наладжваліся палітычныя дэмонстрацыі, у іншых толькі экономічныя стачкі, якія, аднак, былі толькі падрыхтоўчай ступеняй да палітычнай барацьбы. Так, напр., у ліпні адбыліся 2 буйныя экономічныя стачкі—11 ліпня на цьвіковым заводзе ў маёнтку Барань, 30—у Высочанах на ільнопрадзільнай фабрыцы. Абедзьве стачкі праходзілі пад кіраўніцтвам Аршанскай організацыі Палескага Камітэту РСДРП, якая ў большасьці складалалася з бальшавікоў. Хоць гэтыя стачкі, якія скончыліся экономічнай перамогай рабочых, спыніліся,

[1] Там-сама, ст. 220.
[2] Там-сама, ст. 221-222.
[3] Там-сама, 224.

але не надоўга. Пасьля кастрычнікавых дзён гэтыя заводы ўцягваюцца і ў палітычную барацьбу; Бараньскі завод паказаў сябе вытрыманым барацьбітом у стачцы з 12 да 17 кастрычніка і прыняў актыўны ўдзел у антыўрадавай дэмонстрацыі 20 кастрычніка.

Кастрычнікавыя дні 1905 г. навучылі рэволюцыйнай барацьбе, уцягнулі ў яе і тыя рэшткі рабочых мас, у якіх яшчэ дагэтуль былі ілюзіі конституцыйных магчымасьцяй. Але на Беларусі рабочыя масы хутка „вылечыліся“ ад сваёй „ілюзійнай хваробы“—ад веры ў царскую справядлівасьць і ласку. У самы дзень выданьня маніфэсту 17 кастрычніка па загаду губэрнатару Менску Курлова салдаты стралялі ў вялізарны натоўп людзей, які сабраўся к вакзалу на мітынг. Было забіта 50 чал., 300 чал. паранена. Пацьвердзіліся словы бальшавіцкіх прамоўцаў на мітынгу (Каменева, Сьмірнова і інш.), што пакуль самаўладзтва ня скінута, ня можа быць і гутаркі пра свабоду. І з гэтага часу бальшавіцкія організацыі набываюць самы вялікі аўторытэт у рабочых масах. Рабочыя адважна ідуць у бой з царызмам і ўжываюць тут усе тыя мэтоды барацьбы, якія ім раілі бальшавікі.

Ажыцьцяўляючы пастановы бальшавіцкага III-га партыйнага зьезду, партыйныя соц.-дэм. організацыі Беларусі ў пэрыод ад кастрычніка да сьнежня 1905 г. сталі на чале буйных прамысловых, чыгуначных і паштова-тэлефонных стачак. Раённыя організацыі РСДРП, як мы бачылі, складаліся ў-большасьці з бальшавікоў, а дзеля таго імкнуліся гэтыя стачкі організаваць у адзіную ўсеагульную стачку, каб потым абярнуць яе ва ўзброеную дэмонстрацыю і ўзброенае паўстаньне. Найбольшую ролю ў рэволюцыйных падзеях гэтага пэрыоду адыгралі Магілеўскі і Гомельскі акруговыя Камітэты партыі і Аршанская раённая організацыя. Быхаўская організацыя 12 кастрычніка паспрабавала наладзіць дэмонстрацыю пад соцыял-дэмократычнымі лёзунгамі, але з прычыны надзвычай нязначнай колькасьці рабочых у гэтым горадзе, дэмонстрацыя ня ўдалася — праз гадзіну была разагнана.

Разам з другімі расійскімі чыгункамі з самага пачатку кастрычнікавай стачкі забаставала ўся Лібава-Роменская чыгунка. Асабліва дружна ўступілі ў стачку чыгуначнікі Гомлю і Жлобіна. Станцыя Ворша далучылася да стачкі; але не з такой энэргіяй і аднадушнасьцю. У Воршы 11-га кастрычніка па сьвістку рабочыя дэпо кінулі работу і зьнялі з яе ўсіх іншых рабочых і тэлеграфістых. Ад прыйшоўшых паштовых цягнікоў былі адчэплены паравозы і выпушчана пара. Стачка пачалася. Сярод масы стачачнікаў хутка зьявілася рэволюцыянэрка Сычова, прачытаўшая ім проклямацыю неўстаноўленага зьместу. На яе лёзунг: „Прэч самаўладзтва“ стачачнікі аднадушна (нават па заўвазе паліцэйскага даносу) крычалі „ўра“ [1]). Атрады жандараў і канвойных салдат прабіліся ў натоўп заарыштаваць прамоўцу. Стачачнікі паспрабавалі адбіваць яе, але пасьля пагроз узброенага канвою разышліся. Арыштаваную павялі ў турму, а тым часам некалькі рабочых паехалі ў горад, дзе сабралі значны натоўп з мэтай адбіць Сычову ад канвою. Падасьпеўшай на дапамогу канвойным вайсковай часьці ўдалося прымусіць натоўп разыйсьціся, і арыштаваная была пасаджана ў турму. Увечары таго самага дня рабочыя сабраліся на сходку ў прысутнасьці спраўніка і згадзіліся там скончыць стачку, калі яна наогул будзе скончана на гэтай чыгунцы (Маскоўска-Брэсцкай). Уночы-ж прыехала з Магілева 2 роты Карнікаў-

[1]) Там-сама, № 227.

скага палка, а назаўтра яшчэ дзьве роты, яны разьмясьціліся на станцыі і ў горадзе і спынілі ўсякі рух. Стачка, аднак, цягнулася датуль, пакуль баставала ўся чыгунка.

Пасьля выданьня маніфэсту рабочыя масы Беларусі вышлі на вуліцу з чырвонымі сьцягамі і з рэволюцыйнымі сьпевамі ды лёзунгамі „прэч самаўладзтва“ і наладзілі дэмонстрацыю спачуваньня палітычным зьняволеным. Але ўлада вельмі спалохалася нават і такога нявіннага докумэнту, як маніфэст. У радзе месц губарнатары не давалі дазволу на мітынгі, якія зьбіраліся чыноўніцтвам.

У Воршы маніфэст быў утоены ад насельніцтва (як і ў шмат якіх іншых гарадох, напр., у Менску). Толькі 18 кастрычніка ўвечары аршанцы даведаліся аб гэтым і наладзілі рэволюцыйную дэмонстрацыю. Рота салдат, якая знаходзілася ў Воршы, не разганяла дэмонстрацыі толькі дзеля таго, што было мала сіл. Назаўтра дэмонстрацыя аднавілася і з рэволюцыйнымі сьпевамі і лёзунгамі накіравалася да турмы патрабаваць вызваленьня палітычных зьняволеных. Дэмонстранты дабіліся ад прокурора вызваленьня 2-х зьняволеных з турмы і 7 чал. з паліцэйскае ўправы. Апісваючы гэта ў дакладзе начальству, Аршанскі жандарскі ротмістар скардзіцца і на камандзіра роты, які адмовіўся страляць у насельніцтва, пакуль натоўп ня выявіць гвалту над асобамі. А дэмонстранты як раз былі вельмі спакойна настроены і ніякіх гвалтаў не рабілі. Жандары паспрабавалі-б і тут спровокаваць сутычку з масамі, але не спадзяваліся на сваіх салдат і прасілі прысланць больш войска. Як мы ўжо зазначалі, на дэмонстрацыю ў Воршы зьявіліся ў поўным складзе рабочыя з Бараньскага заводу, які знаходзіцца за горадам на досыць значнай адлегласьці.

З 21-га кастрычніка пачынаюцца пагромы. Паліцыя адкрыта рыхтавала пагромы на патрыотычных сходах усякіх басяцкіх і крымінальных элемэнтаў. У Воршы і Магілеве паліцыя афіцыяльнымі загадамі старастам прыгародных вёсак выклікала сялян з хоць-якой зброяй у горад на пагром. Так, у Магілеў 22-га кастрычніка адначасна прыехала цэлым „чорным абозам“ падвод з 200 сялян з віламі і сякерамі. На запытаньне мясцовага соцыял-дэмократа сяляне адказалі, што ня ведаюць куды едуць; загадалі ім узяць з сабой вілы і тапары— і паабяцалі даць узнагароду прамысловымі таварамі. Але сама паліцыя і гарадзкія чорнасоценцы яшчэ былі не падрыхтаваны да пагрому. Прышлося сялян (якія ўсе спыніліся каля паліцэйскай управы) адпусьціць дамоў і яны, лаючы паліцыю, разьехаліся.

У Воршы яшчэ 19-га кастрычніка ўзброены паліцыяй чорнасоценцы гарадзкіх акраін і бліжэйшай вёскі, 19 і 20 узброеныя пагромшчыкі, бясконца страляючы, ходзяць па гораду, настрайваючы супроць „яўрэяў і дэмократаў“ гарадзкое мяшчанства і прыезжых сялян. 21-га пачаўся пагром. Дзьве сям'і яўрэяў (8 чалавек) было забіта, калі разьнесьліся чуткі, што рэволюцыянэрамі наладжана засада з бомбамі, пагромны натоўп разышоўся [1]).

Баючыся адпору ўзброенай рабочай абароны, чорнасоценцы Воршы надумаліся вывесьці абарону з гораду. Організавалі пагромную дэмонстрацыю ў Копысі і пашырылі чуткі аб гэтым у самой Воршы. Абарона на падводах у значным ліку выехала ў Копысь. А тым часам прыехаўшы ў Воршу віцэ-губернатар наладзіў патрыотычную маніфэстацыю, якая, паводле яго інструкцыі, скончылася пагромам [1]). Аршанскі жандарскі палкоўнік даносіў — у горадзе ўсё спа-

---

[1]) Там-сама, ст. 233

койна, быў пагром, параненыя ёсьць, забітых няма. Паліцыя зрабіла сваю справу.

Гэтым царызм перайшоў у наступленьне і зноў загнаў у падпольле рэволюцыйны рух рабочых. Але навучаныя горкай практыкай рабочыя перасталі спадзявацца на царскую ласку і справядлівасьць і прызналі адзіным сваім кіраўніком бальшавіцкую партыю, якая вяла іх да бязьлітаснай канчатковай барацьбы з царска-дваранскім ладам, а разам і з капіталізмам. Былі яшчэ выпадкі героічных боек пролетарыяту з сіламі царызму. Так, напрыклад, у Мазыры ўлада была захоплена ў рукі аб'яднанага Рэволюцыйнага Камітэту і ўтварылася вядомая ў гісторыя рэв. руху на Беларусі „Мазырская Рэспубліка". Сілы пролетарыяту былі настолькі організаваны, што і пасьля аднаўленьня ранейшага парадку ў Мазыры, улада не адважылася расправіцца з кіраўнікамі паўстаньня і толькі пасьля прыдушэньня сьнежаньскага паўстаньня, калі рэволюцыйны рух пайшоў на зьмяншэньне, яны былі засуджаны.

Пад кіраўніцтвам сваёй партыі пролетарыят выкарыстаў практыку 1905 году і ў 1917 годзе рашуча і назаўсёды зьнішчыў стары лад і эксплёататарскія парадкі. „Генэральная рэпэтыцыя" 1905 году саслужыла добрую службу для пераможнага Кастрычніка. Дзякуючы гэтай „генэральнай рэпэтыцыі", пролетарыят ішоў цьвёрдай ступой і найбольш простым шляхам ад перамогі да перамогі — і цяпер таксама пераможна будуе соцыялізм у нашай пролетарскай соцыялістычнай бацькаўшчыне.

---

**Ф. П. Садоўскі.**

# Музэй—магутны агітатар і пропагандысты соцыялістычнага будаўніцтва.

Людзі мысьляць не абстрактна, а жывымі, строга акрэсьленымі вобразамі. Гэта мысьленьне жывымі вобразамі ніколі не зьяўлялася ніжэйшай формай мысьленьня, наадварот, такая іменна форма мысьленьня адпавядае практычным задачам будаўніцтва. Чалавек жыве і змагаецца за сваё існаваньне не ў беспаветраных прасторах, а ў пэўным конкрэтным абкружэньні, конкрэтна сустракаючы, перашкоды акружаючага, ён павінен іх перамагаць і тварыць патрэбнае, неабходнае для існаваньня чалавечай грамады. Іменна з гэтага і вынікае тая вобразнасьць і конкрэтнасьць мысьленьня, якая ўласьціва чалавецтву і асобнаму індывіду чалавечай грамады. Тэхнік, інжынэр, агроном, статыстык, плянавік, пэдагог ніколі ня мысьляць адцягнена, а конкрэтна, як таго патрабуе конкрэтны строга ачэрчаны об'ект іх работы. Інакш кожны з іх уяўляў-бы з сябе не здаровага будаўніка, а пустога лятуценьніка, Манілава, які будуе паветраныя замкі, замест патрэбнага чалавецтву падпарадкаваньня прыроды, заместа неабходнага разьвіцьця вытварчых сіл.

У гэтым аспэкце ў практычным будаўніцтве, у практычным змаганьні чалавека з прыродай, а асабліва ў практычным будаўніцтве новых форм жыцьця, новых нябачаных да гэтага соцыялістычных форм гаспадаркі, набывае асабліва важнае значэньне музэй, як цэнтар нагляднага азнаямленьня шырокіх мас будаўнікоў з формамі, прыёмамі і тэхнікай будаўніцтва ва ўсіх галінах жыцьця. Музэй павінен быць магутным фактарам будаўніцтва. Музэй павінен зьявіцца найлепшым агітатарам і пропагандыстым будаўніцтва. Гэту вельмі простую і відавочную для ўсіх ісьціну мы падкрэсьліваем іменна зараз, калі мы на шостай частцы зямной кулі будуем соцыялістычны лад.

Будаўніцтва соцыялізму патрабуе сіл, патрабуе актыўнага ўдзелу самых шырокіх пролетарскіх і працоўных мас гораду і вёскі. Кожны пролетар, кожны колгасьнік, батрак, бядняк, серадняк, саматужнік і рамесьнік з малых гадоў павінен стаць актыўным будаўніком соцыялістычнага будаўніцтва. Такім ён зможа быць толькі тады, калі на кожным кроку сваёй практычнай працы ён будзе сустракацца, будзе бачыць належныя ўзоры гэтага будаўніцтва. Паказчыкам, а значыць і зьбіральнікам для шырокага азнаямленьня мас, для шырокага распаўсюджаньня належных узораў соцыялістычнага будаўніцтва і павінны зьявіцца музэі, якія організуюцца ва ўсіх галінах будаўніцтва народнай гаспадаркі.

Асноўным недахопам усіх існаваўшых раней музэяў быў іх акадэмізм, які заключаецца ў іх унівэрсалізьме, усеабхватнасьці і ў асноўным прызначэньні іх быць захоўнікамі рэдкасьцяй, часам дзівотаў, нявідаліц, замест таго, каб быць агітатарамі і пропагандыстымі будаўніцтва. Зусім зразумелаю зьяўляецца і тая акалічнасьць, што наведвальнікам старых музэяў, музэяў дарэволюцыйнага часу быў выпадковы контынгент, людзей, аматараў рэдкасьцяў, нявідальшчыны, паклоньнікаў старасьветчыны. Зразумела для нас пагэтаму і тое, што самы контынгент наведвальнікаў дарэволюцыйных музэяў быў нязначны па сваёй колькасьці.

Кастрычніцкая рэволюцыя, палажыўшая пачатак будаўніцтва соцыялізму, адчыніла музэі для шырокіх пролетарскіх і працоўных мас гораду і вёскі. Музэі сталі наведвацца іменна гэтымі шырачэннымі масамі будаўнікоў соцыялізму. Само сабою зразумела, што ранейшыя ўстаноўкі музэяў быць захоўнікамі толькі рэдкасьцяй не маглі задаволіць запатрабаваньняў шырокіх мас будаўнікоў соцыялізму. Апошнія патрабуюць ад музэяў, каб яны сталі актыўнымі агітатарамі і пропагандыстымі новых форм будаўніцтва. Музэй з гэтага пункту гледжаньня павінен стаць зьвяном соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта запатрабаваньне ў асноўным выклікала неабходнасьць рэорганізацыі працы — фактычна соцыялістычнай рэконструкцыі музэйнай справы ў нас у СССР. З унівэрсальных, рэдкіх тэрыторыяльна і мала даступных шырокім масамустаноў, яны павінны стаць у нашых умовах практычнымі ўстановамі для зьбіраньня і захоўваньня, у мэтах сапраўднага пашырэньня і распаўсюджваньня ўзораў соцыялістычнага будаўніцтва ў самых рознастайных галінах народнай гаспадаркі. Вось чаму побач з старымімузэямі, праца якіх у аснове сваёй павінна быць рэконструявана, выходзячы з вызначаных вышэй установак, — наша краіна павіннапакрыцца і пакрываецца агромнай разгаліненай сеткай новых спэцыяльных музэяў, адпаведна відам і формам соцыялістычнага будаўніцтва. Буйная фабрыка, завод, аб‘яднаньне дробных саматужных і рамесь-ніцкіх прадпрыемстваў, буйны колгас, саўгас, МТС, грамадзкія, бытавыя організацыі і ў тым ліку асабліва краязнаўчыя організацыі, павінны абрасьці музэямі для зьбіраньня, захаваньня, пашырэньня і распаўсюджаныя ўзораў соцыялістычных форм і мэтодаў працы, форм і мэтодаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Зараз коратка застановімся на відах музэяў, іх організацыі і найлепшых формах пастаноўкі іх працы. Усім вядома, як шырока разгарнуліся ў нас антырэлігійныя музэі. Але мала вядома аб тых конкрэтных выніках якія атрымаліся ад гэтых музэяў у справе пастаноўкі антырэлігійнай пропаганды. Пакуль вядома толькі адно, што гэтыя вынікі вельмі нязначныя. Віной гэтаму—няўменьне належна організаваць працу антырэлігійных музэяў. Праца-ж іх да апошняга часу была організавана так, што яна ня толькі ня служыла справе антырэлігійнай пропаганды, а наадварот, была часам непасрэдным дапаможнікам рэлігіі. Простым зьбіраньнем і захаваньнем рэлігійных рэчаў у адпаведным афармленьні, яны (гэтыя, з дазволу сказаць, антырэлігійныя музэі) служылі мэтам рэлігіі. Усім, напрыклад, вядома, што царкоўныя аддзелы музэяў у БССР у руках беларускіх контр-рэволюцыянэраў нацыянал-дэмократаў служылі непасрэдным мэтам захаваць ад рэволюцыйнага зьнішчэньня „сьвятыя рэчы“, каб, дабіўшыся ў выніку сваёй барацьбы з савецкай сыстэмай „аўтакефальнай беларускай царквы“, абярнуць гэтыя рэчы на непасрэдную службу царквы, для

далейшага адурманьваньня шырокіх пролетарскіх і працоўных мас гораду і вёскі. Выходзячы з гэтай асноўнай устаноўкі, нацдэмы з замілаваньнем зьбіралі і захоўвалі царкоўшчыну ў музэях. Царкоўныя аддзелы ў беларускіх музэях фактычна афармляліся так, каб выклікаць „благоговение“ гледача. У гэтых аддзелах захоўваліся мошчы, іконы, царкоўнае начыньне, рызы, і захоўваліся бяз жаднай расшыфроўкі клясавай сутнасьці гэтых рэчаў. Затушоўвалася і хавалася ад шырокіх мас і клясавая сутнасьць самой рэлігіі. Паказаць клясавую сутнасьць рэлігіі, царквы, клясавы твар сьвятых усіх рэлігій, пачынаючы ад паганства і канчаючы сэктанцтвам, чаго як раз і не рабілі беларускія контр-рэволюцыянэры нацдэмы, — асноўная задача антырэлігійных музэяў і царкоўных аддзелаў агульных музэяў у БССР. Мала паказаць у музэі проста ікону, мала паказаць проста мошчы, а трэба разам з паказам гэтых рэчаў на вітрынах, зробленых для таго спэцыяльна, паказаць клясавую сутнасьць ікон, сьвятых, машчэй і інш. Паказваючы іконы розных сьвятых, архірэяў і манахаў тут-жа патрэбна паказаць, як падобныя духоўныя „айцы“ сучаснасьці—папа рымскі, эпіскоп кентэрбэрыйскі, эпіскоп дэргэймскі і іншы эпіскопскі сойм—арганізуюць непасрэдны ваенны—ня з крыжам, а з зброяй—паход супроць соцыялістычнай краіны, супроць СССР. Паказваючы мошчы, трэба тут-жа на вітрыне навочна паказаць гледачу, як непасрэдна служылі гэтыя мошчы мэтам абагачэньня асобных князёў царквы, як пры дапамозе машчэй гэтыя паразыты выціскалі пот і кроў з працоўных, выціскалі з іх апошнюю капейку. Паказваючы іконы, дзе папамі розных рэлігій благаслаўляецца войска на вайну тут-жа на вітрыне неабходна навочна паказаць малюнак няшчасных ахвяр вайны, паказаць наглядна даныя аб калеках фізычных і моральных у выніку вайны, у дыяграмах паказаць, як апошняя імпэрыялістычная вайна адбілася на жыцьці сусьветнага пролетарыяту; паказаць, на каго фактычна і сапраўды ляглі ўсе цяжкасьці сусьветнай вайны. Асноўнае—гэта паказаць яскрава клясавую сутнасьць рэлігіі, і тады антырэлігійныя музэі зробяцца сапраўды цэнтрамі, якія даюць конкрэтныя формы і мэтоды антырэлігійнай пропаганды. Толькі так, толькі пад гэтым кутом погляду краязнаўчыя організацыі павінны заняцца праверкай работы музэяў і дапамагчы перабудаваць работу апошніх.

Асабліва важнае значэньне набывае на даным этапе нашага соцыялістычнага будаўніцтва вытворчы музэй і аддзелы вытворчасьці ў агульных музэях. Гэтымі музэямі павінна пакрыцца наша краіна, імі павінны абрасьці нашы прамысловыя прадпрыемствы, колгасы, саўгасы, МТС. Гэтыя віды музэяў павінны вырасьці з вытворчых куткоў, якія організуюцца краязнаўчымі гурткамі і ячэйкамі на прадпрыемствах. Вытворчыя-ж аддзелы агульных музэяў павінны праз організацыю самых разнастайных вітрын стаць магутнымі агітатарамі і пропагандыстымі новых соцыялістычных форм жыцьця. Паказваючы ў экспонатах, у дыяграмах, у належна аформленых лічбах вынікі соцспаборніцтва, ударніцтва, пашыраючы найлепшыя формы якімі соцспаборніцтва, ударніцтва ў пэўных выпадках дала найдадатныя вынікі,—гэтыя вытворчыя аддзелы музэяў павінны даць і формы і спосабы пашырэньня гэтых вынікаў на іншыя прадпрыемствы, на іншыя галіны народнай гаспадаркі. У вытворчых музэях усе моманты вытворчага процэсу павінны знайсьці сваё навочнае выяўленьне, усе хібы і дадатныя бакі вытворчага тэхнолёгічнага процэсу павінны адлюстравацца на вітрынах вытворчых музэяў. Паказваючы лепшыя экспонаты вытворчасьці, музэй павінен знайсьці належныя формы распаўсюджваньня,

пашырэньня спосабу выпрацоўкі лепшых продуктаў вытворчасьці. Паказваючы экспонаты бракоўныя, дрэнныя, музэі павінны абавязкова ўказаць, як у далейшым унікнуць хібаў у вытворчасьці. Даючы дадатныя вынікі социялістычных форм працы на прадпрыемстве, музэй павінен наглядна паказаць гледачу, як прадпрыемства дабілася гэтых вынікаў. Даючы адмоўныя вынікі, музэй павінен знайсьці формы, каб наглядна паказаць на сваіх вітрынах прычыны гэтых адмоўных вынікаў. Толькі пры такіх умовах вытворчыя музэі і вытворчыя аддзелы агульных музэяў змогуць стаць сапраўднымі агітатарамі і дзейнымі пропагандыстымі соцыялістычнага будаўніцтва.

Выходзячы з вышэйсказанага асабліва важнае значэньне набывае пытаньне аб рабоце краязнаўчых гурткоў і ячэек, якія організуюцца пры ўсякага роду прадпрыемствах. Організацыйна пры вытворчых аддзелах музэяў гурткі спэцыяльна не організуюцца, але, па мойму, неабходна практыкаваць прымацаваньні гурткоў краязнаўства, якія існуюць па-за прадпрыемствамі, да вытворчых аддзелаў музэяў. Работа гэтых гурткоў у асноўным і павінна быць накіравана на тое, каб дабіцца поўнага ажыцьцяўленьня вытворчых задач, якія стаяць перад вытворчымі музэямі. Перабудова ў паказаным выглядзе работы вытворчых аддзелаў музэяў не пад сілу аднаму афіцыйнаму служачаму пэрсоналу музэяў. Ужо наперад трэба сказаць, што тыя музэі, якія ня змогуць мобілізаваць краязнаўчай грамадзкасьці, якія адарвуцца ад работы краязнаўчых організацый, якія не мобілізуюць вакол музэяў краязнаўчых гурткоў,—ня змогуць пановаму, як таго настойліва вымагае жыцьцё, перабудаваць працу сваіх музэяў і апашнія па-ранейшаму застануцца ўнівэрсальнымі, пасыўнымі захоўнікамі рэдкасьцяй мінуўшчыны, старасьветчыны, бескарыснай для сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва.

У сувязі з сказаным, паўстае пытаньне аб тым, як-жа быць музэям у адносінах мінуўшчыны, старасьветчыны. Ці ня выкінуць з музэяў помнікі мінулага. Так, зразумела, пытаньне ня ставіцца. Музэі і ўдалейшым павінны будуць зьбіраць і захоўваць помнікі мінулай гісторыі чалавецтва і яго матар'яльнай культуры, але гэта будзе рабіцца з пункту гледжаньня зусім новай установкі. Мінулае не дзеля мінулага, старасьветчына не дзеля старасьветчыны, а мінулае і старасьвецкае чалавецкай культуры для таго, каб у гэтым мінулым знайсьці сілы, абгрунтаваньне для будаўніцтва новага соцыялістычнага грамадзтва. Так і толькі так павінна ставіцца гэтае пытаньне.

Школьны музэй павінен быць пры кожнай школе ўсіх ступеняй. Яго грунт—розныя гурткі, якія організуюцца пры школах. Вытворчы куток павінен адбіць сабою жыцьцё і працу тых вытворчых прадпрыемстваў, з якімі непасрэдна зьвязана даная школа. Усе вытворчыя процэсы гэтых прадпрыемстваў, дадатныя і адмоўныя бакі гэтых процэсаў павінны знайсьці адлюстраваньне ў вытварчых кутках школы, у школьных музэях, з дасканалым растлумачэньнем і наглядным паказам прычын дадатных ці адмоўных вынікаў. У гэтых школьных музэях павінны быць шырока пастаўлены масавыя досьледы вучнёўскай моладзі па розных практычных пытаньнях вытворчасьці—пастаноўка досьледаў новых тэхнолёгічных процэсах у прамысловых прадпрыемствах, усебаковы аналіз глебы колгасу, саўгасу, спробы тарфаваньня, вапнаваньня глебы і г. д. і г. д. У гэтых-жа музэях павінна быць пастаўлена пытаньне вынаходніцтва. Пытаньнем вынаходніцтва павінны быць зацікаўлены ўсе краязнаўчыя гурткі на прадпрыемствах, у школах і інш.

У кутках рэвалюцыйнага руху і гісторыі комуністычнай партыі ў школьных музэях і асабліва ў агульных музэях у вялікім маштабе павінна быць пастаўлена пытаньне зьбіраньня даных аб рэвалюцыйным руху ў данай мясцовасьці. Павінны быць сабраны докумэнты, пісьмовыя і вусныя даныя аб падзеях у гэтай галіне, фотографіі рэволюцыйных дзеячоў, павінны быць сабраны докумэнты поліцэйскіх органаў аб барацьбе з рэволюцыйным рухам, фотографіі крывавых катаў, вусныя паданьні і расказы аб іх агідным жыцьці з мэтай прадставіць іх перад масамі гледача ў самым агідным выглядзе. На вітрынах гэтых аддзелаў павінны быць сабраны помнікі матар'яльнай культуры, якія-б увогуле яскрава характарызавалі мінулы капіталістычны лад, як лад жабрацтва, голаду, паднявольнай прымусовай работы і свабоды ад работы для рабочага, вечнай кабалы для працоўнага селяніна, працоўнага саматужніка і рамесьніка.

Вось так у асноўным павінна быць перабудавана праца старых і пабудавана праца новых музэяў рознага характару. Задачай краязнаўчых організацый зьяўляецца непасрэдная дапамога ў перабудове, у соцыялістычнай рэконструкцыі музэйнай справы. Пропаганда соцыялістычнага будаўніцтва, соцыялістычнай культуры, соцыялістычнага быту праз музэй павінна быць пастаўлена на належную вышыню. У гэтых мэтах павінна быць пастаўлена пытаньне аб організацыі перасовачных музэяў, перасовачных выставачных вітрын, у якіх адлюстроўвалася-б наша соцыялістычнае будаўніцтва ва ўсёй яго размаітасьці, ва ўсіх яго дэталях. Мала абстрактна разважаць аб соцыялістычным будаўніцтве, мала разважаць наогул, трэба конкрэтна шырокія масы будаўнікоў соцыялізму азнаёміць з конкрэтнымі плянамі гэтага будаўніцтва, з конкрэтнымі проектамі, а для гэтага вельмі добрым пропагандыстым могуць служыць музэйныя перасовачныя вітрыны, ці нават музэі-перасоўкі.

Дык за справу. Краязнаўчыя організацыі БССР, за перабудову музэйнай работы. Агарнуць работу музэяў краязнаўчым актывам і паставіць работу іх так, як таго вымагае настойліва сучасны этап соцыялістычнага будаўніцтва, этап завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР.

А. Ляўданскі.

# Нацдэмы ў саюзе з рэлігіяй і царкоўнікамі супроць дыктатуры пролетарыяту.

Да гэтага часу ў нас, у БССР, яшчэ вельмі дрэнна пастаўлена справа з антырэлігійным выхаваньнем шырокіх працоўных мас і вучнёўскай моладзі. У БССР яшчэ няма да гэтага часу нават добра абсталяванага антырэлігійнага аддзелу пры музэях у Віцебску, Гомелі, Бабруйску і інш., у той час як у БССР яшчэ вельмі шмат функцыянуючых рэлігійных дамоў (царквей, касьцёлаў, сынагог і інш.) і рэлігійных аб'яднаньняў (баптыстаў, эвангелістаў і т. п.), якія праз сваіх папоў, ксяндзоў, равінаў і інш. адурманьваюць масы. Параўнальна з гэтым у БССР вельмі мала антырэлігійнікаў, спэцыяльна працуючых на антырэлігійным фронце.

У Менску да гэтага часу нама цэнтральнага антырэлігійнага музэю, няма нават пры Дзяржаўным музэі антырэлігійнага аддзелу. Наадварот, да нядаўнага часу пры Беларускім дзяржаўным музэі ў Менску і ў Віцебску існавалі сапраўдныя царкоўныя альбо рэлігійныя хрысьціянскія і іудэйскія аддзелы, якія сыстэматычна на дзяржаўныя сродкі папаўняліся рознай царкоўшчынай праз арганізаваныя экспэдыцыі і выпадковыя закупкі „сьвятых“ рэчаў.

Гісторыя арганізацыі рэлігійнай (так, рэлігійнай) прапаганды праз царкоўшчыну ў БДМузэі вельмі навучальная. Да Кастрычнікавай рэволюцыі ў Менску быў чорнасоценны царкоўна-археолёгічны музэй, які знаходзіўся ў веданьні архірэя. І толькі пры савецкай уладзе ў 1922 г. адчыняецца ў Менску Беларускі Дзяржаўны Музэй. Але ў гэтым арганізаваным музэі засталіся ўсе традыцыі, якія былі ў былым папоўскім царкоўна-археолёгічным музэі. Нават і асабовы склад „навуковых“ супрацоўнікаў часткова застаўся той-жа самы—Паноў (былы настаўнік духоўнай сэмінарыі ў Менску) і інш. Нават і кніга для запісаў уражаньняў наведвальнікаў музэю першым дырэктарам Харламповічам была ўзята з Царкоўна-археолёгічнага музэю і скарыстана для тэй-жа мэты ў Беларускім Дзяржаўным Музэі. У гэтай кнізе на першых старонках мы чытаем:

> „18 апреля 1913 г. С удовольствием осматривал Минский церковно-археологический Музей. От души желаю ему процветания, под мудрым руководством Минского архипастора. Ректор Императорск. СПБ духовной академиии Георгий, епископ Ямбургский“.
>
> „1913 г. Октября 24 дня Минский церковно-археологический Музей посещали: Благочинный монастырей Минской Епархии архимандрит Слуцкаго монастыря Афанасий“... і інш.

Тут-жа на наступных старонках ідуць запісы ўражаньняў савецкіх экскурсій, дэлегатаў зьездаў і інш. Гэта кніга скарыстоўвалася да 1929 г., да часу панаваньня ў музэі нацдэмаў Ластоўскага, Красінскага і Бурдзейкі.

Наколькі Харламповіч не адрозьніваў мэтаў Беларускага Дзяржаўнага Музэю ад былога Царкоўна-археолёгічнага ўжо ў 1927 г., гэта відаць з наступных яго думак:.. „яшчэ раней, да вайны—піша ён,—цікавіліся тут гэтымі галінамі навукі некаторыя організацыі, якія вывучалі Меншчыну, але мэты адных былі надта вузкія (былы Менскі Царкоўна-археолёгічны камітэт), а другія... спынілі сваю працу ў пачатку вайны“ (Пяцігодзьдзе Белдзяржмузэю. „Наш Край, № 1, 1927 г., стар. 10). Такім чынам, паводле Харламповіча, задачы БДМузэю і царкоўнага камітэту адны і тыя-ж.

Сьпярша Харламповіч з Пановым узмоцнена зьбіраюць у БДМузэй усякую царкоўшчыну (іконы, рызы, эвангеліі і шмат інш.), старасьветчыну, портрэты польскіх магнатаў і паноў і т. п. Гэта робіцца організавана пад кіраўніцтвам С. Некрашэвіча і іншых нацдэмаў з Наркамасьветы. Паводле соцыяльнага заказу нацдэмаў, музэем пачынаюцца зьбірацца этнографічныя матар‘ялы, якія павінны былі высьвятляць „самабытнасьць“ беларускай культуры. Усё гэта, як ужо яскрава высьветлена, рабіліся з мэтай організацыі беларускай аўтокефальнай царквы, па ўзору украінскай аўтокефальнай царквы, якая, як вядома, зьяўлялася цытадэльлю ў руках „СВУ“ для барацьбы з савецкай уладай на Украіне. Не дарма-ж Язэп Лёсік яшчэ ў 1920 г. жаліцца на беларускіх папоў, што яны:

„...ня могуць актыўна далучыцца да нацыянальнага руху, як гэта робіць большасьць украінскага духавенства. Калі-ж гэта беларускае духавенства абразуміцца і ўспомніць слаўныя традыцыі брацтваў на Беларусі, што баранілі беларускую незалежнасьць ад заняпаду? Вось ужо украінскае духавенства даўно пераклала і выдала евангеліе на украінскай мове—а ў нас? У нас нічога ня чуваць“. (Я. Лёсік. Некалькі слоў беларускім сьвяшчэньнікам. Газэта „Беларусь“, 1920 г. № 121).

А раней, у 1918 г. Ластоўскі раіў нават маліцца па-беларуску („Вольная Беларусь“, № 28 за 1918 г.). А некалькі пазьней ён-жа праз свой часопіс „Крывіч“ у Коўне аб гэтым піша наступнае:

„Дзеля ўзросту беларускай нацыянальнай сьвядомасьці абсолютна патрэбна прызнаньне і адчуваньне ўсебеларускай нацыянальнай еднасьці: *політычнай* (аб‘яднаньне ўсіх беларускіх зямель ў незалежную беларускую (крыўскую) дзяржаву), *рэлігійнай* (утварэньне адзінай беларускай аўтокефальнай царквы)... *экономічнай* (вытварэньне беларускай тарговай клясы, фабрык, прадпрыемстваў і банкаў) (Крывіч, 1925 г., № 9, стар. 116).

А некалькі вышэй у тым-жа нумары „Крывіча“ (стар. 106-107) мы чытаем:

„І тыя беларусы, у душы якіх сільнейшая нацыянальная сьвядомасьць за ўсякую гістарычную шалуду, павінны ўсімі сіламі імкнуцца да ўтварэньня беларускай аўтокефальнай хрысьціянскай царквы. Мы павінны рваць і з Рымам і з Масквой і тварыць сваю ўласную нацыянальную царкву... Першае-ж і самае даступнае паняцьце нацыянальнай еднасьці і, пасьля нацыянальнай мовы, дасягаецца пры помачы рэлігій. Вось утварэньне гэтай

адзінай для ўсіх беларусоў рэлігіі і павінна быць заданьнем кожнага беларуса, які ўсёй сваёй душой служыць беларускаму адраджэньню".

Бяз лішніх комэнтараў тут яскрава выступаюць контр-рэвалюцыйная мэтавыя ўстаноўкі Лёсіка і Ластоўскага, а таксама і імкненьне беларускіх нацдэмаў і праз рэлігію, у якасьці аднаго з магутных сродкаў, прыйсьці да буржуазнай капіталістычнай Беларусі.

Сабраўшы колекцыі рознай царкоўшчыны, нацдэмы ў Белдзяржмузэі організуюць выстаўку „стара-царкоўнай жывапісі", а потым адчыняюць і сталы царкоўны аддзел музэю, які вабіў да сябе папоў, архірэяў, ахвотна яго наведваўшых. Такое-ж зьявішча мы назіраем і ў Віцебскім музэі, дзе таксама было нацдэмаўскае кіраўніцтва. Там былі зьмешчаны так званыя „мошчы" Ефрасіньні полацкай, да якіх прыходзілі прыкладацца „веруючыя" і сярод іх нават профэсары Ветінстыту. Дырэктар Віцебскага музэю нацдэм Васілевіч усю сваю заботу ўскладвае на царкоўны аддзел. Напрыклад, ён піша:

„Хворым месцам у жывым організму музэю зьяўляецца неўпарадкаваньне колекцый б. Ц.-Археолёгічнага музэю, якія адбіваюць мясцовую старыну 16-17-18 ст... памятнікі старабеларускай школы жывапісу... царкоўныя адзеньні... і, нарэшце, вельмі дзіўныя па ўбогасьці матар'ялы і цікавыя... розныя царкоўныя прылады, характарызуючыя ўбогі быт і ўніжанасьць рэлігійнага стану праваслаўных у эпоху польскага панаваньня на Беларусі". (З рукапіснага дакладу Васілевіча на І-м Зьезьдзе археолёгаў і археографаў у Менску, 1926 г.).

У 1925 г. у БДМузэі букет з Харламповіча і Панова папаўняецца Палеесам (сіоністым), які ўзмоцнена пачынае зьбіраць яўрэйскія рэлігійныя абрадавыя рэчы (торы, таласы, мацу, нажы рэзьнікаў, ярмолкі і т. п.), імкнучыся паказаць „самабытнасьць" яўрэйскай нацыі і культуры.

Але гэтага мала. У 1926 г. нацдэм Некрашэвіч на музэйнай радзе выказвае нездавальненьне таму, што:

„...у мастацкім аддзеле вельмі мала беларускага мастацтва, ня выяўлены экспонаты царкоўнага аддзелу". І далей: „...Некрашэвіч выказаўся, што царкоўны аддзел абавязкова патрэбна выявіць". (Протокол Музэйнай рады ад 9/Х-26 г.).

У 1926 г. пры БДМузэі была спэцыяльна організавана для „гасьцей" акадэмічнай конфэрэнцыі выстаўка рознай старасьветчыны, куды ўваходзіла і царкоўшчына. На падставе заўваг гэтых „гасьцей" дырэктар БДМузэю Харламповіч піша ў Галоўпрафасьветы:

„20.XII... у Музэй даведаліся замежныя госьці — сябры Акадэмічнай Конфэрэнцыі... выказаліся... што ня выяўлены аддзел стара-беларускага мастацтва (царкоўны аддзел)... Пажадалі... выяўленьне царкоўнага аддзелу"...

А сярод „замежных гасьцей", як вядома былі Ластоўскі і іншыя мацёрыя контр-рэволюцыянэры.

Цікава адзначыць, што адзін з „гасьцей" тэй-жа Акадэмічнай конфэрэнцыі этнограф А. Сяржпутоўскі (з Ленінграду) у музэйнай „кнізе ўражаньняў" напісаў наступнае:

„Нахожу, что необходимо выставить церковные предметы"... Гэтага „госьця" тут-жа падтрымаў другі „госьць" з Нямеччыны проф.

А. Фасмер, зазначыўшы: „Присоединяюсь к мнению глубокоуважаемого Александра Казимировича", а за ім „госьць" з Ленінграду, дырэктар бібліотэкі дзярж. ун-ту П. Гарчынскі надпісаў: „Все прекрасно, но необходимо осуществить мысль А. К. Сержпутовского". А нейкі Леў Левін напісаў: „... отдел вещественной религии, иначе говоря, облачения, рукописи и др. документы более систематизировать".

Ня дзіва пагэтаму, што Ластоўскі, прыехаўшы вясной 1927 г. на „працу" ў БССР і будучы прызначаны дырэктарам БДМузэю, адразу ўзяўся за перабудову „царкоўна-рэлігійнага" аддзелу (сьпярша так і зваўся царкоўна-рэлігійным), надаўшы яму „беларускі стыль". Увага рэлігійнаму аддзелу адчуваецца і ў проекце статуту БДМузэю, у якім напісана наступнае:

> „... захоўваць, зьбіраць і дасьледваць рэчы, маючыя адносіны да мастацтва, адбіваючагася на рэчах рэлігіі ў праваслаўных, католікаў, іудэяў і вуніятаў, а таксама рэчы рэлігійнага культу тэй, ці іншай рэлігіі, як старадаўных часоў, гэтак і сучаснасьці". (Статут БДМузэю. Проект).

У складзенай Ластоўскім інструкцыі значнае месца адводзіцца вывучэньню царкоўных будынкаў, з мэтай адшуканьня „здабыткаў народнага стылю" ў „драўляных цэрквах, капліцах, сынагогах" („Наш Край", № 8-9 за 1927 г., стар. 66).

> Нацдэм Бурдзейка (нам. Ластоўскага па БДМузэю) піша: „Роля царквы ў старыя часы спрыяла таму, што многа лепшага што выраблялі беларускія сяляне, мяшчане, і часткай шляхта, пападала ў царкву і захавалася да нашых часоў"... (З дакладу Бурдзейкі „БДМузэй да 11-й гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі").

Узмоцненым тэмпам вывучаецца царкоўшчына і ў Інбелкульце, а потым і ў БАН у асобе нацдэма Шчакаціхіна, Хозерава і інш., якія свае „працы" па гісторыі беларускага мастацтва амаль выключна будуюць на старажытных царквах, касьцёлах, рознага роду царкоўным малярстве, рэчах і малюнках, орнамэнтах царкоўных кніг (біблія Скарыны і шмат інш.). З прыездам у Менск Ластоўскага і з організацыяй Галоўнавукі пры НКАсьветы, на чале з нацдэмам Некрашэвічам, „праца" па зьбіраньню і ўкомплектаваньню БДМузэю рэчамі „беларускага стылю" з цэркваў, касьцёлаў і сынагог настолькі пашырылася, што запаўняюцца аж да адказу ўсе кладоўкі музэю. Папаўненьні імі ішлі як шляхам масавых закупак у музэі рэчаў ад розных папоў, равінаў і спэкулянтаў, так і шляхам камандыровак і экспэдыцый, на якія выдаткаваліся значныя сумы з дзяржаўнага каштарысу. Напрыклад, у 1927 г з Кутэінскага манастыру ў Воршы БДМузэем (са згоды Некрашэвіча з Галоўнавукі) было вывезена звыш 1.000 розных царкоўных рэчаў (іконы, рызы, падсьвечнікі і т. п.). Такім чынам вывозіліся рэчы і з касьцёлаў, сынагог і інш. цэркваў (Ластоўскі нават меў ад Галоўнавукі спэцыяльны мандат на права агляду ўсіх рэлігійных будынкаў і ізьяцьця з іх розных рэчаў). Усім гэтым укомплектоўваўся БДМузэй да 1930 года, калі яшчэ летам Бурдзейка і Палеес езьдзілі ў экспэдыцыю спэцыяльна вывучаць і зьбіраць царкоўныя рэчы і рэчы з сынагог.

Накапіўшы такім чынам у БДМузэі вялізарны „музэйны фонд" рознай царкоўшчыны, якая, зразумела, ніякай навуковай вартасьці ня мела, у 1929 г. Ластоўскі разам з Красінскім, Бурдзейкам (са згоды Некрашэвіча з Галоўнавукі) дагаварваецца ў часе экспэдыцый з папамі на мясцох і заводзіць з імі шырокі абмен гэтых рэчаў, даючы папом

ўзамен старых, „беларускага стылю“ царкоўных рэчаў, новыя. Гэтым фактычна нацдэмы вялі забесьпячэньне цэркваў комплектамі новага папоўскага і дыяканскага аблачэньня і утвары.

Такі таварабмен, праўда, у меншым аб‘ёме, вёўся і ў Яўрэйскім аддзеле БДМузэю.

Акрамя зьбіраньня царкоўных рэчаў, БДМузэй і Галоўнавука клапаціліся і аб ахове цэркваў, касьцёлаў і інш. рэлігійных будынкаў, ікон і т. п. З гэтай мэтай ад музэю і Галоўнавукі не адзін раз езьдзілі ў камандыроўкі і Шчакаціхін, і Красінскі. Апошні, напрыклад, у 1928 г. з фотографам езьдзіў аглядаць старую драўляную царкву ў в. Залужжа, Стара-Дароскага раёну, затраціўшы на гэта значную суму музэйных грошай. Шчакаціхін памагаў нават менскім ксяндзом рамантаваць касьцёл на Пляцу Волі.

У 1928/29 г. адміністрацыя менскага марыінскага касьцёлу просіць Галоўнавуку дазволіць ёй зрабіць наступны рамонт:

„Главного и бокового алтаря. Произвести позолоту всех имеющихся частей позолотки на алтарях и рамы икон иконописцев с наклейкой на доску. Сделать нижеследующие части резьбы на алтарях... Произвести тщательную очистку... Все вышеуказанное будет произведено без малейшего изменения старины... Председатель пятерки—Костюкевич“.

Для гэтага ў дапамогу касьцёлу Галоўнавукай прызначаецца „доцэнт Шчакаціхін, якому даручаецца быць консультантам у часе рамонту. Шчакаціхін уважліва дасьледуе касьцёл і піша на некалькіх аркушох даклад Некрашэвічу:

„... Пры аглядзе на месцы выявілася, што на напірэлях асродкавых філяраў, а таксама ў некаторых частках верхніх гзымсаў, паадбіваліся і паабсыпаліся кавалкі алебастравых аздоб, якія маюць быць рэпараваны і пазалочаны для аднаўленьня першапачатковага выгляду орнамэнтыкі. Праца гэтая, на мой погляд, цалкам патрэбная... Рэстаўрацыя іконы намечана шляхам яе дубліроўкі на новае палатно і частковае замалёўкі пашкоджаных месцаў. Ікона гэта ня мае асабліва выдатнае артыстычнае вартасьці, але ўсё-ж досыць добрага пэндзля... Намечаная рэстаўрацыя цалкам здолее яго захаваць і з гэтай прычыны зьяўляецца пажаданай. Для належнага нагляду прапаную Камісіі свае ўслугі. Шчакаціхін. 19.III.1928 г. (Справа Галоўнавукі).

Некрашэвіч накладае рэзолюцыю:

„Пазалоту аўтарных частак і рам і пафарбаваньне колён дазволіць. Рэстаўрацыю іконы божай маткі рабіць пад кіраўніцтвам доцэнта Шчакаціхіна“. Пасьля рамонту зьвярнуцца ў Камісію для агляду апошняй зробленага рамонту. 26.III.1928 г.“.

Да гэтай „працы“ запрашаецца мастак Віер, які пад „аўторытэтным“ кіраўніцтвам Шчакаціхіна аздабляе касьцёл. Гэты Віер потым па даручэньню Ластоўскага робіць цэлы рад рэстаўрацый царкоўных рэчаў і ікон і ў БДМузэі.

Мала гэтага, Ластоўскі меркаваў нават перавесьці адну з старых драўляных царквей „чыста беларускага стылю“ аднекуль у Менск і паставіць каля музэю.

Паміма зьбіраньня ў экспэдыцыях, абмену і закупкі ўсякай царкоўшчыны ад папоў, равінаў і розных колекцыянэраў - спэкулянтаў,

БДМузэй у асобах сьпярша Харламповіча, а потым Ластоўскага, Палееса і інш. шырока скарыстоўваў Усебеларускія мастацкія і інш. выстаўкі для пропаганды царкоўнай старасьветчыны „беларускага стылю“, а таксама для папаўненьня імі музэйных аддзелаў. Ластоўскім, Шчакаціхіным, Палеесам і інш. заказваліся беларускім, яўрэйскім і інш. мастаком розныя малюнкі царквей, касьцёлаў, сынагог розных „сьвятых“ і т. п. для папаўненьня музэю. Для гэтай мэты быў нават падпарадкаваны Віцебскі мастацкі тэхнікум, які, між іншым, па загаду Інбелкульту і НКАсьветы, пры дапамозе БДМузэю і Віцебскага музэю шпаркім тэмпам выконвае дзесяткі малюнкаў featurнай царкоўшчыны „беларускага стылю“ для пасылкі ў 1925 г. на Парыскую выстаўку. Наогул-жа гэты тэхнікум увесь час выконваў розныя малюнкі і вырабы па заказу нацдэмаў. Такіх малюнкаў у БДМузэі накапілася вялізарная колекцыя. Сюды яшчэ трэба дабавіць ня меншыя колекцыі фотографій розных папоў, архірэяў, ксяндзоў, равінаў, царкоўных рэчаў, розных культавых будынкаў, якія зьбіраліся ў БДМузэі Харламповічам, Ластоўскім разам з Красінскім, Бурдзейкам і Шчакаціхіным пры дапамозе іншых нацдэмаў.

БДМузэй у асобе Ластоўскага нават дайшоў да такой нагласьці, што прапанаваў мастаку Бразару маляваць невялічкія абразкі „беларускай сьвятыні“ Ефрасіньні полацкай і Скарыны, з тым, каб іх потым прадаваць па 1-2 р. наведвальнікам музэю. У пашану „беларускай нацыянальнай сьвятыні“ Еўфрасіньні полацкай адным з беларускіх контррэволюцыйных „урадаў“ быў нават утвораны вайсковы „ордэн“ — „шасьціканечны еўфрасіньнеўскі крыж“ (вышэйшая ўзнагарода), які даваўся за „баявыя заслугі“ супроць бальшавікоў. Гэты „ордэн“ для БДМузэю меўся прыслаць вядомы беларускі контр-рэволюцыянэр палкоўнік Езавітаў, аб чым з БДМузэем вялася перапіска. Але, калі „ордэн“ па якойсьці прычыне ня быў прысланы, дык затое Езавітаў прыслаў у БДМузэй поўнае абмундыраваньне афіцэра-балахоўца, як „вельмі каштоўную гістарычную рэч“.

Ластоўскі, шануючы сваю „сьвятыню“ Еўфрасіньню полацкую, у 1928 г. прызначае спэцыяльную экспэдыцыю ў Полацак для адшуканьня так званага „еўфрасіньнеўскага крыжа“. Гэты крыж, пры дапамозе нацдэма С. Мялешкі быў знойдзены ў мясцовым фінаддзеле і атрыманы Ластоўскім для БДМузэю.

Калі ў 1927 г. ужо нацдэмам няёмка казалася вясьці адчыненую барацьбу за рэлігію, то пачалася замаскаваная, але тая-ж па зьместу, праца ў музэі. Ластоўскі і Бурдзейка пад відам антырэлігійнай пропаганды ўтварылі вясной 1930 г. „антырэлігійны“ аддзел, які абсталёўваецца ўсімі тымі-ж самымі царкоўнымі рэчамі, якія раней былі ў царкоўных аддзелах. Дадаецца толькі некалькі новых надпісаў і малюнкаў для маскіроўкі.

З вышэйпаданага вынікае, што нацдэмамі і інш. шовіністамі доўга і ўпарта ў савецкіх умовах праводзілася шкодніцкая контр-рэволюцыйная работа ў напрамку зрабіць рэлігію ў сваіх руках магутнай зброяй і сродкам барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту. Для чаго, само сабой зразумела, яны (нацдэмы) падбіралі свае кадры, адданыя нацдэмам і шалёна ненавідзячыя савецкую сыстэму. Новых сьвежых, ня іхніх работнікаў контр-рэволюцыянэры нацдэмы сустракалі ў штыкі. Нацдэмы, працуючыя ў НКАсьветы і Беларускай Акадэміі Навук, пры нявіданным папусьціцельстве нацыянал-опортуністаў дапамагалі сваім аднадумцам пазбавіцца ад нежаданых савецкіх элемэнтаў.

Вынікі, якія неабходна зрабіць з усяго вышэйсказанага наступныя:

1. Беларускія контр-рэволюцыйныя нацыянал-дэмократы, аддаючы ў музэйнай рабоце максымум увагі рэлігіі і царкоўшчыне, імкнуліся ня толькі захаваць рэлігію і царкву, а праз тыя эмоцыянальныя пачуцьці, якія адчуваў яшчэ не канчаткова парваўшы з традыцыямі і рэлігіяй масавы наведвальнік, імкнуліся пашырыць рэлігійнасьць, скарыстоўваючы адпавядаюча аформленую царкоўшчыну ў музэях.

2. Нацдэмы імкнуліся да ўтварэньня аўтокефальнай беларускай царквы з мэтай зрабіць яе ў сваіх руках магутнай зброяй і сродкам барацьбы з ненавіснай ім савецкай сыстэмай, за сыстэму капіталістычную, за БНР паноў, кулакоў і буржуазіі. Прыклад, варты іх увагі, нацдэмы мелі ў аўтокефальнай украінскай царкве, шалёна змагаўшайся з савецкай уладай на Украіне.

3. Усё гэта нацдэмы рабілі задаючыся не якімісь-та ўзвышанымі рэлігійнымі ці моральнымі пачуцьцямі, не жаданьнем дабра шырокім масам працоўных БССР, а наадварот задаючыся мэтай васстанаўленьня паноў, кулакоў і буржуазіі. Як відаць, зусім не нябесныя, а сугуба зямныя, нізьменныя мэты ставілі нацдэмы перад рэлігіяй і царквой, што лішні раз даказвае сапраўдны клясавы твар рэлігіі і царквы наогул.

Але не ажыцьцявіць ворагам рабочых і сялян — нацдэмам сваіх агідных, крывавых мэт. Не павярнуць ім усьпяць калясо гісторыі. Пільны вартавы пролетарскай дыктатуры АДПУ, пры дапамозе шырокіх працоўных мас, выкрыў іх крывавыя інтэрвэнцыйныя намеры і сваечасова спыніў іх контр-рэволюцыйную дзейнасьць.

---

Нікалаеў А., Лойка М., Маргелаў С.

# Нацдэмаўская праца катэдры географіі БАН.

*(Па матар'ялах брыгады па чыстцы БАН).*

Яскравым прыкладам поўнага падпарадкаваньня ўсёй працы контр-рэволюцыйным імкненьням нацдэмаў зьяўляецца праца БАН у галіне географіі.

Гэтая праца пачалася яшчэ ў б. Інстытуце Беларускай Культуры, а затым, пасьля організацыі БАН, концэнтравалася ў дзьвюх яе катэдрах—географіі і штандорту народнае гаспадаркі.

Само ўтварэньне гэтых катэдраў зьяўляецца яскравым прыкладам нацдэмаўскага прыстасаваньня апарату БАН да сваіх мэт. Справа ў тым, што катэдра географіі працавала пераважна ў галіне экономічнае географіі, якая ў сваім об'екце цалкам злівалася з катэдраю штандорту і такім чынам сьвядома ўтвараўся яўна шкодны паралелізм. Але гэты паралелізм быў патрэбен нацдэмам для таго, каб забясьпечыць магчымасьць праізводства ў акадэмікі двух махровых контр-рэволюцыянэраў — А. Смоліча і Г. Гарэцкага, спэцыяльнасьці якіх былі аднолькавыя. Праца была падзелена нацдэмамі так, што А. Смоліч зьяўляўся загадчыкам катэдры географіі, а Г. Гарэцкі — загадчыкам катэдры штандорту народнае гаспадаркі.

Набыўшы такім чынам у організацыйнай структуры БАН „об'ектыўныя" магчымасьці для разгортаньня свае шкодніцкае дзейнасьці, А. Смоліч і Г. Гарэцкі пачалі разгортваць сваю „навуковую" працу. Перш за ўсё імі былі складзены пляны работ, над характарыстыкаю якіх мы зараз і спынімся.

Па пэрспэктыўнаму пляну катэдры штандорту народнае гаспадаркі, які складзены нацдэмам Г. Гарэцкім і яго супрацоўнікам Ярмашэвічам, задачы гэтае катэдры вызначаюцца наступным чынам:

„а) вывучэньне *існуючага штандорту* народнае гаспадаркі БССР і Заходняе Беларусі, а таксама штандорту паасобных галін народнае гаспадаркі ў сэнсе социяльна-экономічнае ацэнкі іх разьмяшчэньня;

б) *вывучэньне шляхоў* да магчымай рацыяналізацыі штандорту паасобных гаспадарчых прадпрыемстваў і галін народнае гаспадаркі БССР;

в) *вывучэньне мэтодыкі* да вызначэньня рацыянальнага, з погляду социялістычнага будаўніцтва, штандорту народнае гаспадаркі БССР, яе паасобных раёнаў, паасобных галін і нават прадпрыемстваў". І далей: „Апрача гэтага, — пішацца ў пляне, — перад Катэдрай паўстае ва ўсёй велічыні праца *чыста тэорытычнага* зьместу па конструяваньню самой дысцыпліны штандорту народнае гаспадаркі, выпрацоўка паасобных мэтодаў яе" і г. д.

Зусім зразумела, што „соцыялістычныя" фразы паданы тут як шырма, як дымавая завеса ў клясавай контр-рэволюцыйнай барацьбе нацдэмаў супроць дыктатуры пролетарыяту. За гэтаю-ж завесаю, якая асьляпляла опортуністаў — людзей страціўшых або ня меўшых пролетарскае клясавае пільнасьці, падавалася:

1) яўна буржуазная концэпцыя аб падзеле задач навукі на практычныя і чыста тэорытычныя і

2) прынцыповая ўстаноўка адрыву тэорытычнае працы ад соцыялістычнага будаўніцтва, з абгрунтаваньнем яе на вывучэньні „існуючага штандорту", „вывучэньні шляхоў" (?), „мэтоду" і г. д.

Характар вывучэньня гэтых „шляхоў" і „мэтодаў" таксама яскрава відаць з пляну. Так, пусьціўшы пыл у вочы тым, што „Загадчык Катэдры ўжо некалькі год працуе ў галіне штандорту народнае гаспадаркі ў напрамку „преодоления" (?) буржуазных тэорый і выпрацоўкі(!) марксыцкае тэорыі штандорту народнае гаспадаркі", — тут-жа заяўляецца, што „найбольш поўную і закончаную сыстэму тэорыі штандорту даюць Цюнен, Вебер і Энглендэр". Да гэтых буржуа, навучацца „выпрацоўваць" марксыцкую сэстэму штандорту народнае гаспадаркі, мелася на ўвазе пасьлаць у 1929-30 годзе загадчыка катэдры Г. Гарэцкага. У пляне так даслоўна і сказана:

„У 1929-30 годзе камандыроўка загадчыка катэдры на 4 месяцы ў Нямеччыну ў Гайдэльберг да А. Вебера і ў Аўстрыю ў Вену да Энглендэра з мэтай азнаямленьня і вывучэньня прац па штандорту лепшых буржуазных тэорэтыкаў і конкрэтнымі працамі прадстаўнікоў іх школы".

Зусім зразумела якому марксызму мелася на ўвазе навучацца ў гэтых „тэорэтыкаў"і для якіх мэт наогул выкарыстоўваліся падобныя камандыроўкі. Ускрыцьцё шкодніцкіх контр-рэволюцыйных організацый, як „прамысловая партыя", меншавіцкая організацыя, „ТКП", „СВУ" і беларускія нацдэмы, яскрава паказала „навуковыя" мэты замежных камандыровак, якія выкарыстоўвалі гэтыя шкоднікі; яны выкарыстоўвалі іх для сувязі з інтэрвэнтамі, для атрыманьня ад гэтых інтэрвэнтаў указаньняў і ўсякае дапамогі па шкодніцтву, па падрыву соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР і па наладжваньню рэстаўрацыі ў нас капіталізму.

Ня менш яскрава гаворыць сама за сябе і так званая „практычная" праца, якая вызначалася плянам гэтае катэдры. Па пляну распрацоўваліся такія тэмы, як:

„Урбанізацыя этнографічнай Беларусі за 100 гадоў", „Штандорт прамысловасьці БССР перад вайною (1910-13 гг.)". „Дынаміка даваеннай гаспадаркі БССР"(?) і г. д. Праўда, мы знаходзім у пляне і такія тэмы, як „Проект соцыялістычных гарадоў БССР", „Індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі і яе штандорт" і інш. у гэтым родзе, але гэтыя тэмы падаваліся зноў-ткі выключна для адводу вачэй і зусім не распрацоўваліся.

Катэдра географіі, дзе працавалі нацдэмы Смоліч і Азбукін, таксама не адстала ў сваёй нацдэмаўскай „ортодоксальнасьці". Па яе плянах працы задачы катэдры вызначаліся такім чынам:

„Географічную працу, — чытаем мы ў пляне, — у тэй або іншай меры праводзяць у сучаснасьці шэраг навуковых устаноў. Так географія расьлін вывучаецца Катэдрай батанікі БАН, географія жывёл — Катэдрай зоолёгіі і г. д. Такім чынам, вывучаюцца шмат якія з элемэнтаў географічнага ляндшафту. Катэдра географіі БАН ставіць сабе задачай сынтэзаваньне гэтых элемэнтаў у суцэльных географічных

комплексах — географічных ляндшафтах або раёнах, устанаўленьне іх сувязі і ўзаемазалежнасьці, знаходжаньне асноўных законамернасьцяй прасторавага разьмяшчэньня географічных ляндшафтаў і паасобных зьяў". З другога боку лічылася, што праца па экономічнаму раёнаваньню „зьяўляецца ў сваёй сутнасьці географічнай работай". Пры гэтым у плянах падкрэсьлівалася „непасрэдным об'ектам вывучэньня зьяўляецца географічны краявід Беларусі ва ўсіх яго мясцовых адменах", што „распрацоўку тэорэтычных проблем з поўным посьпехам можна весьці на беларускім матар'яле".

З гэтых вытрымак яскрава відаць перш за ўсё яўна буржуазнае вызначэньне самой географіі і яе задач, якое зьмешвае ў кучу неразьбярыхі шэраг разнародных галін географіі (географія жывёл, географія расьлін, фізычная географія, экономічная географія і г. д.) і падфарбоўвае ўсё гэта шкоднай нацыянальнай абмежаванасьцю, адным „беларускім матар'ялам".

З такога нацдэмаўскага вызначэньня задач географіі зусім немагчыма зразумець, чым-жа яна, нарэшце, павінна была займацца. Гэтая неразьбярыха яшчэ больш стане зразумелай, калі мы зазначым, што да канца пяцігодкі гэтую катэдру мелася на ўвазе разгарнуць у „Інстытут географіі і картографіі" з падзелам яго на: „географічны габінэт", „бюро экономічнай географіі і раёнаваньня", „географічны музэй", „картографічнае бюро" і „камісія беларускага географічнага слоўніка", зазначаючы адначасова, што „з пералічаных устаноў амаль ня ўсе ў сваіх зародкавых формах існуюць зараз у складзе катэдры". І гэта пры наяўнасьці ў катэдры толькі двух працаўнікоў—непадзельных Смоліча і Азбукіна!

Паўстае запытаньне. Навошта была гэтым нацдэмам такая неразьбярыха і траскатня па бумажнаму раздувацельству работы? Адказ можа быць толькі адзіны. Усё гэта ім было неабходна для „очковтирательства", для адводу вачэй, каб за гэтаю неразьбярыхаю і трэскам захаваць сваю сапраўдную, шкодніцкую дзейнасьць контр-рэволюцыйных нацдэмаў.

Па пляну працы гэтае катэдры вызначаліся такія тэмы, як „Распрацоўка паасобных тэм на падставе матар'ялаў перапісу" (?), „Распрацоўка матар'ялаў папярэдніх экспэдыцый" (?), „Геоморфолёгічныя элемэнты ў народнай гаспадарцы" (?), „Межы аблогавага рольніцтва ў БССР", „Беларускія раёны ў Сібіры, іх тэхніка і экономіка" (?), „Беларуская эміграцыя (?) ў Амэрыцы", „Прадмесьці і прыгарады ў беларускіх гарадох"; вялася распрацоўка беларускага географічнага слоўніку; вывучаліся азяроды і тыповыя будынкі Палесься і г. д.

Уся гэта шкодніцкая работа па разрыву тэорыі з практыкаю соцыялістычнага будаўніцтва, па зрыву гэтага будаўніцтва, афарбоўвалася, таксама як і ў катэдры штандорту, размовамі аб „марксыцкай" мэтодолёгіі і таксама проектаваліся замежныя камандыроўкі ў Нямеччыну, Чэхію, Амэрыку, Польшчу і г. д., а для популярызацыі свае шкоднае контр-рэволюцыйнае нацдэмаўшчыны меркавалася штогодна праводзіць конфэрэнцыі географаў БССР. Як бачым, пляны катэдраў географіі і штандорту народнае гаспадаркі былі пабудаваны ў напрамку нічога агульнага ня маючым з запатрабаваньнямі соцыялістычнага будаўніцтва; пабудаваны на яўна буржуазных прынцыпах контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму.

Выкананьне плянаў было таксама забясьпечана сваімі „вучонымі" пры суровым захаваньні каставасьці ва ўсёй справе. Смоліч, Азбукін і Гарэцкі зьяўляліся монополістамі гэтае працы; яны пісалі пляны, яны „навукова" распрацоўвалі паказаныя вышэй проблемы, яны іх абмяр-

коўвалі, рэдагавалі, выдавалі, яны-ж амаль поўнасьцю монополізавалі справу выданьня падручнікаў па географіі і падрыхтоўкі кадраў у гэтай галіне.

Справа падрыхтоўкі кадраў у галіне экономічнае і фізычнае географіі БССР зьвялася да таго, што пры катэдрах мелася толькі па аднаму асьпіранту. Падрыхтоўка гэтых асьпірантаў, будучы разрэклямавана соцыялістычнымі фразамі аб марксыцкай падрыхтоўцы, была пабудавана па програме, складзенай выключна на буржуазных аўтарах (Цюнен, Вэбэр, Энглендэр, Энгельбрэхт, Чэлінцаў, Скварцоў, Студэнцкі, Чаянаў і г. д.) і праводзілася пад кіраўніцтвам нацдэма Гарэцкага. Марксыцкія дысцыпліны былі цалкам ігнараваны і ня ўведзены ў плян падрыхтоўкі асьпірантаў.

Для таго-ж адводу вачэй нацдэмы „меркавалі“ ў сваіх плянах праводзіць працу „сярод мас“ у выглядзе „дакладаў і популярных выданьняў“. Пры гэтым, „для дакладаў і популярных выданьняў“ вызначаліся такія „найбольш актуальныя географічныя тэмы“, як „географічная характарыстыка Далёкага Ўсходу, Польшчы“ і г. д. А катэдра географіі дык нават займалася „соцспаборніцтвам“ з Геолёгічным Інстытутам БАН. Характар гэтага „соцспаборніцтва“ яскрава відаць з адпаведнага дагавору. Апошні ўяўляе сабою ні больш ні менш, як зьдзек над соцспаборніцтвам. У ім ні слова аб пляне катэдры, ні слова аб дысцыпліне і мэтодзе, ня кажучы ўжо аб барацьбе з буржуазнымі плынямі і рознымі ўхіламі. Для выкананьня ўведзены такія пункты, якія ўжо былі выкананы катэдраю раней (дазымэтрычная карта, пэпярэдняя гіпсомэтрычная карта) і нават гэта агаворана рознымі ўмовамі. У якасьці масавай працы паказаны тыя-ж тэмы аб Далёкім Усходзе, Кітаі, Манголіі і г. д. Зразумела, што нават і гэтая куцая ўмова ня была выканана, бо яна пісалася не для выкананьня, а для шырмы, для адводу вачэй. Матар'ялы і наогул шкодную продукцыю гэтых катэдраў можна разглядваць толькі ў сувязі з агульнаю дзейнасьцю нацдэмаў—Смоліча, Азбукіна і Гарэцкага.

Гэтая задача ва ўсёй яе шырыні стаіць зараз перад працаўнікамі катэдры экономічнае географіі, мы-ж зараз дадзім толькі папярэднюю характарыстыку ў гэтым напрамку.

Так, нацдэм Г. Гарэцкі ў сваіх працах, якія наскрозь прасякнуты буржуазнай мэтодолёгіяй і цалкам будуюцца на рэакцыйных аўторытэтах Цюнена, Вэбэра, Энглендэра, Чэпінцава і інш., усячаскі васьпявае нацыянальную самабытнасьць беларусаў. Бяручы за асноўны штурхач грамадзкага разьвіцьця, як гэта і падабае буржуазным вучоным, насельніцтва, ён бачыць асабліва моцнае праяўленьне гэтага гістарычнага рухавіка ў нязьменлівых нацыянальных асаблівасьцях беларусаў. Па Гарэцкаму ўсё можа зьмяняцца, толькі застаюцца нязьменнымі нацыянальныя асаблівасьці. Так, гаворачы аб тым, што трэба ўзяць за аснову вызначэньня меж, Гарэцкі піша: „прымат нацыянальнай мяжы, мяжы этнографічнай, павінен быць высунуты з усёю катэгорычнасьцю“, бо, па яго думцы, „гістарычныя межы, як і межы экономічныя, зьяўляюцца больш зьменлівымі, чым нацыянальныя межы“. (Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі, пад рэдакцыяй А. Смоліча, т. I, ст. 3, 4, Менск, 1928 г.).

Разглядаючы гісторыю дасьледчае справы па сельскай гаспадарцы, Гарэцкі піша:

„Беларусі належыць выдатная роля ў гісторыі дасьледчае справы Расіі, усёй Усходняй Эўропы і нават усяго сьвету“. Асабліва супроцьстаўляецца гэтая „выдатнасьць Беларусі“ перад СССР.

„Беларусі належыць пяршынства ў дасьледчай справе Саюзу і ў галіне зоотэхнікі і мэліорацыі“ (Дасьледчая справа па сельскай і лясной гаспадарцы БССР, 1929 г., ст. 4). Усё, што выходзіць з Масквы, усякі ўплыў адтуль па Гарэцкаму лічыцца шкодным. Васьпяваючы самабытнасьць беларускае нацыі, яе станоўчыя асаблівасьці, Гарэцкі дае такую ацэнку Кастрычнікавае рэволюцыі на БССР:

„разам з колёсальным узростам социяльнай і культурнай сьвядомасьці рэволюцыйнага *беларускага сялянства* (?) Беларусь атрымала непарушаную гарантыю *вялікага сельска-гаспадарчага* прогрэсу“. (Тамжа, ст. 25 і 26). І тут, як бачыце, усе якасьці ад асаблівае сьвядомасьці і рэволюцыйнасьці беларускага сялянства наогул (адзіная нацыя). Адсюль зусім зразумела чаму ізолявана наогул, ізолявана ад прамысловасьці і пролетарыяту, а толькі „сельска-гаспадарчага прагрэсу“. Адсюль зразумела цана і сутнасьць гэтага нацдэмаўскага „прогрэсу“. Апошні разумеўся нацдэмамі, як капіталістычны контррэволюцыйны шлях разьвіцьця. Адсюль зразумелы і той жах, які ахапляе Гарэцкага пры кожнай констатацыі ўплыву пролетарскае Масквы.

Так, у сваёй працы: „Нацыянальныя асаблівасьці насельніцтва БССР“. (Полымя № 5 за 1929 г.) Гарэцкі піша: „Раёнамі нацыянальна-культурнае экспансіі беларусаў зьяўляюцца найбольш „глухія“ раёны, дзе няма чыгунак і значных гарадзкіх цэнтраў“;

„Інтэнсыўнасьць процэсаў асыміляцыі беларускае нацыянальнасьці, інтэнсыўнасьць яе русыфікацыі, павялічваецца ў кірунку на ўсход, галоўным чынам, паўночны і паўднёвы ўсход, у кірунку да непасрэднае сутычнасьці з расійскім этнографічным цэнтрам“;

...„лёкальныя раёны з больш глыбокай інтэнсыўнасьцю процэсу асыміляцыі, русіфікацыя беларусаў утвараюцца навакол значных гарадзкіх асяродкаў БССР“.

З гэтых вытрымак яскрава відаць, што, згодна нацдэма Гарэцкага, лепшымі ўмовамі для праяўленьня сваіх станоўчых асаблівасьцяй беларуская самабытнасьць карыстаецца ў такіх раёнах, дзе няма ні чыгунак, ні гарадзкіх цэнтраў. Гэтыя раёны знарок названы ім „глухімі“ толькі ў кавычках, а па сутнасьці ў іх знаходзіць нацдэм усё, што ляжыць у аснове яго „прогрэсу“, усё што мілуе сэрца нацдэма. Тут-жа выяўляецца зоолёгічны жах перад прамысловымі цэнтрамі, перад Усходам, перад „расійскім этнографічным цэнтрам“ (чытай Масквой), якія зьнішчаюць „глухія“ раёны, зьнішчаюць аплот самабытнасьці контр-рэволюцыйных нацдэмаў. Глухія-ж раёны, гэтая дзікая адсталасьць, васьпяваюцца Гарэцкім да нейкага ідэалу ўмоў разгортваньня самабытнасьці. І калі такі жах праяўляе Гарэцкі да асыміляцыйных процэсаў з боку Ўсходу, то вельмі цікава, як ён думае аб гэтым наконт Захаду. Адказ на гэта мы знаходзім у яго „акадэмічнай“ працы — „Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы“. Там, на старонцы 61, ён піша наступнае:

„Колёнізацыйная ёмістасьць Заходняй Беларусі настолькі нязначная, што спадзявацца на вялікія разьмеры польскае колёнізацыі ў Заходняй Беларусі, а разам з тым і на рэалізацыю адзінага сур'ёзнага спосабу полёнізацыі Заходняй Беларусі, — немагчыма. Заходняя Беларусь на многія дзесяткі год захавае свой асноўны беларускі характар, ня гледзячы на ўсе перашкоды для разьвіцьця беларускае культуры ў Польшчы. Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы будуць набіраць усё большай трываласьці і нязьменнасьці“.

Тут, можна сказаць, нацдэм Гарэцкі выдае сябе цалкам. Окупацыйная політыка фашыстоўскай Польшчы расцэньваецца ім, як такая

палітыка, ад якой няма ніякае шкоды самабытнасьці, якая ня страшна беларусам, якая, у супроцьлегласьць Маскве, надае „трываласьць і нязьменнасьць“ беларускай нацыі. Гэта ёсьць яўная і няпрыкрытая контр-рэволюцыйная орыентацыя нацдэмаў на Захад, на саюз з фашыстоўскай Польшчай.

Да гэтае-ж контр-рэволюцыйнае работы нацдэма Гарэцкага шчыльна далучаецца праца яго вучня і супрацоўніка Я. Ярмашэвіча пад назваю „Матар‘ялы да штандорту прамысловасьці БССР“. Работа гэта ня была надрукавана з-за яе яўнае шкоднасьці. Выконваў яе Ярмашэвіч выключна на матар‘ялах даваеннае прамысловасьці і пад непасрэдным кіраўніцтвам Гарэцкага і Смоліча. У аснове работы ляжыць буржуазная тэорыя Вэбэра, падфарбованая ў колер беларускага нацыянал-дэмократызму. Самае-ж галоўнае ў гэтай працы — гэта яе палітычны сэнс, тое, які „соцыяльны заказ“ выконваўся ёю. З гэтага пункту гледжаньня праца ўяўляе сабою ні больш ні менш, як выкананьне заказу белаэмігранцкіх інтэрвэнтаў з БССР. У ёй сабраны ўвесь матар‘ял аб перадваеннай прамысловасьці БССР, з дакладнай інвэнтарызацыяй паасобных прадпрыемстваў з паказаньнем іх б. уласьнікаў. Праца няпрыкрыта выконвала заданьне беларускае буржуазіі, якая была выгнана Кастрычнікавай рэволюцыяй за савецкія межы.

А. Смоліч, атрымаўшы ў свой час дазвол на зварот з белаэміграцыі ў Савецкую Беларусь і спэкулюючы давер‘ем савецкай улады, зьявіўся разам з Гарэцкім, Кісьляковым, Ждановічам і інш. свораю беларускае кандрацьцеўшчыны, адным з заснавальнікаў і праваднікоў беларускага нацыянал-дэмократызму ў аграрным пытаньні, — адным з заснавальнікаў і праваднікоў контр-рэволюцыйнага шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы,— сыстэмы так званае прышчэпаўшчыны. Працуючы ў свой час у НКЗБ, нацдэм Смоліч у сваіх працах абгрунтоўваў сыстэму прышчэпаўшчыны, як капіталістычнага напрамку разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Працуючы ў НДІ, поплеч са сваім пабрацімам Гарэцкім, у якасьці загадчыка аддзелу экономікі і аграрнай палітыкі, Смоліч праводзіў тую-ж палітыку контр-рэволюцыйнае нацдэмаўшчыны. Так, ён наступным чынам вызначаў задачы памянёнага аддзелу:

„Аддзел сельскагаспадарчай экономіі і аграрнай палітыкі мае перад сабою нялёгкую задачу вывучыць і высьветліць экономічныя, соцыяльныя, гістарычныя і палітычныя ўмовы, у якіх жыла даўней і цяпер сельская гаспадарка Беларусі і яе паасобныя галіны, вывучыць структурныя і організацыйныя формы гаспадаркі, якія складаюцца— ці то ў парадку стыхійнага разьвіцьця, ці плянавага ўплыву дзяржавы, высьветліць экономічную рацыянальнасьць гэтых форм і галін, а нават і паасобных спосабаў ды мерапрыемстваў, адным словам, даць адказ на шэраг пытаньняў, без высьвятленьня якіх немагчыма сьвядомае плянавае кіраўніцтва паасобнай гаспадаркай і яшчэ больш немагчымы мэтазгодны ўплыў на масавую гаспадарку“. ...„аддзел лічыць неабходным, — працягвае Смоліч, — уключыць ў плян і распрацоўку проблем, якія маюць чыста тэорытычнае значэньне(?), што зьвяжа навуковую працу аддзелу з разьвіцьцём сусьветнае экономічнае думкі“(!).

З гэтае заблытанае фразэолёгіі яскрава выступае адзначанае вышэй прыстасаваньне нацдэмамі ўсяе іх працы да абслугоўваньня капіталістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі, на распрацоўку такіх „проблем“, якія зьвязвалі нацдэмаў з буржуазнай навукай, прыкрываемай імі фальшывай манойаб „чыстай навуцы“.

У сваіх працах па спэцыялізацыі і раёнаваньні сельскае гаспадаркі нацдэм Смоліч, разам з Гарэцкім і іншымі кандрацьцеўцамі,

цалкам карысталіся буржуазнай мэтодолёгіяй так званага „пазнаваўчага“ раёнаваньня. Яны грунтавалі спэцыялізацыю выключна на складзеным у парадку капіталістычнае эволюцыі тыпе сельскае гаспадаркі, ізолявана ад рэволюцыйных перабудоў, якія адбываюцца ў сельскай гаспадарцы. А ролю пролетарскае дзяржавы зводзілі ў даным выпадку да ўліку гэтае эволюцыі,—прыстасаваньня да яе. Усямерна абгрунтоўваючы капіталістычнае разьвіцьцё вёскі, нацдэмы тыпу Смоліча, Гарэцкага, Ждановіча і інш. абслугоўвалі гэтае разьвіцьцё адпаведнаю пабудоваю свае працы як з боку яе організацыйных форм, так тэматыкі, мэтоду і падбору працаўнікоў. З боку організацыйных форм праца будавалася на культываваньні раскіданасьці і кустаршчыны, прыкрытых трэскам фразэолёгіі, а за ўсім гэтым захоўвалася такая кулацкая даейнасьць, як рахунковыя запісы ў індывідуальных і пераважна кулацкіх гаспадарках, праца з кулакамі пад шырмаю „сяляндасьледчыкаў“, распрацоўваліся такія тэмы, як „эфэктыўнасьць капіталаўкладаньняў у сялянскую гаспадарку“, „вывучэньне даваеннай дынамікі сельскае гаспадаркі“, „эфэктыўнасьць розных форм землякарыстаньня“ і інш. ў гэтым родзе. Трацілі вялікія сродкі пролетарскае дзяржавы на довады пераваг хутарскога і дробна-пасялковага землякарыстаньня, на падрыў соцыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі.

У сваіх працах па катэдры географіі БАН нацдэм А. Смоліч, са сваім падручным — нацдэмам Азбукіным, тварылі ва ўсю сваю контр-рэволюцыйную справу. Яны трацілі вялікія сродкі на збор непатрэбных для соцыялістычнага будаўніцтва матар'ялаў і ўсячаскі пропагандавалі сваю нацдэмаўскую ідэолёгію. Сваімі падручнікамі па фізычнай і экономічнай географіі, аб якіх падрабязная гутарка будзе асобна, яны атручвалі контр-рэволюцыйнаю нацдэмаўшчынаю нашу моладзь, пачынаючы з сямігодак і канчаючы вузамі. Такава ў самых агульных рысах контр-рэволюцыйная праца беларускіх нацдэмаў у галіне географіі.

Пасьля таго, як пролетарыят БССР, праз вернага вартавога свае дыктатуры — АДПУ, спыніў шкодніцкую дзейнасьць контр-рэволюцыйных беларускіх нацдэмаў, катэдры—географіі і штандорту народнае гаспадаркі былі рэорганізаваны ў катэдру экономічнае географіі. Перад гэтаю катэдраю, акром паказанае вышэй неабходнасьці канчатковага раззбройваньня і разбурэньня нацдэмаўшчыны ў гэтай галіне, стаіць цэлы шэраг важнейшых і безадкладных задач, якія ставяцца перад ёю з боку соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя задачы зводзяцца ў асноўным, па-першае, да ўпарадкаваньня справы з програмамі і падручнікамі ў галіне фізычнае і экономічнае географіі на ўсіх концэнтрах школьнае асьветы і, па-другое, да экономічнага раёнаваньня і дакладнага вывучэньня БССР, як у галіне фізычнае, так і экономічнае географіі. Бо становішча, якое мы маем у гэтых аданосінах зьяўляецца проста катастрофічным. Ня менш катастрофічнае становішча мы маем і ў галіне падрыхтоўкі адпаведных кадраў—географаў. Наладжваньне і гэтае працы лажыцца таксама на катэдру экономічнае географіі БАН.

Пабудова ўсёй працы катэдры на колектыўных пачатках і на аснове марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі, разгортваньне шырокай сувязі з масамі рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства і настаўніцтва БССР, ёсьць залог пасьпяховага выкананьня тых задач, якія стаяць перад катэдраю.

5/III-31 г.

---

Проф. П. Салаўёў.

# За колектывізм у навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы.

Буржуазная навука і акадэмічнае краязнаўства ня ўжывалі колектыўнага супрацоўніцтва. Адсутнасьць падрыхтоўкі колектыўнай дасьледчай працы, адсутнасьць колектыўнага выкананьня і колектыўнага контролю працы ўтварала наогул бясплянавасьць, самацёк і індывідуальнае саматужніцтва. Спадчына мінулага і зараз далёка ня зжыта. Бывалі выпадкі, калі працаўнікі аднае і тае-ж установы і катэдры ня ведалі, хто з іх чым займаецца, якую тэму распрацоўвае. Такім чынам, меў месца непатрэбны паралелізм у працы і падвойныя выдаткі на працу. Гэтая справа тычыцца ня толькі паасобных працаўнікоў, але нават навукова-дасьледчых інстытутаў: у літаратуры мінулага году маюцца даныя аб гэтым наконт Ленінградзкага мэліорацыйнага інстытуту, Беларускага НДІ, Зоолёгічнага інстытуту І МДзУ.

Зараз, калі мы ўступілі ў пэрыод соцыялізму, наблізіўся час пераходу ад бясплянавай індывідуальнай працы да працы плянавай, колектыўнай як у навуковых досьледах, таксама і ў краязнаўчай працы. Аб зародках навуковай колектыўнай працы ў мінулым годзе пісаў проф. Е. Каровін. Вось яго прыклады: група навуковай моладзі (усе асьпіранты па адной дысцыпліне), напрыклад, прымае заданьне прапрацаваць для друку тэму хаця-б крытычнага разбору адпаведнага напрамку ў савецкай навуцы. Паколькі справа тычыцца аднае конкрэтнае школы ці аднаго напрамку, усе ўдзельнікі групы аднолькава яго прапрацоўваюць, выносячы вынікі гэтай прапрацоўкі (крытычныя заўвагі, агульную ацэнку і інш.) на колектыўнае абгаварэньне. У выніку гэтага абгаварэньня атрымліваецца колектыўны артыкул, які ўключае ў сабе ўсё тое, што пры групавым абгаварэньні было ўхвалена, як найбольш важнае. Такім чынам, гэты артыкул будзе, па сутнасьці, протоколам групавога абгаварэньня. Зразумела, што артыкул ня мае індывідуальнага подпісу і фігуруе або пад асобным групавым псэўдонімам, або за подпісам удзельнікаў групы.

Другі ўзор колектыўнай працы наступны: склікаецца адчынены сход сэкцыі, катэдры ці пашыранае пасяджэньне навукова-дасьледчага гуртку пры ёй, з удзелам настаўніцтва, асьпірантуры, студэнцтва і супрацоўнікаў тых устаноў, з працай якіх найбольш блізка сутыкаецца катэдра. Дзеля абгаварэньня ў форме дакладаў ставяцца найбольш актуальныя для данай катэдры проблемы. Адчыняецца шырокая дыскусія (часамі 3-4 сходы). Увесь процэс дыскусіі стэнографуецца. Стэнограмы выпраўляюцца адказнымі аўтарамі. Спэцыяльна абраная камісія (3-4 таварышы) апрацоўваюць потым як даклад, таксама

і спрэчкі, скарачаючы апошнія, рэдагуючы і падрыхтоўваючы матар'ял для друку.

Таксама рыхтуюцца колектыўныя падручнікі і іншая продукцыя навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы.

Асобныя выпадкі такой колектыўнай работы ўжо маюцца. Напрыклад вышла адна кніга, надрукаваная ў Маскве (1927 г.)—„Стандартные методы исследования питьевых и сточных вод", якую склалі 10 аўтараў і рэдагаваў камітэт з 6 асоб. Што павінна быць зараз стрыжнем навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы? Які мэтод працы павінен існаваць? Зразумела, што ў нашых умовах найбольш важным і цікавым зьяўляецца колгасны рух. Вывучэньне гэтага руху і павінна быць стрыжнем працы. Мэтод колектыўнай працы павінен афармляцца ў працы брыгад з ужываньнем соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Вывучэньне колгаснага руху ў раёне дае мажлівасьць кожнаму працоўнаму, у меру яго сіл і здольнасьцяй, прыняць удзел ў працы. Колгасьнік, бядняк, батрак, серадняк, рабселькор, студэнт, настаўнік, кожны рабочы могуць мець той ці іншы матар'ял, як складаную частку таго колектыўнага матар'ялу, які ў канечным выніку павінен быць аформлен. Паасобныя допісы, паасобныя корэспондэнцыі, якія тычацца паасобных момантаў гісторыі і організацыйнага афармленьня колгасаў, якія тычацца процэсу распластаваньня вёскі і выяўленьня клясавай барацьбы, зьяўляюцца тым пажаданым матар'ялам, на падставе якога можа быць складзена як навуковая, таксама і краязнаўчая праца. Зусім невялічкі, але сыстэматычны ўдзел у форме допісаў, лістоў, ахапіўшы ўсё працоўнае насельніцтва, стварае тое, чаго мы так даўно чакаем, г. зн. масавую працу. Лёзунг—„навука на карысьць працоўным"—ажыцьцяўляецца пры масавай працы і колектыўнай апрацоўцы здабытых матар'ялаў. Масавае ўзьняцьце нашых ведаў і нашай актыўнасьці на адпаведную вышыню хутчэй дапаможа наблізіцца да пастаўленай намі мэты: ня толькі дагнаць, але і выперадзіць капіталістычныя краіны *ўва усіх* напрамках навукі, тэхнікі і гаспадаркі.

Ужо адзначана вышэй, што цэнтральнаю працаю і цэнтральнаю тэмаю зьяўляецца колектывізацыя сельскай гаспадаркі. Вакол гэтай асноўнай тэмы могуць быць організаваны іншыя брыгады, якія будуць працаваць не адарвана, але ў сувязі з вывучэньнем колгаснага руху. Род політычна-гаспадарчых кампаній праходзяць, не пакінуўшы сьлядоў, ня гледзячы на тое, што яны праводзяцца шэрагам асоб, быццам масава, і маюць краязнаўчы інтарэс. Вясновая сяўба, ліквідацыя няпісьменнасьці і іншыя тэмы вельмі цікавыя і заслугоўваюць організацыі іх вывучэньня. Апошняе можа даць добрыя вынікі, калі яно будзе масавым, колектыўным. Аказваецца, што ў некаторых раёнах дагэтуль ня маецца выпрацаванага пяцігадовага пляну соцбудаўніцтва. Вывучэньне рэлігійнасьці санітарнага становішча, коопэрацыйнага апарату і інш. пытаньні лёгка могуць быць выкананы колектыўна, пачаўшы з запаўненьня адпаведных анкет.

Невялічкі вопыт колектыўнай работы ў Горках у 1923 годзе па барацьбе з зімуючымі саміцамі малярыйнага камара даў добрыя вынікі толькі таму, што ў гэтую працу было ўцягнута студэнцтва і навакольнае насельніцтва. Вынікі гэтай працы знайшлі свой адбітак у савецкай і замежнай літаратуры. Невялічкі вопыт па барацьбе з грызунамі праводзіўся колектыўна праз стварэньне для гэтага студэнцкіх брыгад. Зараз робіцца спроба організацыі з спэцыялістых ботанікаў брыгады, якая займецца вывучэньнем лекавых расьлін у Горацкім раёне—з тым, каб гэтае вывучэньне зьвязаць з запатрабаваньнямі дзяржаў-

ных нарыхтоўчых установ. Такая праца, як масавы збор шасьціножак, па асобнай програме і з выкананьнем адпаведнай інструкцыі, магла-б ператварыцца ў каштоўную справу. Як вядома, мы шукаем рознастайных крыніц экспорту. Між тым за межамі, асабліва ў Нямеччыне, існуюць спэцыяльныя фірмы, якія займаюцца гандлем энтомолёгічнымі колекцыямі. Нічога не каштавала-б вучням, студэнцтву і г. д. сабраць у сябе на раёне дастатковую колькасьць якіх-небудзь жукоў і іншых шасьціножак, якія ў форме колекцый маюць валютную вартасьць.

Ня трэба падаваць яшчэ новых прыкладаў, якія-б дэмонстравалі сутнасьць, умовы і зьмест колектыўнай працы.

Галоўнай мэтай гэтага артыкулу ставіцца задача, каб зьвярнуць увагу чытачоў на перавагу колектыўнай працы ў параўнаньні з індывідуальнай, і тым самым пачаць ажыцьцяўленьне гэтага мэтоду навукова-дасьледчай працы краязнаўцамі і вучонымі.

---

В. Самцэвіч.

# Падрыхтуем кадры краязнаўцаў.

Соцыялізм у нашай краіне будуецца мільёнамі рук рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў, серадзякоў і пытаньне ў нас ставіцца ня толькі адносна падрыхтоўкі мільённай арміі інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, ня толькі адносна падрыхтоўкі арміі навуковых працаўнікоў для ўсё больш і больш узрастаючай сеткі навукова-дасьледчых устаноў, але пытаньне зараз ужо ставіцца аб тым, каб самі шырокія масы рабочых, колгасьнікаў і г. д., каб усе будаўнікі соцыялізму аўладалі патрэбнымі пры сучаснай высокай тэхніцы і соцыялістычных мэтодах працы навукова-дасьледчымі ведамі і навыкамі праз краязнаўства. Пытаньне ідзе аб падрыхтоўцы краязнаўчых кадраў.

Краязнаўства — сродак актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве шляхам усебаковага вывучэньня вытворчых сіл свайго раёну, краязнаўства — організаваная масавая навукова-дасьледчая праца з пэўнай мэтавай установкай — садзейнічаньня ўзмацненьню дыктатуры пролетарыяту і ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі ў соцыялістычным будаўніцтве. Такое разуменьне краязнаўства ў нас яшчэ зусім слаба популярызавана сярод шырокіх працоўных мас. Беларускія нацдэмы выкарыстоўвалі краязнаўства ў сваіх шкодных контр-рэволюцыйных мэтах — абаснаваньне і популярызацыя буржуазных шляхоў „разьвіцьця“ сельскай гаспадаркі (прышчэпаўскія хутары, пасёлкі), пропаганда нацыянал-дэмократычных тэорый у галіне гісторыі, культуры і г. д. Мы-ж павінны цалкам і поўнасьцю падпарадкаваць краязнаўства абслугоўваньню задач соцыялістычнага будаўніцтва і ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны.

Краязнаўчыя організацыі БССР і СССР маюць пэўныя політычныя задачы, яны павінны быць баявымі організацыямі ў змаганьні за інтарэсы пролетарыяту, і таму ня можа быць ніякай „аполітычнасьці“ ў іх працы, ня могуць быць і аполітычныя элемэнты ў радох краязнаўчых організацый, бо ў пэрыод абвостранай клясавай барацьбы „аполітычнасьць“ і „нэўтральнасьць“ па сутнасьці ёсьць падтрыманьне клясавага ворага. Краязнаўчыя організацыі павінны складацца толькі з актыўных удзельнікаў у соцыялістычным будаўніцтве, з актыўных барацьбітоў з клясавымі ворагамі пролетарыяту.

Сотні, тысячы, дзесяткі тысяч рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства, коопэрацыйных, партыйных, профсаюзных, савецкіх работнікаў, настаўніцтва, комсамол, агрономы, дактары, пролетарскае студэнцтва — вось хто павінен стварыць магутную армію савецкіх краязнаўцаў, а не адзіночкі, „аматары“, „спэцыялісты“ краязнаўства.

Організацыя нізавых краязнаўчых ячэек на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, пры МТС, пры буйных коопэратывах, пры ВНУ, тэхнікумах, ФЗС, ШКМ — першая ступень і неадкладная задача ў прызыве і мобілізацыі новых кадраў для краязнаўства. На фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах працуюць вытворчыя брыгады, брыгады па рацыяналізацыі, брыгады масавых досьледаў і г. д.; усе гэтыя брыгады, як і некаторыя іншыя організацыі (бытавыя камісіі і інш.) вядуць па сутнасьці краязнаўчую працу, дасьледчую працу, тую працу, якая непасрэдна зьвязана з вытворчасьцю, якая дапамагае рабочай клясе будаваць социялізм, павышаць тэмпы гэтага будаўніцтва. Але гэтыя элемэнты краязнаўчай працы не аб'яднаны адзінай мэтай, не аб'яднаны адзіным плянам, ня ўвязаны паміж сабой у належнай меры і таму не даюць належнага эфэкту. Усю масавую дасьледчую працу на паасобных прадпрыемствах (і ва ўсім раёне) трэба коордынаваць, увязаць, організаваць па адзінаму пляну, пабудаванаму на пэрспэктыўным вытворчым пляне. Для гэтага на фабрыках (заводах), у саўгасах і колгасах, пры школах усіх тыпаў трэба стварыць адзіныя масава-дасьледчыя організацыі — краязнаўчыя гурткі, якія могуць вызяляць спэцыяльныя брыгады для вывучэньня паасобных пытаньняў д распрацоўкі тых ці іншых проблем социялістычнага будаўніцтва.

Краязнаўчыя гурткі на фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах, пры школах павінны разгарнуць самую шырокую працу па падрыхтоўцы краязнаўчых кадраў. У краязнаўчых гуртках рабочыя, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкі актыў павінны атрымаць як тэорытычную, так і практычную падрыхтоўку для непасрэднай колектыўнай дасьледчай працы на прадпрыемстве. Найбольш падрыхтаваная частка краязнаўцаў павінна перадаць свой вопыт масе новых дасьледчыкаў. Неабходна шырока разгарнуць вучобу ў краязнаўчых гуртках для падрыхтоўкі новых кадраў для краязнаўства.

Вялікае месца і вельмі значную ролю ў стварэньні новых краязнаўчых кадраў павінны адыграць рабселькоры. Рабселькоры вялі і вядуць сапраўдную краязнаўчую працу: яны выяўлялі і выяўляюць „скрытыя рэзэрвы“ ў вытворчасьці, актыўна дапамагаюць партыі „вызваліць новыя творчыя сілы пролетарыяту і працоўных мас, організаваць гэтыя сілы на ажыцьцяўленьне задач социялістычнага будаўніцтва“ (Постышаў), яны (рабселькоры) зьяўляюцца лепшымі ўдарнікамі ў вытворчасьці, у выкананьні промфінпланаў, — і таму рабселькоры павінны ў значнай ступені папоўніць склад нашых краязнаўчых організацый, ажывіць іх працу, перавесьці яе на ўдарныя тэмпы.

„Нам іменна патрэбна цяпер літаратура факту, яркае апісаньне фактаў социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, энтузыязму социялістычнай стройкі, вострай клясавай барацьбы, якая адбываецца на адным з апошніх этапаў социялістычнага будаўніцтва“ [1]), нам патрэбна цяпер гэта літаратура нязвычайных фактаў нябачнага ў сьвеце будаўніцтва социялізму ў мэтах паказу нашых вялізарных посьпехаў і дасягненьняў, паказу вынікаў энтузыязму і выяўленьня творчай ініцыятывы рабочае клясы ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту і ў мэтах абмену вопытам социялістычнага будаўніцтва ў нашым Савецкім саюзе. Даць пролетарыяту і ўсім працоўным масам гэту літаратуру фактаў социялістычнага будаўніцтва ў пэўных конкрэтных социяльна-эканомічных умовах — задача і нашых краязнаўчых організацый, і літа-

---

[1]) З выступленьня тав. Яраслаўскага на ўсесаюзнай нарадзе рабселькораў; Правда № 46, 1931 г.

ратурных аб'яднаньняў пролетарскіх пісьменьнікаў (нарысісты), і рабселькораў. Вось чаму ўжо зараз у нашым Саюзе (у РСФСР) пры краязнаўчых арганізацыях утвораны спэцыяльныя аб'яднаньні пісьменьнікаў-краязнаўцаў. Гэты пачын трэба перанесьці і к нам у БССР.

Нам трэба аб'яднаць і арганізаваць усе сілы пісьменьнікаў-краязнаўцаў, рабселькораў, працаўнікоў вытворчых сэктараў і плянавых камісій, рацыяналізатарскіх брыгад і г. д. для сыстэматычнай дасьледчай працы, пабудаванай па адзінаму пляну, цесна ўвязанаму з вытворчымі і пэрспэкцыйнымі плянамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва свайго прадпрыемства, раёну, рэспублікі і ўсяго Саюзу.

Паколькі краязнаўства зьяўляецца адным з сродкаў падрыхтоўкі кадраў для розных галін народнае гаспадаркі і для працы на розных вучастках культурнага будаўніцтва, пастолькі на пастаноўку краязнаўчае працы і арганізацыю яе неабходна зьвярнуць вялікую ўвагу ўсім гаспадарчым, профсаюзным і савецкім установам і арганізацыям і асабліва органам народнае асьветы. Краязнаўчыя кадры павінны рыхтавацца ў нашых ВНУ, тэхнікумах, ФЗС, ШКМ і інш. Пры навучальных установах павышанага тыпу трэба абавязкова арганізаваць краязнаўчыя гурткі ў мэтах вывучэньня паасобных пытаньняў практычнага будаўніцтва ў галіне социялістычнай гаспадаркі і культуры і актыўнага ўдзелу ў ажыцьцяўленьні гэтых пытаньняў. Мы лічым таксама магчымым і неабходным арганізаваць краязнаўчыя гурткі і ў масавых чатырохгадовых школах для вывучэньня актыўнага ўдзелу ў выкананьні паасобных больш простых задач соцыялістычнага будаўніцтва: вывучэньне і арганізацыя дагляду за дробнай жывёлай у колгасе, вывучэньне найлепшых гатункаў гародніны і культываваньня гэтых гатункаў і г. д. Трэба лічыць зусім неабходным і неадкладным увядзеньне мэтодыкі краязнаўства ва ўсіх ВНУ, тэхнікумах, пэдагогічных курсах і інш. Наогул ВНУ і тэхнікумы павінны быць у нас асяродкамі краязнаўчае працы на мясцох і кузьнямі для выхаваньня і падрыхтоўкі новых краязнаўчых кадраў.

У мэтах падрыхтоўкі новых краязнаўчых кадраў і павышэньня кваліфікацыі існуючых кадраў неабходна арганізаваць пры ЦБК і на мясцох (у раённых цэнтрах, пры буйных прадпрыемствах) спэцыяльныя краязнаўчыя курсы, сэмінары, трэба наладжваць даклады, лекцыі, практычныя заняткі (колекцыянаваньне, статыстычная апрацоўка матар'ялаў, правядзеньне экскурсій, запісваньне савецкага фольклёру і г. д.), трэба арганізаваць завочнае навучаньне, з ужываньнем радыё, якое зараз шырока практыкуецца для падрыхтоўкі кадраў для прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, для пэдагогічнай працы і інш.

У нас вельмі востра адчуваецца недахоп краязнаўчай літаратуры для краязнаўца-масавіка. Тысячам новых савецкіх краязнаўцаў трэба ў самым хуткім часе даць популярную літататуру па розных пытаньнях краязнаўства. ЦБК і Навукова-Мэтодолёгічнаму Камітэту НКА трэба распрацаваць шэраг програмна-мэтодычных пытаньняў, інструкцый, мэтодычных лістоў і, што асабліва важна ў сучасны момант, дапамагчы масавіку-краяведу аўладаць марксыцка-ленінскай мэтодолёгіяй у яго штодзённай краязнаўчай працы.

Вось некаторыя з тых актуальных пытаньняў, якія трэба як найхутчэй вырашыць дзеля хутчэйшай падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў, тысяч і дзесяткаў тысяч дасьледчыкаў—рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, актыўных барацьбітоў за пабудову соцыялізму, пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі.

---

Проф. П. Салауёў.

# Шкоднікі ільняных культур.

Як вядома, паўночна-ўсходняя частка Беларусі, згодна раёнаваньня дзяржаўнага пляну, павінна ператварыцца ў масыў ільняных гаспадарак. У сувязі з гэтым, па нашай думцы, зусім сваечасова будзе паставіць перад нашымі краязнаўцамі пытаньне аб вывучэньні шкоднікаў ільняных культур.

У гэтым сэнсе на першым пляне стаіць так званы „ільняны чарвяк", ці соўка-гама. У 1922 годзе мелася значнае распаўсюджаньне соўкі-гамы ня толькі на Беларусі, але і ў РСФСР і ў УССР. Галоўнай прычынай, якая спрыяе разьвіцьцю шкодніка, зьяўляецца засьмечанасьць палёў, асабліва сурэпкай, на якую матыль кладзе свае яйкі. Чарва толькі потым ужо пераходзіць на лён, які часам зьнішчаецца ею дашчэнту.

Трэба далей адзначыць *ільняную блыху*, а таксама тых камароў-доўганожак (Tipulidae), чарва якіх у зямлі харчуецца зернем і карэнчыкамі маладых расьлін.

Далей трэба адзначыць шкоднікаў ільну, якія называюцца чарвой ліставёрткі.

Апрача ўжо названых галоўных шкоднікаў ільну, можна яшчэ назваць шэраг іншых, поўны сьпіс якіх дае Сіланцеў (1929). Але пакуль што мы ня ведаем, якія з іх могуць мець практычнае значэньне ў будучым для Беларусі. Пагэтаму можна абмежавацца толькі кароткімі заўвагамі.

Напрыклад, *прус* ці італьянская саранча (*Calliptamus italicus L.*), згодна Кеппену, шкодзіць тым расьлінам, у тым ліку і ільну, якіх не чапае азіяцкая саранча (Locusta migratoria L.).

Для Чэха-Славаччыны, Нямеччыны, Паўночнага Каўказу, Латвіі паказан паасобны *трыпс (Thrips linarius* Uzel), які шкодзіць завязі, кветкавым почкам і маладым пладом. Згодна Кірхнеру, трыпсамі псуецца расьліна, і атрымліваюцца кепскія галоўкі ільну. Згодна Увараву, трыпс затрымлівае рост расьлін. Для Нямеччыны вядомы яшчэ другі трыпс *(Thrips lini* Ladur). Значыцца, і нам трэба зьвярнуць увагу на тых трыпсаў, якія сустракаюцца на ільне і прыглядзецца да іх. Між іншым *Thrips linarius* Uzel зьмешчан ў азначальніку Іона па трыпсах (1927), які мае на ўвазе абшары СССР.

Адносна *провалачных* (драцяных) *чарвякоў*, якія прадстаўляюць сабою чарву жукоў-шчалкуноў (Elateridae) і жывуць у зямлі, маюцца супярэчныя думкі. — А. В. Знаменскі (1926), які дае адзнакі як дарослых жукоў, таксама і чарвы, гаворыць, што провалачныя чарвякі амаль што зусім ня шкодзяць ільну. Але, з другога боку, маюцца весткі аб наступных шчалкунох, як шкодніках ільну: *Selatosomus aeneus L.*, *Agriotes lineatus L.*, *Agriotes obscurus L.*, *Agriotes sputator L.*,

*Atheus* niger L. Такім чынам у мэты краязнаўцаў уваходзіць задача высьветліць умовы жыцьця чарвякоў і азначыць іх шкоднасьці ці індыфэрэнтнасьці.

Сярод жучкоў-*блышакоў* Якуніным (1890) паказан Haltica oleracea L., як шкоднік ільну, але пазьнейшыя досьледы гэтага не пацьвярджаюць. Мажліва, што гэтага жука блыталі з падобным да яго *Phyllotreta nemorum L.*, які павінен сапраўды ўлічвацца, як і вышэй ужо прыведзеная ільняная блыха (Aphthona euphorbiae Schr.), якая аб‘ядае семядолі і вярхавінкі ўсходаў ільну.

Яшчэ зарэгістраваны шэраг жукоў, з якіх можна адзначыць хрушчоў (*Melolontha melolontha L. і Melolontha hipocastani Fab.*), чарва якіх харчуецца карэньнямі.

З матылёў *капусная моль* (Plutella maculipennis Curt.) у 1928 годзе сустракалася на ільне ў Пскоўскай акрузе; будучы выхаванай штучна ў лябараторыі, яна зьядала лісьце ільну, але пытаньне адносна кваліфікацыі гэтай формы, як шкодніка ільну, зараз застаецца адчыненым.

Апрача шасьціножак, для Нямеччыны паказан з *кляшчоў* Tetranychus, які выклікае ссыханьне лісьцяў, далей — з *чарвякоў* Tylenchus, dipsaci Kühn, які прычыняе сьцябловую хваробу ільну, а таксама Heterodera radicicola Greef., які выклікае пахіленьне і ўздуцьце карэньняў, часамі хваробу маладых расьлін.

Даючы ў гэтым артыкуле фактычна толькі голае пералічэньне розных шкоднікаў ільну, мы ставім перад усімі краязнаўчымі організацыямі і асобнымі краязнаўцамі, асабліва перад краязнаўчымі гурткамі ў школах, колгасах і саўгасах пытаньне неабходнасьці ў 1931 годзе актыўна заняцца вывучэньнем шкоднікаў ільну ў БССР, даючы матар‘ял вывучэньня ў часопіс „Савецкая Краіна“. Вывучэньне і азначэньне шкоднікаў ільну, характэрных для БССР, дасьць нам у рукі магутную зброю для барацьбы з імі, для падняцьця ўраджайнасьці ільну, а разам з гэтым для падняцьця прыбытковасьці сельскай гаспадаркі БССР.

---

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя лічыць, што гэты артыкул, які дае некаторыя даныя аб шкодніках ільну, павінен зацікавіць краязнаўчыя организацыі і выклікаць жаданьне краязнаўцаў заняцца азначэньнем шкоднікаў. У наступных нумарох будзе дан артыкул аб спосабах барацьбы з кожным з відаў шкоднікаў лёну. Абодвы-ж артыкулы дадуць практычную мажлівасьць краязн. гуртком організаваць барацьбу са шкоднікамі ільну.

---

В. Самцэвіч.

# Разгорнем пролетарскі турызм.

У сувязі з бурным ростам нашай прамысловасьці, вялізарнымі посьпехамі ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, разьвіцьцём шляхавага будаўніцтва і транспорту; у сувязі з значным палепшаньнем дабрабыту працоўных мас і павялічэньнем іх культурных запатрабаваньняў,—ва ўсіх савецкіх рэспубліках з кожным годам павялічваецца колькасьць як блізкіх, так і дальніх экскурсій, вандраваньняў, лыжных і вэлёсыпэдных прабегаў і г. д. Пролетарскі турызм у СССР перажывае пэрыод бурнага росту, які адпавядае шпаркім тэмпам нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пролетарскі турызм у СССР зьяўляецца шырокім грамадзкім рухам (рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства, піонэраў, вучнёўскай моладзі і інш.); ён зьяўляецца неразьдзельнай часткай, неадрыўным зьвяном у агульнай сыстэме нашага соцыялістычнага будаўніцтва і комуністычнага выхаваньня працоўных мас. Праз блізкія і далёкія экскурсіі рабочыя, колгасьніцкія і бядняцка-серадняцкія масы сялянства, рабочая і сялянская моладзь, вучні і пролетарскае студэнцтва знаёмяцца з соцыялістычным будаўніцтвам у сваім раёне, сваёй і іншых братніх савецкіх рэспубліках, з будаўніцтвам магутнейшых электрастанцый, гігантаў-заводаў, гігантаў-саўгасаў і колгасаў, вывучаюць дасягненьні паасобных прадпрыемстваў соцыялістычнага тыпу з тым, каб вопыт гэтых прадпрыемстваў перанесьці ў свае фабрыкі, заводы, колгасы, саўгасы. Пролетарскі турызм ёсьць сродак узбраеньня працоўных мас і школьнай моладзі навуковымі ведамі аб вытворчых сілах сваёй краіны, яе прыродных багацьцях, аб шляхох і мэтодах соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры, аб дасягненьнях сучаснай тэхнікі і г. д. Далёкія экскурсіі ў суседнія рэспублікі СССР зьяўляюцца магутным сродкам пазнаньня і ўразуменьня экономічных, культурных і політычных сувязяй паміж паасобнымі раёнамі і рэспублікамі і адзінства задач, якія стаяць перад пролетарыятам усяго Савецкага Саюзу. Разам з тым пролетарскі турызм у нас зьяўляецца і вельмі важным фактарам інтэрнацыянальна-клясавага комуністычнага выхаваньня, паколькі працоўныя масы розных нацыянальнасьцяй нашага Саюзу ўзаемна знаёмяцца з дасягненьнямі ў будаўніцве соцыялістычнай гаспадаркі і культуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме, вывучаюць гэтыя дасягненьні і ўзаемна дапамагаюць разьвіваць іх (дасягненьні) далей.

Задачы і мэты нашага школьнага турызму тыя-ж самыя, што і наогул савецкага пролетарскага турызму, прычым, аднак, у школьным турызьме павінна зварачвацца параўнальна большая ўвага на асьветнае

і клясава-выхаваўчае значэньне экскусій, якія набываюць асабліва вялікую вартасьць у сувязі з політэхнізацыяй нашых школ.

Організацыйна пролетарскі турысцкі рух у СССР яшчэ канчаткова не аформлен, бо ён расьце і шырыцца, захапляючы шырокія працоўныя масы ўсіх краін Саюзу. І тут, у справе разгортваньня турызму, тэмпы і размах турыстычнае справы ў СССР значна пераўвышаюць тэмпы росту турызму ва ўсіх капіталістычных дзяржавах.

У РСФСР і УССР ёсьць пэўныя і значныя дасягненьні ў справе турызму: ёсьць цэлая сетка экскурсбаз (хаця і недастатковая), літаратура, падрыхтаваныя кадры экскурсаводаў і г. д. У нас-жа, у БССР, справа абстаіць зусім дрэнна. У нас няма цэнтру, які-б кіраваў усёй турысцкай справай у БССР, няма экскурсійных баз, маршрутаў, спадарожнікаў, няма падрыхтаваных экскурсаводаў і г. д. Экскурсіі і вандраваньні па БССР праходзяць у значнай меры самацёкам, бяз пэўнага кіраўніцтва і плянаў.

У мэтах далейшага разгортваньня і замацаваньня пролетарскага турыстычна-экскурсійнага руху ў БССР неабходна організаваць і наладзіць сталую і сыстэматычную працу Цэнтральнага Савету Т-ва пролетарскага турызму і экскурсій, які павінен мець самую цесную сувязь з культсэктарам ЦСПСБ, НКА, Цэнтральным Бюро Краязнаўства і прыняць самыя энэргічныя меры па разгортваньню турыстычна-экскурсійнай сеткі, экскурсбаз, па распрацоўцы маршрутаў, (па чыгунках, рэках, на аўтобусах), па выяўленьні ўсіх турысцкіх об'ектаў, адпаведных задачам савецкага турызму; неабходна разгарнуць працу па выданьню экскурсійнай літаратуры і спадарожнікаў.

У нас амаль зусім няма падрыхтаваных кадраў экскурсаводаў, якія-б адпавядалі запатрабаваньням пролетарскіх турыстаў і экскурсантаў; якія-б маглі належным чынам паказаць рост соцыялістычнай гаспадаркі і культуры; якія-б былі падрыхтаваны да правядзеньня комуністычнай пропаганды. Задача падрыхтоўкі новых кадраў экскурсаводаў зьяўляецца аднэй з бліжэйшых і неадкладных задач у справе разгортваньня пролетарскага турызму ў БССР.

Турысцка-экскурсійная справа зьяўляецца вельмі важнай і сур'ёзнай справай у сыстэме комуністычнага выхаваньня працоўных мас, популярызацыі дасягненьняў у соцыялістычным будаўніцтве, і таму трэба неадкладна і сур'ёзна ўзяцца за організацыю гэтай справы ў БССР, улічыўшы ўвесь вопыт нашых брацкіх савецкіх рэспублік.

---

Гурвіч. Ц., Зюзькоў А., Леўкова Н.

# Нацыянал-дэмократызм, як агентура інтэрвэнцыі.

Жорсткая клясавая барацьба ў СССР, якая абвастраецца ў сувязі з разгорнутым наступам соцыялізму па ўсяму фронту, складанасьць якой павялічваецца, дзякуючы капіталістычнаму акружэньню, рыхтуючаму напад на Савецкі Саюз, — гэта клясавая барацьба набывае спэцыфічныя формы ў нацыянальных рэспубліках, дзе „аджываючыя клясы раней прыгнечаных нацый“ у барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту прыкрываюцца штандарам нібы-та нацыянальнага вызваленьня, вядуць барацьбу за нібы-та „самастойную нацыянальную дзяржаву“, „самастойнасьць“ і „незалежнасьць“ якой нібы-та зьнішчаецца фактам яе ўваходжаньня ў СССР.

„Прыкрываючыся тэорыяй „незалежнасьці“, аджываючыя клясы БССР імкнуцца „замкнуцца“, абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“ (Сталін).

Ня маючы мажлівасьці ажыцьцявіць гэта сваімі ўласнымі сіламі, нацыянал-дэмократы знайшлі выхад у стварэньні адзінага фронту з міравым і ў першую чаргу з польскім і заходня-беларускім фашызмам для барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту, для заснаваньня сваёй буржуазнай фашысцкай дзяржавы пад пратактаратам фашысцкай Польшчы. Для гэтага нацдэмы старанна рыхтавалі інтэрвэнцыю супроць СССР.

Для падрыхтоўкі інтэрвэнцыі нацыянал-дэмократы скарыстоўвалі даволі ўдала краязнаўчыя организацыі, у прыватнасьці краязнаўчы часопіс „Наш Край“, які нацдэмамі быў зроблен сваім програмным, баявым органам, праз які нацдэмы і праводзілі ўсе найболш наглыя і адчынена контр-рэволюцыйныя выступленьні клясавага ворага.

Задачай гэтага артыкулу і зьяўляецца паказаць, як рыхтаваўся беларускі нацыянал-дэмократызм у саюзе з махровым чорнасоценствам да інтэрвэнцыі, як гэта падрыхтоўка інтэрвэнцыі праводзілася у краязнаўчай рабоце праз часопіс „Наш Край“.

Непасрэдным зачыншчыкам інтэрвэнцыі супроць СССР нац.-дэмократы лічылі фашысцкую Польшчу. Але дзякуючы таму, што працоўныя масы Беларусі яшчэ вельмі добра помняць, якую „свабоду“ і „незалежнасьць“ нясуць з сабой польскія паны, — нацыянал-дэмократы, у якасьці першачарговай задачы павінны былі паставіць задачу „апрацоўкі галоў“ працоўных, падрыхтоўкі грамадзкай думкі да інтэрвэнцыі. Шляхам для такой апрацоўкі „павінна была зьявіцца „угрунтаваньне“ асобых, ад СССР, ад разьвіцьця пролетарыяту СССР законаў гістарычнага разьвіцьця Беларусі, адмежавана ад разьвіцьця іншых народаў СССР, доказы нацдэмаў аб шкоднасьці ўплыву пролетарскай

па зьместу культуры іншых савецкіх рэспублік, і ў першую чаргу культуры РСФСР на разьвіцьцё беларускай культуры, паказу „імпэрыялістычных“ імкненьняў Масквы, — і, наадварот, карыснасьці ўплыву Захаду і, у прыватнасьці, буржуазнай Польшчы на гэта разьвіцьцё. Гэтым „угрунтаваньнем“ нацыянал-дэмократы спадзяваліся выбіць з галоў працоўных шкодныя для інтэрвэнтаў успаміны аб окупацыі белапалякамі Беларусі

Побач з „апрацоўкай галоў“ ішла і „падрыхтоўка рук“ у выглядзе кулацтва, як клясавай апоры інтэрвэнцыі ўнутры БССР і разам з усім гэтым зьбіраліся неабходныя весткі для „заходняга друга“, г. зн. праводзілася непасрэдна шпіёнская работа. Як-жа ідэолёгічна падрыхтоўвалася інтэрвэнцыя нацыянал-дэмократамі праз свайго паслухмянага служку — часопіс „Наш Край“?

**Сьцяг „нацыянальнай самабытнасьці“ і яго клясавая сутнасьць.**

Галоўнай зброяй, сродкам угрунтаваць сваё імкненьне да буржуазнай дзяржавы зьяўлялася тэорыя „нацыянальнай самабытнасьці“. Гэта тэорыя — „сьвятое сьвятых“ нацыянал-дэмократызму, і ёю прасякнуты амаль кожны артыкул часопісу „Наш Край“, пачынаючы з самой назвы. Так, Кісьлякоў у сваім артыкуле „Тып беларускай сялянскай гаспадаркі“ — піша: „ува ўсякім выпадку агульны тып сялянскай гаспадаркі будзе значна іншым, чым тып сялянскіх гаспадарак іншых краін“. І далей „розныя мерапрыемствы... у кожнай паасобнай часцы тэрыторыі дзяржавы складаюцца па-рознаму, а, значыць, вымагаюць і featured розные будовы гаспадарак тае ці іншае краіны, раёну“. („Наш Край“, № 2-3 за 1925 г.). Кісьлякоў піша гэта для таго, каб „даказаць“ што Беларусь павінна мець свае асобныя шляхі гаспадарчага разьвіцьця і што, дзякуючы гэтаму экономічная політыка павінна мець іншыя чым у РСФСР формы, буржуазныя формы, гэта значыць формы насаджэньня капіталізму.

Адурманьваючы галовы працоўных, наццэмы беражна захоўваюць гэтую сваю самабытнасьць ад усялякіх „чужаземных“ (чытай савецкіх) уплываў. Калі даецца інструкцыя па складаньню слоўніка, то ў ёй падкрэсьліваецца, што трэба запісваць найболш характэрныя беларускія словы. „Асабліва-ж тыя, якія адрозьніваюцца ад слоў расійскай, ці польскай мовы па вымове, або па значэньню“. („Наш Край“, № 1 за 1925 г.). Калі Шчакаціхін піша аб зьбіраньні твораў народнага мастацтва, то з пільнасьцю старажавога пса нацыянал-дэмократызму зазначае: „З асаблівай увагай трэба кожны раз высьвятляць, ці зьяўляецца аўтар мясцовым ураджэнцам, і ці не запазычаны рысунак з якога-небудзь чужаземнага ўзору“. І далей: „Тут трэба пытацца наконт бацькоў і наогул продкаў, бо вядомы выпадкі, калі перасяленцы прыносілі на Беларусь (напрыклад, на Случчыну) чужыя орнамэнтальныя формы, дзе яны засталіся да гэтага часу на працягу некалькіх пакаленьняў“. („Наш Край“, № 2-3 за 1926 г.).

Так захоўвалася „чыстата“ нацыянал-дэмократычных шэрагаў, так штучна вырывалася ўсё тутэйшае, „самабытнае“ ад „чужых уплываў“. Так нацдэмамі будавалася сьцяна, якая-б зачыняла Беларусь ад уплыву пролетарскай па зьместу культуры іншых Савецкіх рэспублік. Такая-ж сьцяна будавалася паміж горадам, як вядучай пролетарскай адзінкай і вёскай унутры СССР.

Таму ўсё гарадзкое (чытай: пролетарскае) — гэта наноснае, несамабытнае з пункту погляду нацыянал-дэмократаў і пагэтаму з усёй

злобай нацыянал-дэмократы накідваюцца на гарадзкі ўплыў супроцьстаўляючы „іcьціна - народнае“ беларускае — гарадзкому, наноснаму, „ня іcьціна - народнаму“.

„При всей консервативности устоев нашей белорусской деревни... проникающее в нее городское влияние... губительным образом начинает отражаться на ея поэтическом творчестве, и, освяшенная веками, истино народная белорусская поэзия готова понемногу обнаружить тенденцию к постепенному вымиранию, в угоду духу новейшего времени. Народная песня... исчезает в деревне, сменяясь чаще всего позднейшей наносной более или менее легкомысленной песенкой городского пошиба“... — С. Малевіч. На такі аўторытэт спасылаецца Шлюбскі ў артыкуле „Год зьбіраньня фольклёрнага матар‘ялу“ — даказваючы зьнішчэньне народнай творчасьці, дзякуючы ўплыву гарадзкой культуры („Наш Край“ № 2 за 1927 г.).

Супроцьстаўляючы „народ“ гораду (чытай: пролетарыяту), выстаўляючы гэты „народ“ носьбітам нацыянальнай самабытнасьці — нацыянал-дэмократы і тут бачаць небясьпеку пролетарскага ўплыву, і, каб як-мага лепш адмежавацца ад апошняга, адсылаюць краязнаўца да няпісьменных, якія нібы-та толькі і захавалі нацыянальную культуру ў яе найбольш чыстай, незабруджанай ніякімі ўплывамі форме: „Няпісьменны люд—скарб для нашага брата этнографа“ — так піша „Н. К.“. Вось дзе прадстаўнікі „самабытнасьці“: няпісьменны, стары дзядуля, старая бабуля — а моладзь, куды, нéдарасьлі, на ёй шкодны гарадзкі ўплыў! Але няпісьменнасьць усё больш і больш зьнішчаецца і нацыянал-дэмократам застаецца толькі адзіны шлях: выконваць продкаў з магіл, каб давесьці самабытнасьць Беларусі. І ў своеасаблівай форме гэта робіцца імі: адным з спосабаў давесьці „самабытнасьць“ беларускага народу зьяўляўся той факт, што ідэалізуемая нацыянал-дэмократамі мінуўшчына выстаўлялася, як монопольная прадстаўніца сучаснасьці.

Уся праца краязнаўчых організацый заключалася ў зьбіраньні матэрыялаў старасьветчыны ў галінах гісторыі, этнографіі, літаратуры, мастацтва і г. д. Інструкцыі пачыналіся і канчаліся старасьветчынай, бо „старасьвецкія здабыткі народнага мастацтва гэта карані, з якіх павінны вырасьці новыя расткі, новага народнага мастацтва“. (Наш Край“, № 8-9 за 1926 г.).

Усё сучаснае зводзілася і падмянялася старасьветчынай, а старасьветчына — ідэалізавалася, паказвалася, як бясклясавая грамада. Клясавая барацьба адсутнічае—на яе месца ўводзіцца „замілаваньне“, „пашана“ да „замкаў“ (г. зн. да памешчыкаў) з боку „шырокіх колаў грамадзянства“ (г. зн. сялянства). Калісьці значыць, клясавай барацьбы ня было.

„З вольнай дружынай князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а што князь не ўладзіў,
Слухаў, што веча яму звон казаў“.
(„Над Нёмнам.“ Янка Купала).

Але гэта было калісьці—уздыхае, сьвята падняўшы вочы даверху, нацыянал-дэмократ, а цяпер...

Гэтым нацыянал-дэмократы імкнуліся адарваць увагу працоўных ад барацьбы з клясавым ворагам, ад будаўніцтва сваёй соцыялістычнай гаспадаркі і соцыялістычнай па зьместу, нацыянальнай па форме культуры, пераключыць гэту ўвагу на быццам бясклясавую, ідэальную мінуўшчыну, згрупаваць вакол сябе кадры для барацьбы за такую-ж

нібы-та бясклясавую (а пасутнасьці вельмі клясавую) грамаду ў сучасным. З гэтай-жа мэтай на працягу ўсяго часопісу праводзіцца думка аб тым, што сучасная культура, сучаснае краязнаўства ёсьць адраджэньне старой нашаніўскай культуры, нашаніўскага краязнаўства, прычым карэньні апошняга пачынаюцца у XVI стагодзьдзі (Васілеўскі „Стагодзьдзе краязнаўчай працы ў БССР“ „Наш Край“ № за 1926 г.).

Сутнасьць адраджанізму ў тым, што ён зьяўляецца замаскаванай формай выступленьня супроць пролетарскай культуры і яе носьбіта—дыктатуры пролетарыяту. Сутнасьць адраджанізму ў тым, што гэта тэорыя зьяўляецца спробай зьмяніць пролетарскую па зьместу культуру буржуазнай культурай.

Тэорыя нацыянальнай самабытнасьці зьяўляецца маскай, за якой хаваецца зброя нацыянал-дэмократаў, накіраваная супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць саюзу з пролетарыятам іншых саюзных рэспублік, супроць Масквы, як сэрца дыктатуры пролетарыяту. І за гэтым-жа прыкрыцьцем самабытнасьці хаваецца ўмільны, нізкі, лёкайскі твар нацыянал-дэмократа, накіраваны ў бок буржуазнага захаду, у прыватнасьці ў бок Польшчы.

## II. „Супроць СССР—за буржуазны Захад“.

Сваё выступленьне супроць Масквы беларускі нацыянал-дэмократызм пачынае абгрунтоўваць „гісторычна“ (таксама сваеасаблівая нацдэмаўская дыялектыка). Даўгяла ўводзіць нас у XVII стагодзьдзе:

„З гэтага часу (1655 г.) у Менску пачалася маскоўская окупацыя, якая цягнулася да 1661 году. Окупацыя зьнішчала Менск і яго мяшчан... Увесь гандаль, які грунтаваўся на збыце збожжа, супыніўся“. („Стары Менск“ „Наш Край“ № 2-3 за 1927 г.).

Васілеўскі працягвае: „У часы вайны Маскоўскія войскі ня раз палілі і руйнавалі Воршу. Яны захаплялі Воршу і рабавалі яе насельнікаў у 1501, 1508, 1534, 1535, 1563, 1564, 1580 г. г.“. („З гісторыі Воршы“ „Наш Край“ № 2-3, 1926 г.).

І ў гэты-ж час „гістарычна“ робіцца паклон у бок Польшчы: „Цэнтральная улада („Рэч Посполіта“) выдала прапанову, паводле якой мяшчане і купцы, якія вялі гандаль мясцовымі таварамі вызваляліся ад „старога мыту“ на Менскай мытніцы і яе аддзяленьнях „Прыкаморках“)... Сойм вызваліў мяшчан ад усялякіх падаткаў, стацый, выдаваньня хлеба і інш. на пэўную колькасьць гадоў“ (Даўгяла „Стары Менск“).

Такім чынам Масква толькі руйнавала Беларусь, Польшча толькі аднаўляла яе. На прыкладах рабаваньняў Беларусі *фэўдальнай* Маскоўскай дзяржавай нацыянал-дэмократы імкнуцца распаліць варожасьць да *пролетарскай* Масквы, і прыкладамі выключна „добрых“ падзей Рэчы Паспалітай васхваляецца сучасная фашысцкая Польшча.

Свае гістарычныя „довады“ супроць пролетарскай Масквы нацыянал-дэмократы, адчуваючы ўсю іх фіктыўнасьць і недаказальнасьць для працоўнай Беларусі, імкнуцца падмацаваць „матар'яламі“ сучаснасьці. Грамыка піша: як ён папаў „за граніцу“ на тэрыторыю РСФСР у Смаленшчыну, ці, як называе „Н. К.“—Беларускую Смаленшчыну“.

„Тая-ж Беларусь... па той бок наша афіцыяльная Беларусь; па гэты, дзе мы ляжым,—РСФСР“. Вывад ясны: частка Беларусі „окупавана“ з боку РСФСР, яе нельга назваць афіцыяльна Беларусьсю, але „фактычна“ — „тая-ж Беларусь“. („З падарожных запісаў“ — „Н. К.“ № 4-5 за 1926 г.).

Такая-ж думка праводзіцца ў хроніцы „Нашага Краю". „Слоўнікавая камісія лічыць патрэбным укладаньне краёвых слоўнікаў у ліку, адпаведным тэрытарыяльнаму падзелу БССР на 10 акруг, а таксама паасобных слоўнікаў для абшараў этнографічнае Беларусі ў межах РСФСР"...І тут праводзіцца думка, што РСФСР окупавала частку Беларусі. Гэты нячуваны і дзікі паклёп узводзіцца дзеля таго, каб выклікаць варожасьць працоўных да суседняй Савецкай рэспублікі РСФСР.

Дзеля гэтага-ж пускаецца ў масы такая прыказка: „Масква, што дошка, — стаіць шырока і ўсюды цісьнець" „Наш Край" № 1 за 1927 г. т. Шлюбскі „Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу").

А Шавельскі—забаронца беларускага народу—ідзе яшчэ далей і, перавышаючы па сваёй контр-рэволюцыйнай няпрыкрытасьці ўсё дагэтуль сказанае, „гістарычна" даводзіць, што Нэвель—гэта адвечна беларуская мясцовасьць, ён піша: „З прычыны таго, што Нэвельскі павет знаходзіцца ў складзе РСФСР, дык русіфікацыя Нэвельскага павету праз школы праводзіцца ў *значна большых разьмерах, чымся пры цары*" (падкрэсьлена намі). („Да пытаньня аб этнографічным складзе насельніцтва Нэвельшчыны „Наш Край" № 11 за 1928 г.). Вось дзе асабліва ясна ўскрываецца сапраўдны твар нацдэма — клясавага ворага: *яму лепш царская Расія, гэта „турма народаў", чым дыктатура пролетарыяту, чым СССР. Тут бачна сапраўдная цана „нацыянальна-незалежніцкіх тэндэнцый": лепш быць колёніяльнай часткай Расіі, але царскай, чым мець самастойную Беларусь, але ў саюзе з іншымі Савецкімі рэспублікамі.* Клясавы з аскаленымі зубамі твар паказаўся з-пад нацыянальна-вызваленчай маскі. Не хапае толькі лёзунгу „Далоў Саветы". Але калі гэты лёзунг адчынена не выстаўляецца, то дэмонстрацыі і досыць адчыненыя на карысьць такога лёзунгу нацдэмамі робяцца. Так у хроніцы „Н. К." паведамляецца „ў ліпні месяцы беларускія песьняры З. Бядуля і У. Дубоўка, аб'яжджаючы розныя гарады Беларусі, заехалі ў Нэвель (цяпер Пскоўскай г.). Яны азнаёміліся з палажэньнем у Нэвельшчыне *беларускасьці* (падкрэсьлена намі) і культуры наогул". Паехалі ў Нэвель—на тэрыторыю РСФСР азнаёміцца з палажэньнем „беларускасьці", якая прыгнечваецца „горш чым пры цары". Як-жа інакш можна разглядаць падобнага роду дэмонстрацыі, як ня контр-рэволюцыйнае выступленьне супроць дыктатуры пролетарыяту пад маскай „беларускасьці", і нібыта нацыянальна-вызваленчага руху. І гэта пішацца і робіцца ў той час, калі Савецкая Беларусь перажывае адзін з найвышэйшых момантаў росквіту свайго соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне гаспадаркі і культуры, нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу; калі ў фашысцкай Польшчы праводзіцца зьверскі нацыянальны ўціск, калі ў Заходняй Беларусі нішчыцца ўсё беларускае, калі пад кіраўніцтвам сваёй комуністычнай партыі працоўныя Заходняй Беларусі вядуць геройскую барацьбу за сваё вызваленьне. Але аб апошняй ні слова.

Працоўныя масы Беларусі ўсяго Савецкага Саюзу, будуючы сваю соцыялістычную гаспадарку, разьвіваючы на аснове правільнай нацыянальнай політыкі комуністычнай партыі і савецкай улады сваю нацыянальную па форме культуру, зьліваюць у адзін магутны інтэрнацыянальны паток пролетарскі яе зьмест, — а бясьсільны клясавы вораг з пенай каля рта злобна шыпіць: „Нашы зьбіральнікі і наш фольклёр нічога ня згубяць, калі ня будуць запісвацца падобныя „народныя" песьні, якія па духу, мове і зьместу ня маюць ніякай тычнасьці да Беларусі, а зьяўляюцца ў нашай вёсцы русыфіцыйнымі наносамі... Значна лепш было-б, каб Дразьдзецкі ня „выпытваў"-бы казкі ў „другіх на-

родаў“, а запісваў-бы беларускія, якія апавядаюць дзяды і бабулі яго вёскі“. (Шлюбскі, „Наш Край“, № 1 за 1926 г.).

Спадзяючыся каменьнямі сваёй варожасьці пабудаваць кітайскую сьцяну паміж працоўнымі Беларусі і іншых рэспублік Савецкага Саюзу, імкнучыся „абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“ (Сталін), — нацыянал-дэмократы для гэтай мэты выкарыстоўвалі былое кіраўніцтва краязнаўства, і, асядлаўшы яго, заяўлялі: „краязнаўства, як энцыклёпэдыя мясцовага краю, як мэта ўсебаковага вывучэньня пэўнай, адносна невялікай тэрыторыі з мэтай скарыстаць у інтарэсах гэтай тэрыторыі яе вытворчыя сілы („Наш Край“, № 8-9 за 1926 г.). Беларусь выстаўляецца як зусім замкнутая ад СССР тэрыторыя, „адносна невялікая“, у інтарэсах якой (тэрыторыі, а ня клясы?) павінны выкарыстоўвацца яе вытворчыя сілы. Нацдэмы імкнуцца за словам „тэрыторыя“ схаваць свой клясавы твар, сваё выступленьне супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць СССР.

Выступаючы супроць „Масквы“, „другіх народаў“, „чужаземных уплываў“, — нацыянал-дэмократы ня толькі нічога ня маюць супроць уплыву буржуазнага захаду і фашысцкай Польшчы, але наадварот: гэты ўплыў васьпяваецца, як вельмі пажаданы і карысны ўплыў.

Так нават меншая сьмяротнасьць грудных дзяцей на Беларусі тлумачыцца большай нібы-та культурнасьцю беларускага селяніна, „дзякуючы яго беспасрэднай блізкасьці да Заходняй Эўропы („Наш Край“, № 2-3 за 1926 г.—артыкул Папова).

Вельмі старанна апісваецца нацыянал-дэмократамі, якая „вялікая работа праводзіцца ў Латвіі, у Польшчы па краязнаўству, як добра пастаўлены польскі часопіс „Земя“ („Н. К.“ № 12 за 1926 г.), праводзіцца думка аб тым, што ўся розьніца паміж польскім і савецкім краязнаўствам толькі ў тым, што ў Польшчы аматарства, а ў нас масавае краязнаўства; праводзіцца думка аб тым, што савецкае краязнаўства толькі „паглыбляе на карысьць навукі вывады Захаду“ (Жарынаў. „Наш Край“, № 1 за 1925 г.). Так скарыстоўвалася нацыянал-дэмократамі ў краязнаўчай рабоце тэорыя нацыянальнай самабытнасьці, так тачылася зброя супроць пролетарскай Масквы і сродкамі ідэолёгічнага ўплыву рабіліся спробы падрыхтаваць глебу ўнутры БССР для інтэрвэнцыі.

## Падрыхтоўка клясавай сілы.

Нацдэмократы ведалі, што недастаткова толькі „ідэолёгічна падрыхтаваць“ насельніцтва БССР да інтэрвэнцыі, шляхам разжыганьня варожасьці да Масквы, шляхам паказу гістарычнай дабрачыннасьці Польшчы, якую (дабрачыннасьць) добра памятаюць працоўныя БССР, добра памятае бядняк і серадняк-селянін, які зьвязаў свой лёс з савецкай уладай, убачыў, што адзіна добры для яго шлях, гэта шлях указаны комуністычнай партыяй і пролетарыятам, шлях колектывізацыі. Нацдэмократам неабходна было мець тую клясавую сілу, на якую можна абаперціся ў час інтэрвэнцыі і пры будаваньні сваёй буржуазнай дзяржавы. Такой клясавай сілай мог-бы быць на вёсцы толькі кулак. Вось таму нацыянал-дэмократы ў зямельным пытаньні праводзілі сваю „прышчэпаўскую“ політыку хутарызацыі сельскай гаспадаркі БССР. Соцыяльная сутнасьць „прышчэпаўскай“ політыкі і заключаецца ў стварэньні капіталістычнае клясы—кулака праз хутарызацыю сельск. гаспадаркі, а політычны сэнс яе — падрыхтоўка той клясавай сілы, якая-б дапамагала ня толькі цяпер весьці барацьбу з політыкай партыі на вёсцы, але і быць дапаможнікам пры інтэрвэнцыі.

Былое краязнаўства з яго органам „Наш Край" і ў гэтай галіне мае свае вялікія заслугі. Яно цалкам праводзіла нацдэмаўскую лінію.

„Гістарычна" ўгрунтаваўшы „асаблівасьць", „самабытнасьць" БССР тым, што і ў старыну беларусы ня былі падзелены на клясы, выкрэсьліўшы ўсю клясавую барацьбу з гісторыі, нацдэмократы імкнуліся маскай „бясклясавасьці" прыкрыць вельмі клясавы твар кулака. У „Нашым Краі", калі і дапускаецца падзел вёскі, то толькі на „мужыкоў і шляхту" („Наш Край" № 3 за 1930 г.), ці на „бедных і багатых" (Азбукін). І толькі ў самыя апошнія часы сустракаецца падзел на беднякоў і серадьнякоў. Кулак-жа на беларускай вёсцы адсутнічае, бо ён „селянін-дасьледчык".

З гэткім „бясклясавым" падыходам нацдэмократы „бароняць" інтарэсы „ўсяго сялянства", што ўсапраўднасьці азначала інтарэсы кулака. Так, шукаючы „тып беларускай сялянскай гаспадаркі", яны знайшлі тып гаспадаркі кулацкай, разьвіваццa якой мяшае палітыка савецкай улады.

„Селянін заплаціў падатку—41,29 жытніх адзінак. Ці ня многа гэта? Пры тым стане гаспадаркі, у якім яна цяпер знаходзіцца—бязумоўна многа. І падатак гэты зьяўляецца ня толькі арэнднай платай (рэнтай, якую селянін павінен пляціць дзяржаве), а і падаткам на сялянскі капітал (маемасьць).

(Кісьлякоў. „Наш Край" № 23 за 1925 г.).

Вось, бачыце,—„даведзена", што растрачваецца на падаткі Савецкай дзяржаве нават „маемасьць селяніна"!

Адзіны выхад для селяніна пры савецкай уладзе: хутарызацыя.

„Шмат якія вёскі расьсяліліcь цяпер на хутары і на пасёлкі, дзе жыцьцё ўжо ідзе ня так, як ішло раней у самой вёсцы. Вёска з яе звычаямі і традыцыямі ўсіх уцягвала ў адно жыцьцё, прымушала ўсіх жыць і гаспадарыць аднолькава старымі спосабамі. Зараз зьнішчаецца цераспалосіца, паляпшаецца тэхніка сельскай гаспадаркі, ствараецца новы тып земляроба-культурніка". (Вывучэньне вёскі — неадкладная задача краязнаўства". „Наш Край").

Гэта хутарызацыя выражаецца, як жаданьне ўсіх сялян:

„Дзеля падняцьця сваёй гаспадаркі, некаторыя гаспадары маюць вялікае жаданьне аддзяліцца на хутары, каб можна было весьці гаспадарку паводле ўсіх правіл агрономіі". („Наш Край", „Вёска Дакудава").

Выходзіць, што „паводле ўсіх правіл агрономіі" можна весьці гаспадарку толькі хутарскую.

Але да асаблівага захлёбваньня даходзіць „Наш Край" пры расхваленьні кулацкіх гаспадарак. У б. Полацкай акрузе была гаспадарка „Фатынь", якая належала кулаку Марозу. Цэлы артыкул „Нашага Краю" прысьвечан апісаньню гэтае гаспадаркі, зьмешчана фотографія „добрага гаспадара Мароза", і нават яго сыноў, вітаецца выдача Наркамземам (у часы прышчэпаўшчыны) гэтай гаспадарцы „ахраннай граматы". Што-ж гэта за высока-культурная, дасьледчая гаспадарка? Мароз „яшчэ ў 1900 г. меў ужо каля 40 кароў, 12 сталых коняй" і г. д. А з тых пор да 1926 г. ён „яшчэ ўзрос і ўзмацніўся". Мае свае сталярную, сьлясарную майстэрню, кузьню, „снабжае" мясцовае насельніцтва і сельска-гаспадарчымі машынамі і рассадай і ўсім што патрэбна. А галоўнае—„усяго два пастаянных рабочых". (Квяткоўскі. „Фатыньская гаспадарка і яе зьначэньне". „Наш Край", № 6-7 за 1926 г.). Нельга чалавека не пахваліць: мог вывярнуцца. Дасьць машыну — адпрацуюць; адпрацоўвалі за расаду і за ўсе „благадзяяньні" кулака. Навошта-ж тады шмат рабочых.

Мароза, Савіча (ня меншы кулак) і інш. нацдэмократы ня толькі заносяць у „сялян-дасьледчыкаў“, але дапамагаюць ім і праз дзяржаўныя ўстановы.

„Сяляне-дасьледчыкі, як Мароз, Савіч і інш., цяпер вядуць свае досьледы пры дапамозе Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна. Цяпер патроху сьціраецца мяжа паміж навукаю і фізычнаю працаю“. („Наш Край“, № 1 за 1929 г. Касьпяровіч).

„Дасьледчык Мароз (у „Фатыні“) стаў вядомы на мясцох галоўным чынам праз краязнаўцаў і краязнаўчы часопіс „Наш Край“.

(„Наш Край“, 1929 г. „Аб некаторых практычных задачах мясцовых краязнаўчых організацый у соц. будаўніцтве“).

Граючы на самых цёмных бакох сялянскай псыхолёгіі, нацдэмам у некаторых раёнах удалося лічбай „землеўпарадкаваных“ пры савецкай уладзе на хутары перавысіць у некалькі разоў лічбу хутарызацыі пры Сталыпіне. Так, па Горацкаму раёну да вайны землеўпарадкавана на хутары 22,75% плошчы зямлі (без лясоў), а ў 1927 г. было ўжо землеўпарадкавана 64,7%, прычым 83% усіх „землеўпарадкаваных“ расьселена на хутары і толькі 17% на пасёлкі. (Плятнэр, Экономіка с.-г. Горацкага раёну. „Апісаньне Горацкага раёну“ выд. Сельска-гаспадарчай Акадэміі).

Але ня ўдалася іх агідная, шкодная работа! Мы ведаем, што напружанай, упартай работай пролетарыяту БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры шчырым падтрыманьні бядняцкага і серадняцкага сялянства, біта гэта стаўка нацдэмократаў: ім не ўдалося стварыць сабе моцнай апоры кулацтва, бо „асноўная маса сялянства канчаткова павярнула ў бок колгасу. Сапраціўленьне кулацтва адбіта“. (Сталін).

## Шпіёнская работа.

Падрыхтоўка да інтэрвэнцыі не канчалася „ідэолёгічнай апрацоўкай“ насельніцтва і дапамогай разьвіцьцю кулацтва, як клясавай сілы інтэрвэнтаў унутры БССР. Нацдэмократам неабходна было і яшчэ кой-чым дапамагчы „другу з Захаду“: трэба было зрабіць больш лёгкай барацьбу інтэрвэнтаў з Чырвонай арміяй, праз організацыю паўстаньняў у тылу Чырвонай арміі, праз організацыю банд на чале з Булак-Балаховічам, праз дывэрсыйную работу контр-рэволюцыі і інш., на манэр як гэта рабілася імі ў часы грамадзянскай вайны.

„Пачынаючы з першых дзён свайго абразаваньня, а іменна з 17 сьнежня 1917 г., Рада БНР стала на шлях адчыненай і жорсткай барацьбы з бальшавікамі. Гэта быў другой па часу на тэрыторыі был. Расіі нацыянальны Ўрад, пайшоўшы на гэты шлях: першымі выступілі украінцы“. (З мэморандуму Вайскова-Дыплёматычнай місіі БНР).

Так даносяць беларускія контр-рэволюцыянэры „Его Высокопревосходительству, г-ну статс-секретарю иностранных дел Северо-Американскіх Соединенных Штатов“.

„... У красавіку 19 г., калі пачаўся агульны наступ на бальшавікоў, беларусы ваявалі супроць бальшавікоў з сваімі атрадамі, у шэрагах так-званай „зялёнай арміі“, дзейнічаўшай у тылу бальшавікоў... Цяпер (г. ё. у студзені 20 г.) маем... шмат атрадаў „зялёнай арміі“ у тылу бальшавікоў ... і асобны атрад БНР пад камандай генэрал-майора Булак-Балаховіча“ (там-жа. Архіў БНР).

Вось як беларуская контр-рэволюцыя, па іх-жа словах, змагалася з бальшавікамі ў час мінулай грамадзянскай вайны. Няма ніякай упэўненасьці, што гэта не рабілася-б і зараз, каб толькі пачалася падрых-

таваная імі інтэрвэнцыя. Ня дзіва, што нацдэмы дапамагалі падрыхтоўваць інтэрвэнцыю шляхам шкодніцтва, шляхам барацьбы з мерапрыемствамі савецкай улады.

У гэтых мэтах неабходна было сабраць веды аб зьменах мясцовасьцяй, аб новых пабудовах, шляхох, і г. д. аб усім тым, чаго няма яшчэ на карце „замежнікаў“, неабходны веды аб настроях насельніцтва; неабходны веды аб партыйных, комсамольскіх, асоавіахімаўскіх, бязбожніцкіх, мопраўскіх і г. д. грамадзкіх організацыях, асабліва аб першых.

Для гэтага было дано заданьне зрабіць:

Выпраўленьне карты, падрабязнае апісаньне мясцовасьці. На першы погляд гэта так неабходна для краязнаўства: чым-жа і займацца краязнаўцу, як не апісаньнем мясцовасьці!

Але калі паглядзім зьмест гэтай працы, то ўбачым замаскаваныя, але ўсё-ж даволі даўгія вушы інтэрвэнта-нацдэма.

Раёным краязнаўчым таварыствам было дано заданьне, як першачарговая іх задача, гэта скласьці раённы географічны слоўнік. Рэч вядома добрая. Аб гэтым шмат гаварылася і пісалася. Разаслалі па раёнах карты-трохвёрсткі, якія краязнаўцы павінны былі выправіць і дэталізаваць. На што-ж робіцца ўпор?

Упор робіцца на наступнае: паверхня раёну, узгоркі, раўчукі, рэкі, вазёры, балоты, іх *даўжыня, шырыня, глыбіня, дарогі, масты, калодзежы* і г. д.

Дарогі, масты і г. д. вельмі цікавяць „краязнаўцаў“. Але цікавяць не наогул шляхі, як сродак зносін, рэкі, як сродак сплава лесу, іх цікавяць іншыя рэчы:

„Якія шосы, гасьцінцы пралягаюць праз даную мясцовасьць, як яны завуцца, куды вядуць... *іх агульны выгляд, кірунак, брук, масты* і г. д.

Колькасьць студняў і вадаёмкасьць іх... ці ёсьць блізка вадаёмы, дзе պояць быдла, берагі вадаёму...“

Раіцца пры запісах асабліва зьвяртаць увагу на ўсё новае, як „новыя паселішчы“, а таксама „зьмены ў параўнаньні з картай, якія наглядаюцца ў адносінах да лясоў, балот, вазёр“. Раіцца фотографаваць іх, *„прывесьці апавяданьні аб зьнішчаных лясох, асушаных балотах... аб зьменах рэчышча“*. Цікавячыся мастамі, дарогамі, балотамі, вазёрамі, рэкамі і г. д. нацдэмы больш ясна кажуць, што неабходна запісваць *зьмены ўсяго гэтага з 1920 па 1928 г.*

Раіцца падрабязна апісваць, якія вучасткі, якіх дарог забрукаваны, дзе ёсьць мосьцікі, дзе няма і г. д.

І пісакі нацдэмаў пішуць сумленна аб усім, аб чым іх просяць заказчыкі. Імі прыводзіцца, згодна вышэйпрыведзеным інструкцыям, рад не падлягаючых апублікаваньню даных аб мясцовасьці. Гэтыя зьвесткі нацдэмам патрэбны былі для аказаньня незамянімых паслуг на выпадак капіталістычнай інтэрвэнцыі супроць СССР. Гэта яскрава вынікае з усяго тут прыведзенага аб контр-рэволюцыйнай дзейнасьці беларускіх нацдэмаў.

Такія-ж весткі патрэбны былі нацдэмам і аб настроях насельніцтва. Ня дзіва таму, што даваліся заданьні прыслаць матар'ял з апісаньнем сельскіх сходаў, *аб адносінах да акруговай і раённай улады. Адносіны да чужаземных народаў і да чужаверцаў...* „Мясцовыя савецкія ўстановы. *Іх дзейнасьць. Адносіны да іх мас і г. д.*

Нацдэмократы ведаюць, якую ролю адыгрываюць у вёсцы партыйцы, камсамольцы, нават піонэры. Яны не маглі прайсьці міма гэтага

зьявішча. І адразу пачынаецца праяўляцца вялікая цікавасьць да парт.-комс. ячэек у вёсцы. У пляне агляду колгасаў ёсьць пункт: *Грамадзкія організацыі: ячэйкі КПБ, ЛКСМ*, Мопр, Асоавіяхім, Бязбожнік. *Іх дзейнасьць і ўплыў на жыцьцё і працу*". Тое самае ў інструкцыі сан.-бытавога абсьледваньня вёскі: „Ячэйкі КПБ і ЛКСМБ, *іх дзейнасьць, уплыў...*" З месц хутка адгукнуліся, даючы весткі аб партыйных, комсамольскіх і іншых організацыях.

Асабліва паказацельна іх шпіёнская дзейнасьць праявілася ў выбары раёнаў і мястэчак абсьледваньня. Нацдэмократы спадзяваліся на хуткую інтэрвэнцыю, ім нельга было прымацца за дэталёвае абсьледваньне ўсіх раёнаў БССР. Прыходзілася выбіраць. Якія-ж былі выбраны з усёй сотні раёнаў БССР. А выбраны былі прымежныя раёны, раёны, дзе знаходзяцца буйныя чыгуначныя вузлы. З 28 вывучаемых нацдэмамі раёнаў 22 былі прымежнымі раёнамі і раёнамі з буйнымі чыгуначнымі вузламі. Цікава зазначыць і тое, што больш дэталёва якраз вывучаліся ўказаныя 22 раёны. З гэтага відаць, што вывучэньнем руёнаў нацдэмы з шкуры лезьлі вон, каб аказаць максымум дапамогі інтэрвэнтам і ў першую чаргу польскай дыфэнзыве.

Усё гэта паказвае сапраўдны твар нацдэмократаў, твар заядлых ворагаў дыктатуры пролетарыяту, якія ўсімі сродкамі прагліся зьнішчыць дыктатуру пролетарыяту.

Пролетарскі гонар ДПУ, якая спыніла гэтую падрыхтоўку інтэрвэнцыі супроць СССР.

---

**В. С-іч.**

# Задачы краязнаўчых організацый у падрыхтоўцы і пасьпяховым правядзеньні другой бальшавіцкай вясны.

„Наша краіна, дзе соцыялістычны сэктар заняў абсолютна пераважную ролю ў народнай гаспадарцы, уступіла ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня, у пэрыод соцыялізму. Наступаючы 1931 год будзе годам новых дасягненьняў, новых буйнейшых посьпехаў соцыялізму ў яго барацьбе з капіталізмам. Выкананьне пляну ў галіне колектывізацыі дасьць абсолютную перавагу соцыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі элемэнтамі ў вёсцы, узмацніць змычку рабочай клясы з працоўнымі масамі сялянства і закончыць пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР. Гэта будзе перамога ўсясьветнага гістарычнага значэньня".

*(З рэзолюцыі Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б).*

Другая бальшавіцкая вясна зьяўляецца рашаючым этапам у выкананьні пляну колектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, вызначанага партыяй і савецкай уладай на 1931 г.

Асноўная задача другой бальшавіцкай вясны заключаецца ў тым, каб узьняць на большую вышыню хвалю колгаснага прыліву, замацаваць дасягнутыя посьпехі ў існуючых колгасах і на базе суцэльнай колектывізацыі ліквідаваць кулацтва, як клясу. На пасьпяховае правядзеньне другой бальшавіцкай сяўбы накіравана ўвага ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый. Краязнаўчыя організацыі таксама павінны прыняць самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і пасьпяховым правядзеньні другой бальшавіцкай сяўбы, усебакова вывучаючы ўвесь вопыт колгаснага будаўніцтва, для выкарыстаньня вынікаў дасьледчае працы ў колгасным будаўніцтве свайго раёну.

Удел краязнаўчых організацый (асабліва краязнаўчых гурткоў у колгасах), як масавых організацый, якія павінны прымаць самы актыўны ўдзел у непасрэдным соцыялістычным будаўніцтве на аснове масавае дасьледчае працы ў адпаведных галінах будаўніцтва соцыялістычнае гаспадаркі і культуры, у правядзеньні другой бальшавіцкай сяўбы павінен выявіцца (у мэтах неадкладнага скарыстаньня вынікаў дасьледчае працы) у распрацоўцы наступных тэм і заданьняў:

1. Вывучэньне характару і найлепшых умоў правядзеньня спэцыялізацыі ўсіх колгасаў у сваім раёне, дзеля чаго неабходна дакладна дасьледваць:

а) глебу кожнага колгасу і яе ўласьцівасьці, найбольш адпаведную тэхніку яе апрацоўкі ў сувязі з пашырэньнем новых культур,

найлепшыя гатункі культур у адпаведнасьці з глебава-кліматычнымі ўмовамі, найлепшыя спосабы і час засеву, дагляду ўборкі новых для данага колгасу культур і інш. (у раёнах тэхнічных культур);

б) найлепшыя пароды развадзімых жывёл, умовы ўтрыманьня і дагляду розных відаў жывёлы, адшуканьне найлепшых спосабаў максымальнага пашырэньня кармавой базы для жывёлагадоўлі (у раёнах жывёлагадоўлі);

в) умовы найлепшай арганізацыі малочна-гародных і садова-гародных колгасаў.

2. Вывучэньне зямельных угодзьдзяў і гатункаў розных культур. Выявіць усе віды ўгодзьдзяў (ворная зямля, сенажаці, балоты і г. д.) і магчымасьці найбольш рацыянальнага іх скарыстаньня (пашырэньне пахаці, асушка балот пад сенажаці, раскарчоўкі і інш.) у гэтым і наступных гадох; вывучэньне найбольш правільнага разьмяшчэньня тэхнічных, кармовых, сіласных і новаўвадзімых культур.

Дасьледваньне найбольш высокаўраджайных і высокапробных культур на падставе вопыту мінулых гадоў і арганізацыі сталых сыстэматычных назіраньняў і спэцыяльных досьледаў на працягу некалькіх бліжэйшых гадоў.

3. Арганізацыя і дакладнае вывучэньне найлепшых мэтодаў уцягненьня аднаасобнікаў у колгасы: справаздачы праўленьняў колгасаў на сходах аднаасобнікаў, арганізацыя колектыўнай працы аднаасобнікаў і вытворчая дапамога ім з боку колгасаў і саўгасаў у часе вясновай сяўбы, арганізацыя ініцыятыўных груп з беднякоў і серадиякоў і дапамога ім у перарастаньні ў колгасы, праца вярбовачных брыгад і г. д. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на вывучэньне разгортваньня сталінскага прыліву ў колгасы, на пашырэньне і ўзьняцьце гэтага прыліву на больш высокую ступень.

4. Вывучэньне форм і мэтодаў барацьбы кулацтва супроць колгасаў у мэтах разлажэньня іх; дасьледваньне вынікаў конкрэтных мерапрыемстваў па ачышчэньню колгасаў ад кулакоў і клясава чуждых элемэнтаў.

5. Вывучэньне найбольш адпаведнага мясцовым запатрабаваньням (у залежнасьці ад якасьці глебы і спэцыялізацыі колгасаў) с.-г. інвэнтару і яго выкарыстаньня ў часе вясновай сяўбы; дасьледваньне найбольш рацыянальнага скарыстаньня трактараў, с.-г. машын і рабочай жывёлы (утрыманьне, дагляд, нормы харчававаньня, рабочая нагрузка і г. д.).

6. Арганізацыя працы ў колгасах: прынцып арганізацыі рабочых брыгад і замацаваньне за імі с.-г. машын і рабочае жывёлы; характар заданьняў паасобным брыгадам; унутраны распарадак і нормы выпрацоўкі паасобных брыгад; давядзеньне вытворчага пляну да кожнае брыгады і кожнага колгасьніка; праца вытворчых нарад; мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва; арганізацыя грамадзкага харчаваньня ў часе палявых работ, паляпшэньне працы жанчын (адчыненьне дзіцячых ясьляў, пляцовак і інш.); арганізацыя вучоту працы па брыгадах.

На падставе вывучэньня вопыту арганізацыі працы ў мінулыя гады ў сваім колгасе і на аснове дасягненьняў у арганізацыі працы ў іншых лепшых колгасах дабіцца найбольш рацыянальнай пастаноўкі колектыўнае працы ў колгасе ў часе вясновай сяўбы, працягваючы дасьледваньне магчымасьцяй і мэтодаў удасканаленьня арганізацы працы ў далейшым разьвіцьці колгасаў свайго раёну.

У справе арганізацыі працы вялікую ролю адыгрывае наяўнасьць кваліфікаваных і падрыхтаваных кіраўнікоў розных галін гаспадаркі,

а таму трэба на практыцы дасьледваць і выявіць і найлепшыя способы падрыхтоўкі кадраў (вылучэнства, курсы і г. д.).

7. Дасьледваньне жывёлагадоўлі ў колгасах: найбольш адпавядаючыя хлявы для розных відаў жывёлы, найлепшыя способы ўтрыманьня і дагляду за жывёлай (каровамі, сьвіньнямі) і найбольш адпавядаючыя віды і якасьць кармоў, вырашчваньне і догляд за маладняком; найлепшыя способы павялічэньня продукцыйнасьці жывёлы; вывучэньне і паказ переваґі колектыўнага вядзеньня жывёлагадоўлі перад індывідуальным.

Адначасова з вывучэньнем найлепшай пастаноўкі працы ў жывёлагадоўчых колгасах неабходна зьвярнуць увагу і паказаць, як зьмяняецца ўся сыстэма шматгалінннай гаспадаркі ў спэцыялізаваную гаспадарку і як апошняя ў сувязі з гэтым робіцца высокапродукцыйнай таварнай гаспадаркай.

8. Вывучыць найлепшыя мэтоды і прынцыпы організацыі спэцыялізаваных колгасаў па разьвядзеньню тэхнічных культур.

У сувязі з тым, што ў сучасны момант згодна пастановы Праўленьня Колгасцэнтру СССР ад 17/II г. г. і пастановы Праўленьня Белколгасцэнтру ад 21/II г. г. ва ўсіх колгасах праводзіцца поўная праверка выкананьня дырэктыў па падрыхтоўцы да вясновай сяўбы па ўсіх колгасах і райколгассаюзах (гл. газ „Зьвязда“ за № 53 1931 г.), краязнаўчыя організацыі на мясцох павінны ў максымальнай меры выкарыстаць усе матар‘ялы гэтай праверкі, сыстэматызаваць іх і на падставе сваіх уласных сыстэматычных досьледаў зрабіць належныя практычныя вывады, якія маглі-б выкарыстаць колгасы ў часе правядзеньня другой бальшавіцкай сяўбы ў мэтах дасягненьня максымальных посьпехаў у выкананьні асноўных задач, пастаўленых партыяй і савецкай уладай.

Дасьледчую працу, распачатую ў сувязі з правядзеньнем падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай сяўбы, трэба працягваць і далей, прыдаўшы ёй плянавы, сыстэматычны і практычны характар, паставіўшы асноўнымі задачамі для дасьледваньня: а) вывучэньне спэцыялізацыі колгасаў; б) вывучэньне найлепшых мэтодаў уцягненьня аднаасобнікаў (беднякоў і сераднякоў) у колгасы; в) вывучэньне організацыі працы ў колгасах і г) дасьледваньне разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Усе практычныя вывады дасьледчае працы павінны быць поўнасьцю скарыстаны для ажыцьцяўленьня пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі другой бальшавіцкай вясны, як рашаючага этапу ў выкананьні пляну колектывізацыі трэцяга году пяцігодкі, для чаго праца краязнаўчых гурткоў у колгасах павінна быць цесна і неразрыўна зьвязана з вытворчай програмай колгасаў і агульнымі пэрспэкцыйнымі плянамі будаўніцтва колгасаў. Дасьледчая праца ў колгасах павінна зьяўляцца моцнай падставай для плянавага будаўніцтва колгасаў на навуковай падставе.

Л. Бабровіч, Ів. Шпілеўскі.

# Мовазнаўства, як сродак клясавай барацьбы ў руках беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Тут мы спынімся на шкодніцтве беларускіх контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў, якое яны праводзілі непасрэдна пад кіраўніцтвам Ластоўскага ў галіне мовазнаўства. Для гэтага мы спынімся на працах Ластоўскага ў галіне мовазнаўства, якія ім былі напісаны яшчэ ў Коўне. Так, у 1924 г. Ластоўскі выдаў у Коўне вялікі слоўнік пад назваю „крыўска-беларускі слоўнік". Гэты слоўнік і ўстаноўкі Ластоўскага ў ім ляглі ў аснову складаньня слоўнікаў і тэрмінолёгій у Беларускай Акадэміі Навук. У прадмове да слоўніка Некрашэвіча і Байкова, выданага Дзяржвыдавецтвам БССР, мы маем проста спасыланьне на тое, што аўтары пры ўкладаньні свайго слоўніка карысталіся „крыўскім слоўнікам" Ластоўскага.

Якую-ж мэту ставіў Ластоўскі, складаючы гэты „крыўскі" слоўнік? У прадмове да слоўніка аб гэтай сваёй мэце ён гаворыць так: „Цяпер, калі адраджаецца сама народная маса, нельга павадыром гэтай масы паўтараць старыя памылкі. Адраджоная наша мова павінна стацца добрым правадніком культуры, а гэтакай яна зможа быць толькі тады, калі ў ёй будзе найменш чужых слоў, калі кожнае паняцьце будзе перакладзена згодна псыхіцы нашай мовы; калі формы слоў і будова сказаў будуць адпавядаць законам гармоніі, перказаным нам ад нашых прапрашчураў. Мова, гэта аблічча душы народу і гэтае аблічча народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысьцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым. Я, у гэтай малой сваёй працы, стараўся даць, паводле сіл сваіх, тлумачэньне чужаземных слоў на родныя паняцьці. Але мова наша занячышчалася сотнямі гадоў, дык і праца, па ачыстцы яе, ня можа быць зроблена высілкамі адзіночнага чалавека: над гэтым павінны доўгія дзесяцілецьці працаваць вучоныя аб'яднаньні і ўстановы"[1]).

Як відаць з паданага, Ластоўскі ставіў сваёй галоўнейшай задачай замяніць усе інтэрнацыянальныя словы штучна выдуманымі, або як ён кажа „самаістымі", заклікаючы для гэтага ўсе беларускія навуковыя ўстановы і маладых навуковых працаўнікоў. Трэба сказаць, што пастаўленая ім задача цалкам і поўнасьцю выконвалася нацыянал-дэмократамі ў БАН. У сваіх слоўніках і тэрмінолёгіях яны замянілі інтэрнацыянальныя агульна прынятыя, а таксама ўтвораныя новыя словы, на штучна выдуманыя незразумелыя ня толькі для проле-

[1]) Коўна. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. 1924 г. Прадмова, стар. IV і V.

тарыяту і шырокіх працоўных мас, але і для навуковых працаўнікоў і настаўніцтва.

У гэтай-жа прадмове Ластоўскі дае тлумачэньне, чаму ён назваў свой слоўнік „крыўскім". Ён кажа, што „Назваў я гэты слоўнік „Расійска-Крыўскім", бо, як гісторыя сьведчыць, нашае запраўднае племяннoе і нацыянальнае найменьне ёсьць Крывічы. Зьмены імён народаў цесна зьвязаны з гістарычнымі рэволюцыямі, перажыванымі народамі. У нашым гістарычным жыцьці на працягу тысячалецьця было некалькі такіх рэволюцый, якія складаюць пэрыоды нашай гісторыі. На зарані гістарычных часоў наш народ выступае, як зорганізаванае цэлае нацыянальнае і політычнае, пад найменьнем Крывічы"[1]). Далей, ён ужо бэхваліцца „Крывіяй" і заклікае да адбудовы вольнай Крывіі; ён кажа, што „Мы Крывічы, славянскае асобнае племя, са сваёй асобнай мовай, гісторыяй, народным характарам, звычаямі і абычаямі; племя, якое тысячу з лішнім лет засяляе сваю крывічанскую зямлю. Наша мінуўшчына, гэта блуканьнеся па раздарожах і муках, а мы цяпер ізноў пры крыніцах гаючае і жывучае вады, пры сваім народзе Крывічанскім, і, разам з ім, адбудовываемо вольную Крывію"![2]).

Так „будуючы" сваю „Крывію", ён і ў сваім слоўніку цэлы шэраг слоў тлумачыць словамі „Крывія", крывіч". Напрыклад, „родственик, родственница" ён перакладае „крывіч, крывічанка" і падае такія прыклады: „Жывучы ўсяк нажывешься і маскаля роднікам, крывічом назавешься", „не па крыві, а па духу ён мне крывіч".[3]) Нават не забываецца перакласьці на сваю мову і царскія вайсковыя чыны, так у яго „благородие" перакладаецца ў „крывічэснасьць"; „высокоблагородие" ў „крывічэсьлівасьць", бо трэба-ж было даць і „самаістую" назву каманднаму складу белабандыцкага войска БНР. Кіраўнік гэтага „войска", бандыт Булак-Булаховіч, родны і кроўны нацдэму Ластоўскаму. Ён „крывічэсьліва ствараў пагромы па гарадох і мястэчках Савецкай Беларусі, каб дагадзіць яго „крывічэсьлівасьці" Ластоўскаму, кіраўніку БНР і ідэёваму натхніцелю ўсіх гэтых бандыцкіх беларускіх бацькоў на чале з Булак-Булаховічэм і Езавітавым.

Апрача слова „крывіч" родным і любімым нацдэмамі словам было слова „волат". Паводле Ластоўскага, „волат" і „крывіч"— „прапрашчуры" крыўскага народу, а адгэтуль і мова. Так, у яго слоўніку словы „великан"—гэта „волат", „богатырь"—таксама „волат", „гигант" і гэта „волат". Вось гэтыя два словы і ёсьць уся „музыка" Ластоўскага, уся яго тэорыя і практыка, і калі першае слова „крывіч" толькі ўжываецца ў слоўніках, дык другое слова „волат" аж да гэтага часу ня зыходзіць са старонак ня толькі нашых часопісаў, але-ж нават і газэт. А трэба сказаць, што яно залезла туды ня так ужо даўно, гады са два таму назад з лёгкай рукі вучня Ластоўскага па этнографіі і па зрадзе рабочым і сялянам—Касьпяровіча.

Цэлы шэраг слоў з „крыўскага" слоўніку Ластоўскага цалкам перанесены ва ўсе слоўнікі і тэрмінолёгіі, якія выдаваліся Інстытутам мовы БАН. Напрыклад: „артель" — „сябрына", „пролетариат" — „безхатнік, бабыль"; „демагогия"—„народніцтва"; „демонстрация"—„спаказ"; „диалектика" — „пустаслоўства"; „еврей" — „жыд"; „кадет" — „падростак"; „коммунизм"—„грамадзейства"; „пропагандист"—„пашыршчык"; „профессиональный"—„умецкі"; „революция"—„пярозрынь"[1]) і г. д. і г. д.

[1]) Коўна. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік, 1924 г. Прадмова, стар. XI.
[2]) Тамсама, стар. 617.
[3]) Коўна. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік, 1924 г., стар. 145, 151, 168, 242, 272, 569, 574, 610.

Такім чынам, Ластоўскі з 1910 году, а за ім і Інстытут мовы БАН пад кіраўніцтвам Лёсіка, Чаржынскага, Байкова і Гуткоўскага імкнуліся ачысьціць беларускую мову ад так званай „чужаземшчы"—інтэрнацыяналяных і новых рэволюцыйных слоў.

Нацдэмаўская камісія, працуючы ва ўмовах Савецкай Беларусі, праводзіла ў савецкім друку думку беларускіх нацдэмаў ранейшых часоў,—загады Ластоўскіх, М. Багдановічаў і іншых, якія казалі, што: „Усё наша роднае, беларускае, марнуецца, нішчыцца, зьнікае, бо яго забіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе, пашыраецца, мае сабе пашану і павагу"[1]). І вось мы бачым, як старэнна над гэтым працуюць нацдэмы, каб не дапусьціць да ўжываньня новых рэволюцыйных агульна-вядомых слоў у беларускай мове, а стараюцца іх замяніць „сваімі" старасьвецкімі „самаістымі" і з пагардай гавораць, што хто захоча карыстацца з чужаземшчыны (чытай рэволюцыйнымі і інтэрнацыянальнымі), то няхай шукае сам, бо рэволюцыя для нацдэмакратаў, гэта „чужаземшчына", для іх патрэбна сваё „самаістае",—гэта „вольная Беларусь" Скірмунтаў, Радзівілаў, Пілсудзкіх, Лёсікаў Ластоўскіх.

Марксызм гаворыць, што кожная навуковая дысцыпліна зьяўляецца соцыяльна-клясавай зьявай. Дысцыпліна мовазнаўства таксама наскрозь клясавая. Аб клясавасьці мовы вельмі добра сьведчаць як контр-рэволюцыянэры з Саюзу Вызваленьня Украіны, якія галоўным сваім пунктам для шкодніцтва абралі украінскі інстытут мовы, таксама і мовазнаўчы фронт у БССР, на якім сядзелі акапаўшыяся галоўным чынам нацыянал-дэмократы.

Так Ластоўскі ў газэце „Вольная Беларусь" у 1918 годзе пісаў: „калі-б мы нашу родную, богам нам дадзеную і ўсьвячоную беларускую мову закінулі, забыліся, а прынялі чужую, тады ва ўсіх нас і сьлед загінуў-бы"[2]). Такім чынам „гэты вучоны хрысьціянін" Ластоўскі даказвае, што беларуская мова зьяўляецца дарам боскім. Нездарма-ж усе нацдэмы так імкнуліся адбудаваць тут, у БССР, паводле прыкладу Украіны „сваю" аўтокефальную царкву і нездарма мовазнаўца б. акадэмік нацдэм Лёсік так разносіць беларускіх папоў у сваім артыкуле „Некалькі слоў беларускім сьвяшчэньнікам". Ён там кажа, што „калі яны (сьвяшчэньнікі) ня могуць актыўна далучыцца да нацыянальнага руху, як гэта робіць большасьца украінскага духавенства... калі-ж гэта беларускае духавенства абразуміцца і ўспомніць слаўныя традыцыі брацтваў на Беларусі, што баранілі беларускую нацыянальнасьць ад заняпаду? Вось украінскае духавенства даўно ўжо пераклала і выдала евангеліе ў украінскай мове—а ў нас? У нас нічога ня чуваць"[3]). Вось, бачыце, у Ластоўскага, мова беларуская „богам даная", а Лёсік—раз „богам даная", дык ужо заве памоцнікаў бога на зямлі—папоў і сваіх нацдэмаў для ўтварэньня больш шырокай организацыі пад выглядам аўтокефальнай царквы, паводле прыкладу Украіны, да правядзеньня ў жыцьцё праз царкву сваёй контр-рэволюцыйнай нацдэмаўскай тэорыі і практыкі.

Вядомы вучоны-лінгвісты акадэмік Марр адносна мовы кажа так: „карэньні чалавечай мовы не на небе і ня ў пекле, але і не ў акружаючай прыродзе, а ў самым чалавеку, аднак, не індывідуальна-фізыч-

---

[1]) Творы М. Багдановіча. Менск, ІБК, 1928 г., т. II, Беларуская грамадзкасьць, стар. 150.

[2]) Газэта „Вольная Беларусь", 1918 г.

[3]) Я. Лёсік. Газ. „Беларусь" № 121 за 1920 г. Некалькі слоў беларускім сьвяшчэньнікам. Стар. 1.

ным яго быцьці, а ў колектыўным, у гаспадарчым згрупаваньні чалавечых мас, у працы над стварэньнем агульнай матар'яльнай базы [1]). Вядома, што ідэя нацыянал-дэмократаў зьяўлялася ператвараньнем нацыянальнага пытаньня ў галоўны стрыжань нацыянальнага прогрэсу і падменай клясавых конфліктаў нацыянальнымі. Ва ўсіх працах нацыянал-дэмократы прапаведалі так званыя тэорыі адраджэньня, тэорыі адвечнага панаваньня нацыянальнага руху і нацыянальных ідэй, тэорыю адсутнасьці эксплёататарскіх клясаў у беларускім народзе. Гэта тэорыя панавала і ў галіне мовазнаўства. Адносна гэтай тэорыі той-жа самы Марр гаворыць, што „падыход да тае ці іншае мовы, нацкультуры, як масавай роднай мовы ўсяго насельніцтва — не навуковы і не рэальны, нацыянальная мова па-за станавая, па-за саслоўная, па-за клясавая ёсьць покуль фікцыя [2]).

Аб адносінах нацыянал-дэмократаў да найноўшай марксыцкай. або блізкіх да яе тэорыі ў галіне мовазнаўства, у прыватнасьці да яфэтычнай тэорыі акадэміка Марра, паказалі спрэчкі пасьля пастаўленага ў Інстытуце мовы БАН дакладу Аптэкара „аб марксызьме і мовазнаўстве“. Выступаючы ў спрэчках па гэтым дакладзе, працаўнікі Інстытуту мовы, як напр., Бузук, Лёсік даводзілі, што ў яфэтычнай тэорыі каштоўнымі можна лічыць толькі вывады, але з другога боку, мэтод правядзеньня гэтай тэорыі нічога ня варты. А стары рэакцыянэр б. акадэмік Дурнаво дагавары ўся нават да таго, што тэорыю Марра называў ідыётызмам. У сваіх-жа працах беларускія нацыянал-дэмократы і вялікарасійскія шовіністы прытрымліваліся самых рэакцыйных ідэалістычных мэтодаў заходніх буржуазных вучоных. Так, пры ўкладаньні гістарычнага слоўніка беларускае мовы па прапанове Воўк-Левановіча быў прыняты метод правадыра суб'ектыўна-ідэалістычнай школы ў мовазнаўстве, проф. І. А. Бодуэн-дэ-Куртунэ. Орыентуючыся на заходняю эўропейскую культуру, і першую чаргу на фашыцкую польскую яны цаўкам прымалі сыстэму і мэтоды працы Кракаўскай, акадэміі навук.

Для нацдэмаў ня існуе пытаньне індустрыялізацыі краіны, для іх няма клясавай барацьбы пролетарыяту, рабочых і бядняцкага сялянства за замацаваньне заваёў Кастрычніка. Яны „сумленна“ працуюць на карысьць „адраджэньня“ Беларусі, Беларусі кулака, памешчыка і капіталістага.

У далейшай сваёй працы нацдэмамі была апрацавана вядомая „інструкцыя для зьбіраньня слоўніка-тэрміналёгічнага матар'ялу ў беларускай мове“. Каму гэту інструкцыю накіравалі мы наведаемся з наступных слоў А. Цьвікевіча. Ён кажа: інструкцыя была разаслана ня толькі настаўнікам, аграномам, дактарам і краязнаўчым таварыствам БССР, Гомельшчыны, Смаленшчыны і Нэвельшчыны, але таксама і за граніцу—„Навуковым Таварыствам у Вільні і Рызе [3]). Вось каго хацеў вербаваць і вербаваў у свае шэрагі беларускі нацыянал-дэмократызм, ён ня мог пасылаць сваёй інструкцыі ў вёску, на фабрыкі і заводы, у шэрагі чырвонаармейцаў, бо там ня мог праводзіць сваю адраджэнцкую політыку так сьмела, як гэта ён рабіў на розных настаўніцкіх курсах у першыя часы сваёй работы. І далей той-жа Цьвікевіч радуецца, што „актыўна адгукнулася на заклік інстытуту „Віленскае навуковае таварыства“, якое пачало пасылаць у камісію надзвычайна

[1]) Марр. Н. Я. Яфетическая теория. Аз. Гиз. Баку стар. 142.
[2]) Там сама.
[3]) А. Цьвікевіч. Інстытут Беларускай Культуры, Менск, стар. 35.

каштоўныя матар'ялы... Таксама чынны ўдзел у працы прымае „Беларускае навуковае таварыства ў Рызе“, якое зьбірае цікавы слоўны матар'ял“ [1]). Мы ведаем, што на гэты заклік-інструкцыю адгукнуліся ўсе нацыянал-дэмакраты, дзе-б яны толькі ні былі. Езавітаў таксама пачаў пісаць адозвы „бярэцеся ўсе за навукова-дасьледчую працу“ і „інструкцыю для зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове“ і друкаваць іх у Рызе. Ластоўскі заварушыўся ў Коўне, Цьвікевіч у Бэрліне і г. д. Усе яны падняли вушы і пачалі прыслухацца, як пойдзе іх справа тут, у БССР.

І справа пашла, нацдэмы расьпе       разаліся. Інбелкульт зрабіўся цэнтральным асяродкам беларускага адраджэньня. Да Менску пачалі цягнуцца ўсе адраджэнцкія думкі. Гэта яшчэ больш замацавала за Інбелкультам славу адраджэнцкага гнязда пасьля дакладу апошняга на III-й сэсіі ЦВК БССР. „Заняты вялізнай бягучай працай, кажа Цьвікевіч, ІБК няўхільна спыняўся над пытаньнямі ўласнай структуры і дапасаваньнем сваёй дзейнасьці да патрэб беларускага адраджэньня“. Па гэтым пытаньні ў справаздачы ІБК—III сэсіі ЦВК БССР мы знаходзім рад цікавых думак і разважаньняў. „Навука можа быць нацыянальнай і інтэрнацыянальнай. У першым выпадку яна носіць мясцовы характар, ці інакш кажучы, краязнаўчы ўхіл, у другім—сусьветны... ІБК мусіць у першую чаргу займацца тымі дысцыплінамі і ў тым кірунку, каб яны беспасрэдна былі зьвязаны з Беларусьсю і яе вывучэньнем... За гэтым у ім павінна разьвівацца навука ў інтэрнацыянальным маштабе [2]). Гэтай працай і займаліся нацдэмы ўвесь час і яшчэ ўзмацнілі яе пасьля III сэсіі, на якой атрымалі сабе поўнае падтрыманьне. Так, тагочасны старшыня СНК Я. Адамовіч у сваёй прамове казаў: „рэволюцыя Кастрычніка ўзлажыла на ІБК задачу аб'яднаньня ўсіх груп беларускага грамадзтва дзеля таго, каб намеціць шляхі разьвіцьця беларускай культуры, якая жыве і жыла ў шырокіх колах сялянства“ [3]). І нарэшце, газэта „Савецкая Беларусь“ пісала: „Беларускі народ на працягу вякоў ня меў ды і ня мог мець вышэйшай лябараторыі навуковай думкі, і зусім зразумела, што цяпер, калі беларускі народ мае сваю дзяржаву і выходзіць, як палітычная і культурная сіла на міжнародны форум, мы павінны мець свой нацыянальны, адменны і да таго высока аўторытэтны навукова-культурны асяродак“ [4]).

Атрымаўшы такія завярэньні і такую перамогу, нездарма А. Цьвікевіч, а разам з ім і ўсе нацдэмократы казалі: „прыведзеныя сьведчаньні з пэўнасьцю гавораць нам, што дні 4-5 лістапада 1924 г. былі для Інбелкульту, а з ім і для беларускага культурнага адраджэньня, выключнымі днямі, якія пакінулі па сабе сьлед на ўвесь далейшы час“ [5]). Нацдэмократы адраджэнцы, атрымаўшы такую перамогу тут, у БССР, і па-за яе межамі пачалі цягнуцца ў Інбелкульт адусюль. Тут зьявіліся ў дапамогу Некрашэвічам, Лёсікам—Смолічы, Цьвікевічы, Ластоўскія і іншыя і пачалі больш сьмела праводзіць сваю зрадніцкую работу, дзякуючы сьлепаце і опортунізму некаторых тагочасных кіраўнікоў Наркамасьветы і Інбелкульту, тыя „незамянімыя“, „лепшыя людзі“ і пачалі „працаваць“.

---

[1]) А. Цьвікевіч. Інстытут Беларускай Культуры. Менск, БДзВ. 1926, стар. 35.
[2]) Тамсама, стар. 12.
[3]) А. Цьвікевіч. Інстытут Беларускай Культуры. Менск, БДзВ. 1926 г., стар. 14.
[4]) Тамсама, стар. 15.
[5]) Тамсама, стар. 18.

Цяцер спынімся на працы камісіі па ўкладаньні гістарычнага слоўніка беларускай мовы.

Камісія па складаньні гістарычнага слоўніка беларускай мовы старалася давесьці, што гэты слоўнік (цалкам складзены на аснове сярэднявяковых пісаньняў розных манахаў як, напр., Скарына, Цяпінскі і інш. і на аснове розных сярэднявяковых эвангеляў) вельмі патрэбны для „ўзмацненьня ўсяго культурнага будаўніцтва“. Вось як гаворыць аб значэньні гэтага слоўніка Воўк-Левановіч у сваім артыкуле „Аб прынцыпах і мэтодах укладаньня слоўніка беларускай мовы“: „Разам з тым гістарычны слоўнік дасьць даволі ясны малюнак тых культурных уплываў, якія перажывала беларуская мова з боку іншых моваў, чаму ён зьявіцца аднэй з вельмі паказальных старонак гісторыі *беларускае культуры наогул...* Апроч таго, гістарычны слоўнік беларускае мовы зьявіцца *настольнай справачнай кнігай*“ [1]).

Пасьля заслуханьня дакладу Воўка-Левановіча на гэту тэму аб напрамку і парадку ўкладаньня гэтага слоўніка і абмену думкамі, камісія гісторыі беларускае мовы ў складзе старшыні яе Дурнаво М. М., членаў Некрашэвіча С., Даўгялы, Лёсіка і сакратара Воўка-Левановіча, вынесла такую пастанову адносна ўкладаньня гістарычнага слоўніка: „у першую чаргу прыступіць да выкарыстаньня выдатнейшых помнікаў старадаўняй беларускай мовы, як літоўскі статут 1588 г., эвангельле Цяпінскага 1570—80 г., Еўеўскае эвангельле 1616 году (учительское евангелие еп. Каллиста“), беларускія летапісі, зьмешчаныя ў XVII томе „полного собрания русских летописей“, граматы XIII-XIV стагодзьдзяў, дакумэнты літоўскай мэтрыкі і іншыя“ [2]). Вывучэньне такіх „дасканалых“ крыніц для ўкладаньня гістарычнага слоўніка вядома патрабавала і асобнага мэтоду працы камісіі, і вось камісія прымае мэтод працы, прыняты ў кракаўскай фашысцкай польскай акадэміі, бо іншага мэтоду яны знайсьці не маглі, а працаваць, бачыце, без дапамогі фашысцкіх вучоных гэтыя „вучоныя“ мовазнаўцы не маглі. Прыняўшы гэта за аснову ў сваёй рабоце, яны разьмеркавалі і абавязкі паміж членамі камісіі. Цікава, за што-ж яны ўзяліся, а ўзяліся яны ў першую чаргу за царкоўшчыну. Так акадэмік Дурнаво заняўся вывучэньнем рукапісу XIII стагодзьдзя вядомага пад назваю „Яраслаўскі маліцьвенік“. Працуючы ў БАН як савецкі акадэмік і вядомы мовазнаўца, гэты Дурнаво свае працы галоўным чынам друкуе ў замежных фашысцкіх і контр-рэволюцыйных выданьнях як „Slawia“, „Zeitschrift für slavische Philologie“ і іншых, у якіх прводзіць сваю чорнасоценную думку аб непадзельнасьці рускае мовы, як „адзінай недзялімай Расіі“.

Адначасна з Дурнаво, які занімаўся вывучэньнем „Яраслаўскага маліцьвеніка“, Некрашэвіч і Лёсік (самыя „мудрыя“ беларускія „спэцы мовазнаўцы“) займаліся вывучэньнем розных эвангеляў і складаньнем на іх аснове нікому непатрэбных сярэднявяковых правапісаў і граматык, якімі затуманьвалі мазгі вучнёўскай моладзі і стваралі няпрыхільныя адносіны да беларускае мовы. Так, Лёсік для складаньня граматыкі разьбірае манастырскія дакумэнты з XVI стагодзьдзя князя Саламарэцкага. У яго разгараюцца вочы пры разглядзе гэтага „тэстамэнту“, знойдзенага ім як ён кажа, „у часы завірухі ў 1919 г.—перад наступленьнем палякаў“ [1]) у манастыры. Аб гэтых дакумэнтах, якія ён

---

[1]) Бюлетэнь ІБК, № 2, стар. 47 (падкрэсьлена намі—Б. Ш.).

[2]) Воўк-Левановіч. Аб прынцыпах і мэтодах укладаньня гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Працы клясы філёлёгіі, т. II, стар. 1.

[3]) Я. Лёсік. Графіка, правапіс і мова. Працы клясы філёлёгіі, т. II, стар. 20.

знайшоў, Лёсік кажа: „што напісаны яны правільнаю і чыстаю старабеларускаю літаратурнаю моваю“[1]) і да таго захапіўся, што прыводзіць фотоздымкі з „тэстамэнту“ і з такім замілаваньнем апісвае ўсе падрабязнасьці як, напр., калі ён (тэстамэнт) напісаны, у якіх умовах, якія пячаткі на „тэстамэнце“ прыкладаў князь і г. д. Вось якія „каштоўнасьці“ знайшоў Лёсік і які „вялікі“ ўклад унёс ён у справу культурнага будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры.

Трэба яшчэ адзначыць, як Інстытут мовазнаўства Інбелкульту і БАН выконваў адну з важнейшых задач, даручаную яму партыяй і ўрадам,—гэта задачу па складаньні слоўніка з ленінскіх твораў, які так патрэбны для перакладу твораў У. І. Леніна на беларускую мову і наогул у справе правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі. Цікава адзначыць, як да гэтай справы аднесьліся „вялікія беларускія мовазнаўцы“ Лёсік, Некрашэвіч, Дурнаво і іншыя. У справаздачы аб рабоце Інстытуту мовазнаўства яны паміж іншым гаворaць і аб гэтым заданьні, але-ж як яны гавораць? Падаўшы цэлы шэраг довадаў аб канечнай патрэбе выпісваньня на карткі такіх „твораў“ як розныя эвангельлі Каліста, Цяпінскага і мэтрыкі, яны даюць у справаздачы аб вышэйпаданай „высоканавуковай працы“ ўвагу, якую набіраюць пэтытам, і кажуць: „што датычыцца тэрмінаў, слоў і зваротаў з ленінскіх твораў, дык гэта не тэрмінолёгія, а толькі матар'ялы для слоўніка ленінскіх прац. Сюды ўваводзяць ня толькі навуковыя тэрміны і звароты з галіны грамадазнаўчых навук, але (нават у большай меры) і чыста жыцьцёвыя словы, якія сустракаюцца ў творах У. І. Леніна. Часткова яны могуць быць выкарыстаны інстытутам пры ўкладаньні некаторых тэрмінолёгій. Там сустракаюцца тэрміны філёзофскія, соцыялёгічныя, політыка-экономічныя і іншыя“ [2]). Тут мы яскрава бачым контр-рэволюцыйную здрадніцкую работу беларускіх нацдэмократаў разам з вялікадзяржаўнымі шовіністамі, якія лічаць, што творы Леніна, бачыце, не падыходзяць да тэрмінолёгіі, яны ненавуковыя, у творах Леніна „чыста жыцьцёвыя словы“ і яны толькі могуць быць „часткова“ выкарыстаны пры ўкладаньні тэрмінолёгій. А вось, як мы адзначылі вышэй, творы Калістаў, Цяпінскіх, Скарыны больш навуковыя, па думцы здраднікаў нацдэмаў, чым творы Леніна.

Для распрацоўкі яны вызначылі ў першаю чаргу такія „выдатныя помнікі“ як„ чуда пресвятой богородицы межи Субеллями, Беседы сьв. Макарыя XVII ст., казаньні на беларускай мова XVII ст., катэхізыс Сымона Буднага, абарона берасьцейскага сабору Іпація Поцея“[3]), дзе-ж тут займацца з творамі Леніна, калі ў першую чаргу пастаўлена проблема вывучэньня царкоўшчыны, „самаістасьці“, „чыстаты“ беларускае мовы. Як для нацдэмаў, так і для вялікадзяржаўных шовіністаў ня існуе пролетарскай рэволюцыі, ня існуе дыктатуры пролетарыяту. Яны ненавідзяць яе ўсёй сваёй душою і таму яны сьвядома саботавлі ўкладаньне слоўнікаў з твораў Леніна.

Гэта яшчэ лепей падкрэсліваюць лічбы, якія гавораць, што да 1928 г. у камісію паступіла ўжо гатовых слоў, запісаных на картках для слоўніка, выпісаных з еп. Каліста, літоўскіх і беларускіх летапісаў 24,190 (дваццаць чатыры тысячы сто дзевяцьдзесят) тэрмінаў першай ступені, тым часам як тэрмінаў з ленінскіх твораў прынята толькі 57, ці 0, 22 агульнай лічбы прынятых інстытутам тэрмінаў. Гэта за час працы

[1]) Тамсама, стар. 58.
[2]) Бюлетэнь нбелкульту, № 2, стар. 44.
[3]) В.-Левановіч. Аб прынцыпах і мэтодах укладаньня гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Працы клясы філёлёгіі, т. II, стар. 10.

інстытуту і раней тэрмінолёгічнай камісіі на працягу амаль сямі год. Сем год сваёй працы контр-рэволюцыянэры з мовазнаўства ўпарта змагаліся ў савецкіх умовах пры дыктатуры пролетарыяту супроць правядзеньня гэтай дыктатуры ў жыцьцё, супроць правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі, супроць беларускай культуры соцыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме.

Цяпер некалькі слоў аб рабоце другой камісіі па мовазнаўству, гэта „камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы", дырэктарам якой зьяўляўся вядомы рэакцыянэр Б. Эпімах-Шыпіла, а вучоным спэцам быў М. Байкоў. Гэта камісія слоўніка жывой беларускай мовы зьбірала словы, пачынаючы з канца XVIII ст. да апошніх часоў. Да 1928 г. было сабрана ўжо да 400.000 картак. Камісія ў першаю чаргу апрацавала творы—слоўнік да выдрукаванага зборніку беларускага фольклёру Сержпутоўскага, паасобны слоўнік да зборнікаў Federowsk'ага ў выданьні кракаўскай акадэміі навук і выбраныя словы з прац Шэйна, Раманава, Нікіфароўскага і іншых. Калі паглядзець як-жа камісія зьбірала жывыя словы-гаворкі, то пабачым, што складзеная Касьпяровічам і зацьверджаная камісіяй жывой беларускай мовы інструкцыя-програма „як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свойго раёну" ў п. 9 гаворыць так:„ словы трэба запісваць ад усіх насельнікаў без выключэньня і ўсе, якія можна пачуць, апрача відавочных рускіх, польскіх, жыдоўскіх і г. д. ...такіх об'ектаў сталае сваёй працы трэба шукаць пераважна сярод старых жанчын, дзяцей і старых мужчын"[1]). Далей інструкцыя падрабязна пералічае, якія словы жывой мовы асабліва трэба запісваць, гэта „дылда",„ мудазвон", „махір", далей „цыган, маскаль, лях, мазур, пінчук, віленчук... сьвятаў, рэчаў, забабонаў і культу... назвы рэчаў, якія ўжываюцца пры вясельлі... пры радзінах і хрэсьбінах... сваяцтва, сяброўства... грамадзянскіх станаў (селянін, пан і г. д.). Рознага роду лаянкі—як паасобныя словы, так і звароты[2]). Затое ва ўсёй програме абсолютна нічога не гаворыцца і ня раіцца праводзіць ніякіх запісаў ад рабочых, моладзі, ад батракоў, аб фабрыках, заводах, комунах, колгасах. Усяго гэтага нацыянал-дэмократы баяцца, лічаць гэта „чужым", не „самаістым", а дзеля таго і ня трэба нічога аб гэтым запісваць, бо гэта, на думку нацдэмаў, не беларускае, а пролетарскае, супроць чаго яны ўвесь час змагаліся і змагаюцца.

Навошта контр-рэволюцыянэрам Ластоўскім, Лёсікам і К-о патрэбны былі гэтыя эвангельскія слоўнікі, гістарычныя граматы і правапісы? Чаму яны так старанна ідэалізавалі старасьветчыну, старую мову, створаную манахамі, папамі і пануючымі клясамі, мову абсолютна незразумелую для рабочых і сялян, мову, якая ўжо ніколі не ўваскрэсьне, як не ўваскрэснуць яе творцы манахі Скарыны, Цяпінскія. Ім гэта патрэбна было, каб даводзіць сваю тэорыю „самабытнасьці беларускай культуры і мовы". Ім трэ' было зацямняць вочы пролетарыяту, даводзячы, што наша „соцыялістычная па зьместу і нацыянальная па форме" беларускя культура і беларуская мова, пачалі разьвівацца, біруць свой пачатак не ад Кастрычніка, а ад розных сярэднявяковых папоўстваваўшых дзеячоў.

Не дарма-ж у прадмове да выданага Інбелкультам Скарынінскага зборніку да 400-леццья друку, так проста і гаворыцца, што: „Францішак Скарына паклаў сваёй працай пачатак літаратурнай беларускай

[1]) „Наш Край", 1928 г., № 1, стар. 38.
[2]) Тамсама, стар. 40-41.

мове і беларускай нацыянальнай літаратуры... Працу Скарыны пераймальна вялі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, перакладчык эвангелія на беларускую мову... Нацыянальная і культурная дзейнасьць Скарыны і яго пераймальнікаў ёсьць яскравы паказьнік таго высокага культурнага роўню, які займала Беларусь у XУI сталецьці. Інбелкульт... маючы на ўвазе тую вялізную ролю, якую адыграла дзейнасьць Францішка Скарыны ў справе нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі, ухваліў адзначыць гэты вялікі момант у гісторыі беларускай культуры выданьнем прысьвечанага часом Скарыны зборніку"[1]). Увесь гэты зборнік (які мае да 25 друкаваных аркушаў) прысьвечаны выключна выхваленьню самабытнасьці Беларусі. У гэтым зборніку, прысьвечаным для популярызацыі адраджэнцтва, знайшлі месца для сваіх артыкулаў як беларускія контр-рэволюцыйныя нацыянал-дэмократы, так і вялікадзяржаўныя шовіністы і буржуазныя гісторыкі. Тут яны ўсе пяюць аб адным, гэта аб тым, каб поўнасьцю выканаць заказ рэдакцыйнай камісіі зборніку ў складзе Пічэты, Дружчыца, Дылы Я., Жылуновіча, Лёсіка Я. і Шчакаціхіна, якая ставіла сабе мэтай: „паказаць, наколькі глыбока ўвайшла ў беларускае культурнае жыцьцё скарынінскія традыцыя, а таксама выявіць, у якім стане знаходзіцца скарынінская проблема ў сучаснай гісторыографіі"[2]). Вялікадзяржаўны шовініст Воўк-Левановіч, так характарызуе скарынінскую мову. Ён кажа, што „Ня гледзячы, аднак, на тое, што мову выданьняў Скарыны мы павіны прызнаць у аснове сваёй царкоўна-славянскай, беларускі элемэнт у ёй настолькі значны і яскравы, што выданьне Скарыны ёсьць гістарычны помнік, вывучыўшы які можна мець поўнае ўяўленьне і аб беларускай жывой мове... спраядлівей: па выданьнях Скарыны можна ўявіць сабе, у якой ступені беларуская мова эпохі Скарыны набліжалася ў сваіх гуках і формах да таго стану, у якім мы ведаем яе ў нашыя дні"[3]). Ва ўсёй сваёй пісаніне як вялікадзяржаўныя шовіністы, так і беларускія контр-рэволюцыянэры нацдэмы выводзяць, што жывая беларуская мова нашай эпохі гэта тая-ж самая мова сярэднявяковых эвангеляў, якую ўтварылі Скарыны, Будныя і Цяпінскія. Яны зусім ня хочуць разумець, што старасьвецкая мова была ня мовай працоўных мас, а мовай эксплёататарскіх кляс; яны наўмысьня забываюцца, што: „права беларускіх працоўных на беларускую мову выцякае зусім не з таго, ці жыў і працаваў на беларускай мове сярэднявяковы манах Скарына, але ад рэволюцыйнага роўнапраўя ўсіх народаў, нават самых адсталых, ад права кожнага чалавека карыстацца культурнымі здабыткамі на роднай мове. Дзеля таго пролетарская дзяржава ня можа нікога з сярэднявяковых манахаў — прадстаўнікоў панаваўшых кляс — зрабіць шэфам новай нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу культуры"[1]).

Тут варта яшчэ падкрэсьліць вельмі характэрную рысу нацдэмаўскага мэтоду, якім яны кіраваліся як пры зьбіраньні слоў для раённых і акадэмічнага слоўнікаў, так і ў сваіх працах паназіраньню і зьбіраньню беларускіх гаворак паасобных раёнаў і мясцовасьцяй БССР і РСФСР. Мова і гаворкі рабочых абсолютна ня зьбіраліся і не дасьледваліся. Беларускія нацыянал-дэмократы хацелі пролетарыят БССР толькі вучыць беларускай старасьвецкай мове, а ня вучыцца ад яго і яго мове. Зьбіраючы і „дасьледуючы" выключна толькі сялян-

[1]) 400-лецьце беларускага друку, Менск, ІБК, 1926, уступ. стар. I.
[2]) 400-лецьце беларускага друку, Менск, ІБК, 1926, уступ. стар. 2.
[3]) 400-лецьце беларускага друку, Менск, ІБК, 1926, В.-Левановіч. Мова выданьняў Францішка Скарыны, стар. 270.
[4]) В. Кнорын. За культурную рэволюцыю. Менск, 1928 г., стар. 80.

скія гаворкі, нацдэмократы заўсёды давалі перавагу гаворкам кулацкім і асабліва шляхецкім. Некрашэвіч і Лёсік у сваіх працах падкрэсьлівалі, што шляхецкія гаворкі зьяўляюцца найбольш „чыстымі беларускімі гаворкамі". Вядома, што ні ў прыродзе ні ў грамадзтве чыстых зьяў ня бывае, як ня бывае і чыстай і адзінай для ўсіх людзей і часоў мовы. Мова, як і ўсё на сьвеце, зьмяняецца ў часе. Не на тэй самай мове, скажам, гаварылі людзі перад Кастрычнікам і цяпер, праз 13 год пасьля яго. Праз 10-20 год мова яшчэ зьменіцца. Нацдэмократам была чужой гэта дынаміка мовы, яны не хацелі вывучаць мовы і процэсу яе разьвіцьця, а якраз імкнуліся і ўвесь час лывучалі „старую" мову, мову дагістарычную. Для гэтай мэты яны ўвесь час вышуквалі сабе такія „об'екты для вывучаньня мовы, якія найбольш захавалі ў сабе архаізмаў. Дзеля таго такімі об'ектамі яны абіралі няпісьменных старых, пераважна жанчын, мова якіх і зьяўляецца часта больш консэрватыўнай, больш захаваўшай „старасьветчыны і самабытнасьці". Гэта нацдэмократы так старанна ўсюды і ва ўсім хацелі бачыць і знаходзіць. Яны сьвядома сваёй старасьветчынай адгараджваліся ад усяго таго, што прынесла з сабою рэволюцыя, што дала працоўным дыктатура пролетарыяту.

Нацыянал-дэмократам мала было толькі выхалашчваньня з беларускай мовы і літаратуры ўсяго пролетарскага і замены яго буржуазным, папоўскім. Для іх мала было прыняцьця мэтодолёгіі з кракаўскай акадэміі навук і пярэклічак з рознымі фашыстамі Заходняй Беларусі, як, напр., Станкевічы, Луцкевічы, Астроўскія, і Латвіі—Езавітавым. Ім трэ' было буржуазны нацыянал-дэмократычны зьмест сваіх „навуковых" прац перадаваць у больш блізкай „заходня-эўропейскай" фашысцкай форме. Для гэтага яны і паднялі пытаньне аб замене кірыліцы лацінікай. Гэта пытаньне таксама падняў і абараняў самы заядлы вораг „маскоўшчыны" пан Ластоўскі.

Яшчэ ў 1925 годзе, на старонках контр-рэволюцыйнага часопісу „Крывіч", падымаецца пытаньне аб патрэбе навуковага зьезду, які-б заняўся высьвятленьнем пытаньня мовазнаўства. Ластоўскі пра гэта ў сваім „Крывічы" кажа, што: „наша цяперашняя адраджэнчая інтэлігенцыя, якая, уступіўшы на шлях адраджэньня крыўскай пісьменнасьці пры ўсёй сваёй добрай волі, закаханьні і прыхільнасьці да роднай мовы, не змагла адразу вызваліцца ад схолястычнага кірунку мысьлі, выхаванай на пакланеньні перад літарай чужой кніжнай вучобы. Дзеля гэтага няма нічога дзіўнага, калі пісьменьнікі новага пэрыоду нашай літаратуры распачалі адраджэньне крыўскай пісьменнасьці з запазычаным лексыконам, формамі, моваскладам і літарамі. Нікому ня прышло ў галаву,—дадае ён,—што *маскоўская абэцэда, палажаная ў аснову нашай граматыкі*, узята з мёртвай славянскай мовы і што літары яе ня могуць поўнасьцю перадаць гукаў і фонэтычных асаблівасьцяй жывой і багатай формамі крыўскай народнай мовы"[1]). Далей, прызываючы да абгаварэньня гэтага „насьпеўшага пытаньня", Ластоўскі і зазначае, хто павінен заняцца гэтым пытаньнем і вырашыць яго так, як гэта хочацца памочніку польскага фашызму Ластоўскаму. Ён кажа, што: „падаючы сваю стацьцю для развагі працаўнікоў крыўскага адраджэньня, ведаю, якія вялікія труднасьці зьвязаны з рэформай абэцэды і правапісу. Гэту рэформу могуць рабіць толькі высокааўторытэтныя вучоныя ўстановы"[2]). Такой „высока-

[1]) „Крывіч", Коўна, 1925, № 10(2). Насьпеўшае пытаньне, стар. 74.
[2]) „Крывіч", Коўна, 1925, № 10(2). Насьпеўшае пытаньне, стар. 78.

аўторытэтнай вучонай“ установай вядома зьяўлялася былая тэрмінолёгічная камісія, а потым Інбелкульт, гэты асяродак нацыянал-дэмократызму. Мы думаем, што магчыма пад пэўным уплывам, а то і па самой ініцыятыве пана Ластоўскага, так яскрава выказанай ім ў сваім „Крывічы“, нацдэмы, знаходзячыся на „навуковай“ працы ў БССР, пры дапамозе Баліцкага, Ігнатоўскага і інш., утварылі ў 1926 годзе пры Інбелкульце „конфэрэнцыю па рэформе правапісу“, якая фактычна зьяўлялася адкрытым зьездам, аглядам нацыянал-дэмократычных контррэволюцыйных сіл як тых, што знаходзіліся тут, у БССР, так і тых, хто ў тыя часы быў яшчэ па-за межамі Савецкай Беларусі, напр., як Ластоўскі, Езавітаў і інш. На гэтай конфэрэнцыі горача дыскутавалася пытаньне, паднятае па ініцыятыве Ластоўскага, аб замене кірыліцы „маскоўскай абэцэды“ лацінікай. Заменай кірыліцы на лацініку Ластоўскі хацеў і больш хутчэй зблізіцца з польскім і заходня-беларускім фашызмам, каб хутчэй і лепш, пры дапамозе польскага фашызму праводзіць у жыцьцё пляны інтэрвэнцыі супроць БССР і СССР.

Для падняцьця беларускага патрыотызму, для распальваньня нянавісьці да ўсяго небеларускага, нянавісьці да іншых нацыянальнасьцяй Ластоўскі ў сваім „Крывічы“ друкуе і популярызуе патрыотычныя малітвы на беларускай мове. Сярод гэтых малітваў ёсьць і „ойча наш“, у якім, паміж іншым, гаворыцца: „адпусьці грахі нашым продкам, каторыя ня ўмелі абараніць сваёй і сваяго патомства свабоды“. „Вітай крывічанская зямелька... благаславенна ты паміж усімі краінамі сьвету і благаславен плод лона тваяго, крывіч“. Далей, так званае, „верую“, якое пачынаецца: „верую ў бацькаўшчыну нашу крывію“ і нарэшце „дзесяць загадаў народных“, якія мы лічым патрэбным тут падаць як програму ўсяго контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, падзеленую на дзесяць параграфаў. Так, першы параграф гаворыць: „Не спадзявайся, што хто-колечы з чужакоў высвабадзіць мяне з няволі. 2. Ніякага самаўраду не называй яшчэ незалежнасьцю. 3. Памятай выслаўляць дзень, каторы дасьць нам поўнае вызваленьне. 4. Паважай тых, каторыя змагаюцца за маю лепшую будучыну. 5. Не забывай на славу тых, каторыя працуюць для мяне. 6. Ня злучай сябе зьвязкамі жанімства з чужынцамі. 7. Ня вер чужынцам. 8. Ня траць веры ў народную справу. 9. Не перасаджай чужых культур на грунт свой народны. 10. Ні мовы чужой, ні поэзіі, ні грамадзкіх форм, ні звычаяў, ні абычаяў, нічога, што ня вырасла з народнага духу, акром тэхнічнай веды, якая зьяўляецца выразам агульна-чалавецкага генія. Любі народ і край свой крывічанскі ўсім сэрцам, усёй душой, усімі мысьлямі, думкамі і подумкамі сваімі!“[1])

Так, разам з папоўшчынай зьвязваецца цэлая програма з 10 пунктаў, програма контр-рэволюцыйнай дзейнасьці беларускіх нацыянал дэмократаў адраджэнцаў. „Ні мовы чужой, ні поэзіі, ні грамадзкіх форм“ не павінна быць, паводле програмы нацдэмаў, у Савецкай Беларусі, таму яны так старанна і выконвалі гэтыя запаведзі, калі працавалі ў БАН, таму яны і давалі такія інструкцыі па зьбіраньні слоўнага матар‘ялу ад няпісьменных, ад кулакоў, ад шляхты і таму яны вывучалі розных „Касьянаў Ерамітаў“ і „Саламарэцкіх“, каб гэта ўсё разам складзенае адбівала старасьвецкую, самаістую Беларусь, Беларусь памешчыкаў і кулакоў, а не Беларусь рабочых і сялян, якія пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ствараюць новую рэволюцыйную

[1]) „Крывіч“, Коўна, 1926 № 1 (11) Кнігасьпіс, стар. 118.

мову, новую ленінскую соцыялістычную культуру нацыянальную па форме і пролетарскую па зьместу.

На падставе гэтага кароткага нарысу аб контр-рэволюцыйнай дзейнасьці нацыянал-дэмократаў у галіне мовазнаўства, можна зрабіць такі вывад з усёй іх „працы“: контр-рэволюцыянэры Ластоўскі, Лёсік, Некрашэвіч, Гарэцкі, Касьпяровіч і іншыя пасьля таго, як ім не ўдалося ў пэрыод 1917—1920 г. г., пры дапамозе розных інтэрвэнтаў, окупантаў і белабандытаў, як: Вільгельм, Пілсудзкі, Бартэлё, Булак-Булаховіч, Савінкаў і іншыя, зьнішчыць дыктатуру пролетарыяту ў БССР і адбудаваць сваю „незалежную нацыянал-дэмократычную Беларусь“, пачалі весьці падрыхтоўчую работу да новай інтэрвэнцыі супроць СССР, а разам і супроць БССР, каб затапіць краіну Саветаў у крыві рабочых і сялян і аддаць яе ва ўладу памешчыка і кулака. Цытадэльлю для концэнтрацыі сваіх контр-рэволюцыйных сіл яны абралі раней тэрмінолёгічную камісію НКА, Інбелкульт і потым БАН, дзе ўвесь час праводзілі сваю здрадніцкую работу ў напрамку выхаваньня мас і, у першую чаргу, настаўніцтва, вучнёўскай і студэнцкай моладзі, у шовіністычным духу, у духу распальваньня нянавісьці паміж рознымі нацыянальнасьцямі БССР.

Пры дапамозе былога нацыянал-дэмократычнага і опортуністычнага кіраўніцтва НКА, БДзУ і БАН нацдэмократы захапілі монополію ў свае рукі на пісаньне і друкаваньне падручнікаў на беларускай мове, на ўкладаньне і выпуск слоўнікаў і тэрмінолёгій. Свае „навуковыя досьледы“, падручнікі, слоўнікі і тэрмінолёгіі нацдэмократы „тварылі“ на аснове рознай старасьветчыны, на аснове манашаскай сярэднявяковай пісаніны.

Агульна прызнаныя міжнародныя тэрміны і словы і асабліва інтэрнацыянальныя і створаныя Кастрычнікавай рэволюцыяй і ў працэсе соцыялістычнага будаўніцтва краіны Саветаў тэрміны і словы нацдэмократы або зусім адкідалі як „маскоўшчыну і чужаземшчыну“, або пры перакладзе на беларускую мову выхалашчвалі з іх клясавы, рэволюцыйны зьмест. Слова „пролетарыят“, напрыклад, пераводзілі— „убоства“, „бабыль, бясхатнік“, слова „комунізм“ — „грамадзейства“ і г. д., або замянялі іх незразумелымі новатворамі і полёнізмамі. У аснову беларускай мовы нацыянал-дэмократы клалі карэньні менш пашыраных дыялектаў заходніх частак Беларусі, ігноруючы дыялекты ўсходніх частак БССР. Галоўным чынам ігноравалася мова рабочых, батракоў і беднаты, а мова кулацтва і шляхты лічылася за „чысьцейшую беларускую мову“ і найбольш старанна і дасканала яна вывучалася. „Ачышчаючы“ беларускую мову ад усяго пролетарскага, нацдэмократы ўводзілі старыя розныя буржуазныя і папоўскія тэрміны і словы. Яны ўвесь час сваёй дзейнасьці імкнуліся зрабіць беларускую мову „самабытнай“, адасобненай ня толькі па зьместу, але і па форме (увядзеньне лацінікі) ад іншых моваў Савецкага Саюзу. Гэтым самым нацдэмократы імкнуліся адчужыць працоўныя масы БССР ад працоўных мас брацкіх Саюзных Рэспублік Савецкага Саюзу.

Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, нявідана-шпаркія тэмпы індустрыялізацыі, перабудова дробнай сялянскай гаспадаркі ў буйныя колектыўныя соцыялістычныя гаспадаркі, ліквідацыя кулацтва на базе суцэльнай колектывізацыі, наступленьне па ўсяму фронту на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, правядзеньне правільнай ленінскай нацыянальнай політыкі, сакрушальная барацьба пролетарыяту супроць вялікадзяржаўнага шовінізму і контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму—усё гэта, зразумела, выклікае ўзмацненьне кля-

савай актыўнасьці з боку ідэолёгаў беларускай буржуазіі і кулацтва, агентаў польскага фашызму — беларускіх нацдэмократаў, узмацняючы іх шалёныя напоры супроць пролетарскай дыктатуры. Беларускія нацыянал-дэмократы ідуць пры гэтым адным фронтам з усімі ворагамі пролетарыяту, з вялікадзяржаўнымі і іншымі шовіністамі, з шкоднікамі рамзінаўцамі і громанаўцамі.

Бязьлітасная барацьба з контр-рэволюцыйным нацдэмократызмам, ускрыцьцё іх шкодніцкай тэорыі і практыкі ў розных галінах нашага культурнага будаўніцтва, будзе біць па адзіным фронце ўсіх агентаў імпэрыялізму.

Пролетарыят і працоўныя масы БССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры брацкай дапамозе працоўных усіх рэспублік нашага Саюзу пераможна дабудоўваюць фундамант соцыялізму, пераможна — наперакор усім шкоднікам і ўхілістам ад генэральнай лініі партыі—будуюць культуру нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьместу. Будуюць і, ня гледзячы ні на якія цяжкасьці, пабудуюць соцыялізм.

---

# ХРОНІКА.

## Спроба барацьбы з грызунамі.

*(Зоолёгічная Ляборатория Зооінстытуту ў Горках).*

Згодна з атрыманым мною заданьнем ад фэрмы С.-г. акадэміі правесьці барацьбу з грызунамі, якія засяляюць збожжавыя і фуражныя склады, а таксама засеўную плошчу каля фэрмы, мною былі праведзены наступныя мерапрыемствы.

Разам са студэнтамі першага курсу Зооінстытуту, якія вывучаюць курс біолёгіі і зоолёгіі, у гадзіны, прызначаныя для вытворчай практыкі, было зроблена дасьледваньне заражоных памяшканьняў і дзесяці гектараў засеўнай плошчы, што на захад ад фэрмы. Пры аглядзе фэрмаўскіх будынкаў былі знойдзены норы грызуноў — палявой мышы (Mus agraries) на 70% і пацука (Mus decumans) на 30% Агляд палявой плошчы рабіўся шляхам падлічэньня ўваходных дзірак у норы грызуноў. Пры гэтым выявілася, што на кожны гектар прыпадала, прыблізна, ад 700 да 900 дзірак у норы мышэй-палёвак. Гэтая колькасьць дзірак яшчэ ня сьведчыць аб такой-жа колькасьці мышэй на дасьледванай плошчы, бо палявая мыш селіцца групамі і ў адзіночку ў нары з некалькімі ўваходамі. Але нават калі палічыць колькасьць мышэй у тры разы меншай, чым колькасьць дзірак (300 штук на гектар), дык трэба прызнаць заражонасьць грызунамі засеўнай плошчы вельмі значнаю.

Меры барацьбы былі ўжыты наступныя. Студэнты ў колькасьці 25 асоб падрыхтавалі прыманкі і зрабілі закладку іх у дзіркі нор. Прыманкі ўяўлялі кулькі з пшанічнай мукі, атручаныя хлёрыстым барыем ці мышынапацуковым тыфусам. Гэта работа паўтаралася з пяцьма групамі студэнтаў, па 25 чал. у кожнай, г. зн. 125 студэнтамі. Колектыўны мэтод барацьбы, ажыцьцёўлены студэнтамі, даў некаторыя практычныя вынікі і азнаёміў студэнтаў з пастаноўкай пытаньня барацьбы з грызунамі.

У выніку правядзеньня гэтага досьледу мы мелі вельмі значную карысьць: вельмі значная колькасьць грызуноў (да 80) была знойдзена на вучастку атручанаю.

У заключэньне трэба раіць фэрме пытаньне па барацьбе з грызунамі паставіць на належную вышыню, не шкадуючы на гэта сродкаў, якія ў выніку зьністажэньня грызуноў вернуцца значным прыбыткам. Тых сарака рублёў, што былі адпушчаны летась фэрмай, зразумела, мала ў параўнаньні са ступеняй заражонасьці палёў і памяшканьняў грызунамі. Вельмі мэтазгоднай была-б організацыя пры фэрме нявялічкай ляборатоыі па выпрацоўцы мышына-пацуковага тыфусу, адкуль карысталася-б матар'яламі ня толькі фэрма С.-г. акадэміі, але таксама і акружаючыя саўгасы і колгасы. Апісаная кампанія была праведзена ў маі 1930 году.

А. У. Шчапоцьцеў.

## Інструкцыя кіраўнікам працай па барацьбе з грызунамі (палёўкамі)[1])

1. Для вопытаў барацьбы з грызунамі бяруцца 2 паказальныя вучасткі. Організуюцца яны ў мэтах доказу насельніцтву аб мэтазгоднасьці барацьбы з палёўкамі шляхам затручваньня растворамі атруты печанага хлеба.

2. Вучасткі бяруцца, прыблізна, па 1 гектары з аднолькавай, прыблізна, плотнасьцю заражэньня, з якіх адзін затручваецца.

3. *Першы дзень* затаптваюцца і падлічваюцца ўсе выхады нор (на кожным вучастку асобна ва ўсіх выпадках).

4. *У другі дзень* падлічваюцца ўсе выхады, якія адчыняліся, і потым толькі на адным вучастку робіцца затручваньне шляхам закладваньня на глыбіню 5 сантым. па аднаму кавалку хлеба велічынёй у лясны дробны арэх. Хлеб затручваецца 3% растворам мыш'яковa-кіслага натру (арсэнік).

5. *У трэці дзень* робіцца нагляданьне над затручаным вучасткам, падлічваецца агульная колькасьць адчыніўшыхся нор, колькасьць аб'едзеных кавалкаў хлеба і колькасьць выкінутых наружу, а таксама назіраецца жыцьцяздольнасьць палёвак.

[1]) Інструкцыя гэта ўзята з кнігі Л. Л. Горяинова „Крысы и мыши—враги сельского хозяйства" і перакладзена на беларускую мову. Прымянялася яна для барацьбы з грызунамі ў Азэйбарджане

6. У *чацьверты дзень* тое-ж самае.

7. У *пяты дзень* наперад робіцца тое-ж самае, што ў трэці і чацьверты дзень, а потым усе выхады нор затаптваюцца. Адначасова затаптваюцца ўсе выхады нор на другім вучастку, які не затручваўся.

8. У *шосты дзень* падлічваецца колькасьць адчыніўшыхся нор на кажным вучастку. У выпадку няпоўнага % сьмяротнасьці палёвак на затручаным вучастку зрабіць паўторнае затручваньне.

9. Усе вынікі штодзеннай працы запісваюцца ў дзеньнік.

10. Пастаноўка паказальных вучасткаў вядзецца ў прысутнасьці прадстаўнікоў мясцовай улады і ўпоўнаважаных вёскі ці грамады і вынікі фіксуюцца адпаведным актам у 2-х экзэмплярах за подпісамі ўдзельнікаў. Адзін экзэмпляр акту застаецца у выканкоме дзеля паведамленьня насельніцтва, а другі накіроўваецца ў цэнтр.

*Заўвага.* Адчыніўшыяся на другі дзень пасьля застручваньня выхады нор зьяўляюцца жылымі і, прыблізна, адпавядаюць колькасьці палёвак, якія засталіся жыць на даным вучастку.

## Удзел краязнаўцаў у правядзеньні 2-га Міжнароднага палярнага году.

У 1932-33 г. намечана правядзеньне 2-га міжнароднага палярнага году праз 50 год пасьля 1-га палярнага году, калі, дзякуючы намаганьням шмат якіх краін, было праведзена вывучэньне Арктыкі і Антарктыкі.

Асноўнымі задачамі 2-га МПГ зьяўляецца вырашэньне проблем гідролёгічных, мэтэоролёгічных аэролёгічных (вывучэньне высокіх пластоў атмосфэры), зямнога магнэтызму, атмосфэрнай электрычнасьці, паўночнага зьзяньня.

Экспэдыцыі будуць рабіцца ў далёкія паўночныя мясцовасьці і к паўднёваму полюсу зямлі.

Узьнікае пытаньне, якая справа да гэтага нашым краязнаўцам, якія вывучаюць свой край, дзе яны праводзяць соцыялістычнае будаўніцтва? Якая справа, напрыклад, чэрвенскаму краязнаўцу да 2-га МПГ?

На першы погляд здаецца, што няма ніякай справы, але сапраўды гэта ня так.

Мы на кожным кроку залежым ад надвор'я. Усе галіны народнай гаспадаркі і абароны вельмі зацікаўлены ў надвор'і і гідролёгічным рэжыме. Будаваць гаспадарку раёну, будаваць колгас, саўгас, фабрыку, завод немагчыма бяз уліку мясцовых асаблівасьцяй клімату, надвор'я і гідролёгічнага рэжыму краю.

Краязнаўцы бяз уліку апошніх ня могуць вырашыць амаль ніводнай гаспадарчай проблемы.

Вывучэньне клімату, асаблівасьцяй надвор'я і гідрорэжыму раёну — адна з першых задач кожнага працаўніка, які перабудоўвае гаспадарку раёну на соцыялістычна-плянавай базе.

А надвор'е, гідрорэжым абумоўліваюцца мясцовымі асаблівасьцямі, якія зьяўляюцца цэнтрамі дзейнасьці атмосфэры, разьмешчанымі ў полярных краінах.

Адтуль даходзяць сьцюдзёныя хвалі, там часта ўзьнікаюць цыклёны, уплываючыя на наша надвор'е, там ёсьць гольфштрэм, ад тэмпэратуры якога залежыць надвор'е і водны рэжым нашых цэнтральных раёнаў.

Э. С. Лір давяла сувязь паміж надвор'ем на самым далёкім паўночным усходзе Эўропейскай часткі Саюзу і галалёдам у нашым паўднёвым і паўднёва-ўсходнім стэпе прычым зьявы на поўначы папераджаюць галалёд і па іх можна прадбачыць апошні.

В. І. знайшоў сувязь паміж лёдавасьцю ў Барэнцавым моры і колькасьцю ападкаў у Цэнтральнай Чорназёмнай абласьці і суседніх раёнах.

Б. П. Мультаноўскі выкрыў сувязь паміж надвор'ем на поўначы і чорнаморскімі бурамі, прычым выявіў, што задоўга да пачатку паўднёвых бураў на поўначы зьяўляюцца іх папярэднікі.

Выяўлена, што зьявы ў Арктыцы і ў Антарктыцы сынхронічны; такім чынам, адначаснае вывучэньне абедзьвюх полярных краін дапамагае хутчэйшаму аўладаньню нашымі паўночнымі краінамі.

Адгэтуль зразумела, што ўсякі, хто зацікаўлены ў раскрыцьці тайны надвор'я свайго раёну, павінен сваю ўвагу зьвярнуць на далёкую поўнач, дзе знаходзіцца адгадка.

Таксама зразумела, што толькі цесная ўвязка працы па вывучэньню мясцовасьці і гідрорэжыму на месцы з працай у паасобных полярных краінах дасьць посьпех у гэтай справе.

А таму і краязнаўца, зацікаўлены у вывучэньні свайго раёну, ня можа ня быць у ліку дасьледчыкаў па 2-му МПГ.

Уся праца па 2-му МПГ павінна праходзіць па адным пляне, адных програмах і пад адным кіраўніцтвам.

Гідромэтэоролёгічны камітэт СССР, на які ўскладзена кіраўніцтва працамі 2-м МПГ на тэрыторыі СССР, а таксама штаб 2-га МПГ, вылучаны ЦБК, апрацоўваюць усё неабходнае і дашлюць усім зацікаўленым адпаведныя інструкцыі і іншыя матар'ялы. Хоць 2-гі МПГ будзе ў 1932-33 г., але падрыхтоўка павінна быць распачата зараз. Трэба мець практыку перад 2-гім МПГ, каб на працягу апошняга быць на вышыні.

У краязнаўчай працы пытаньні 2-га МПГ павінны заняць віднае месца. Няхай краязнаўцы СССР і БССР возьмуць актыўны ўдзел у заваёве поўначы.

### Тэзісы дакладу.

„Працоўныя на фронце барацьбы з паветранай і воднай стыхіямі на працягу 2-га МПГ.

1. Колгас і саўгас ня могуць правільна арганізаваць сваю гаспадарку, калі ня вывучаць клімату і воднага рэжыму свайго раёну:

Ці церпіць даны раён ад засухі, як часта, ці трэба ўводзіць засухаўстойлівыя культуры? Ці магчыма разьвядзеньне такіх расьлін, як кендыр, кенаф, лён, цукровы бурак, бавоўна, далікатныя гатункі пшаніцы, рыс і г. д.?

Ці досыць для іх цяплыні і вільгаці? Які ўхіл трэба надаць гаспадарцы—расьлінаводны (і якой культуры), жывёлагадоўчы ці які-небудзь іншы?

Ці забясьпечаны раён вадою для жывёлы і чалавека?

Якія месцы асабліва падпадаюцца вясновым замаразкам і з гэтай прычыны—дзе ня трэба разводзіць няўстойлівыя на сьцюжу расьліны? У якіх месцах данага раёну часта бываюць градабіцьці, як часта? У якіх месцах ня трэба разводзіць культур, што баяцца граду? Ці трэба арганізаваць штучнае абвадненьне, наколькі яно неабходна і рэнтабельна?

Калі пачынаць вясновую працу, канчаць асеньнюю? Калі рабіць сяўбу, уборку, каб яны не супадалі з дрэнным надвор'ем? І шмат іншага ў галіне сельскай гаспадаркі. На ўсе гэтыя пытаньні можна адказаць, толькі ведаючы клімат данага раёну, ведаючы асаблівасьці яго надвор'я і яго водны (гідролёгічны) рэжым.

2. Пабудова заводаў, плянаваньне гарадоў, узьвядзеньне будынкаў патрабуе ведаў аб клімаце, надвор'і і гідролёгічным рэжыме данага раёну.

Ці забясьпечаны даны раён здаровай добрай вадой. Ці няма забалочанасьці, якая выклікае малярыю? На які сэзон трэба рыхтаваць апал?

З якога боку гораду разьмяшчаць заводы, каб іх дым ня душыў штодзённа жыхароў гораду? Які пэрыод для цэмантовых прац, немагчымых пры марозах? для зямельных прац? Якой грубіні класьці муры, каб яны вытрымлівалі напор ветру і былі непранікальны для вялікіх вятроў?

Якія адносіны сьветлавой плошчы (плошча вакон) да плошчы падлогі павінны быць у даным раёне? Як папярэдзіць нечаканыя зрывы будаўнічых прац з прычыны маразоў, залевы, бураў і г. д.? І шмат аналёгічных пытаньняў. Усе яны могуць быць вырашаны, калі вывучаны клімат, у прыватнасьці цеплавы, ветравы рэжым; калі набыты папярэднія весткі аб надвор'і; калі вядом гідролёгічны рэжым.

3. Усе віды транспорту знаходзяцца ў вельмі вялікай залежнасьці ад надвор'я і гідрорэжыму данага раёну.

Завеі з іх гурбамі на дарогах, туманы, якія не дазваляюць належным чынам скарыстоўваць сьветавую сыгналізацыю і выклікаюць часта катастрофы з цягнікамі. Залевы, якія размываюць шляхі зносін. Галалёд, які часта іrве тэлеграфны тэлефонныя правады. Час замярзаньня і ўскрыцьця рэчак, азёр. Вышыня роўню паводкі, перасыханьне рэчак і г. д

Час, працяглась бездарожжа; прадбачаньне бездарожжа. Усё гэта — прыклады таго, як транспорт зацікаўлен у мэтэоролёгічных і гідролёгічных умовах, як неабходна для яго вывучаць клімат, надвор'е і гідрорэжым краю, раёну.

4. Нашы паветраныя зносіны, якія набываюць усё большае і большае значэньне, бяз знаньня атмосфэры ня могуць абыйсьціся.

Вецер зьмяняе напрамак пералёту. Туманы не дазваляюць ні орыентавацца ў падарожы, ні садзіцца на аэродром. Штормы, віхуры, навальніцы пагражаюць цэласьці машыны. Воблакі, як і туман, перашкаджаюць пералётам, калі яны своечасова ня ўлічаны і г. д.

Ня ведаючы надвор'я, ня вывучыўшы законаў атмосфэры, не наладзіўшы належным чынам інформацыі аб стане надвор'я і прадказаньняў апошняга, нельга спадзявацца на бесьперашкоднае разьвіцьцё авіацыі.

5. XVI зьезд Усе КП(б) прызнаў неабходным форсаваць скарыстаньне мясцовых крыніц энэргіі, большасьць-жа апошніх належыць да мэтэоролёгіі і гідролёгіі.

Нашы асноўныя крыніцы энэргіі—каменны вугаль, нафта, торф—ня вечны, яны будуць вычарпаны.

Расьлінны апал (лес) з разьвіцём тэхнікі будзе скарыстаны больш мэтазгодна—на сухі перагон, на выраб розных матар'ялаў. Гэты „зялёны вугаль" паступова павінен замяняцца іншымі відамі апалу для атрыманьня энэргіі.

Сіла жывёлы таксама адыходзіць на другі плян, замяняецца мэханічнай сілай; гэты „чырвоны вугаль" таксама значна губляе ў сваім значэньні.

Патрэбны іншыя крыніцы энэргіі: „белы вугаль"—сіла руху прэснай вады, „сіні вугаль"—сіла прыліваў, адліваў і прыбояў морскай вады, „блакітны вугаль"—сіла ветру, „жоўты вугаль"—сіла энэргіі сонечных праменьняў.

Усе гэтыя віды вугалю вечна аднаўляюцца, невычарпальныя і колёсальныя па сваіх запасах энэргіі.

Але ў будучыні, можа быць, давядзецца скарыстаць „пурпуровы вугаль"—сілу атмосфэрнай электрычнасьці, „шэры вугаль"—сілу зямнога магнэтызму, „фіолетавы вугаль"—сілу марозу.

Усе гэтыя віды вугалю—об'екты вывучэньня мэтэоролёгіі, гідролёгіі і геомагнэтызму.

6. Ахова здароўя на кожным кроку сустракаецца з пытаньнямі клімату, надвор'я і гідрорэжыму раёну.

Кліматычнае лячэньне на курортах. Лячэньне горным сонцам. Ахова здароўя ў розных мясцовасьцях. Уплыў надвор'я на стан хворага і здаровага і г. д.

Усе гэтыя пытаньні гідромэтэоролёгічнага характару.

7. Культурная рэволюцыя зацікаўлена ў хутчэйшым аўладаньні бліжэйшым да нас „мэтэаролёгічным небам“.

„Астрономічнае неба“ вывучана на гэтулькі, што можна прадвяшчаць зьявы з дакладнасьцю частак сэкунды. Слабае веданьне намі „мэтнеба“, г. зн. атмосфэры, вядзе да таго, што тут засталіся цытадэлі ўсялякіх рэлігійных забабонаў. Калі-б мы дакладна і правільна прадвяшчалі надвор'е мы назаўсёды прагналі-б думку аб богу, гэты вынік цемры і няпісьменнасьці.

8. У 1932-33 г. праводзіцца 2-гі міжнародны полярны год праз 50 год пасьля 1-га, калі, дзякуючы намаганьням шмат якіх краін, вывучаліся паўночныя (Арктыка) і паўднёвыя (Антарктыка) полярныя краіны зямлі.

У часе вывучэньня полярных умоў мы будзем вывучаць тыя асноўныя цэнтры дзейнасьці атмосфэры, якія знаходзяцца ў гэтых полярных краінах і якія ў значнай меры абумаўляюць надвор'е і гідрорэжым усяго нашага Саюзу.

9. Каб аўладаць паветранай і воднай стыхіямі, каб як-мага хутчэй і паўней вывучыць пытаньне аб тым, як і чым абумаўляецца надвор'е, клімат і гідрорэжым кожнага нашага раёну, кожнага асобнага вучастку, дзе мы будуем свае заводы, фабрыкі, колгасы, саўгасы,—нам усім неабходна скарыстаць 2-гі міжнародны полярны год і ўсім далучыцца да вывучэньня надвор'я і гідрорэжыму раёнаў усяго Саюзу.

10. Удзел кожнага грамадзяніна СССР не вымагае спэцыяльнай кваліфікацыі, каб выканаць вельмі адказную працу.

Вымярэньне сьнегавога насьцілу некалькі разоў за зіму.

Запісваньне ападкаў — дажджу, сьнегу, граду і г. д.

Нагляданьні над воблакамі.
Нагляданьні над паўночнымі зьяньнямі.
Нагляданьні над навальніцамі.

Установкі вадамернай рэйкі ля бліжэйшай рэчкі, ручая, возера і запісваньне роўню вады, асабліва пры паводках, затопах і інш.

Запісваньне найбольш характэрных зьяў надвор'я воднага рэжыму.

Запісваньне пачатку распусканьня лісьцяў, зацьвітаньня расьлін і іншых фэнолёгічных зьяў.

Вось простыя, але вельмі важныя работы. З гэтых простых, даступных кожнаму, запісаў агульнымі сіламі можна скласьці характарыстыку клімату данага раёну, здабыць матар'ял па ўвязцы зьяў надвор'я і гідрорэжыму раёну з агульнымі ўмовамі надвор'я па ўсёй зямлі.

11. 2-гі міжнародны полярны год будзе ў 1932-33 г.,—гэта блізка. На працягу 1931-32 г. мы гавінны арганізавацца, навучыцца наглядаць і апрацоўваць, правесьці папярэдняе вывучэньне атмосфэры і воднага рэжыму, каб у 1932-33 г. папоўніць прабелы, якія няўхільны ў першы год працы.

12. Агульнае кіраўніцтва падрыхтоўкай 2-га полярнага году на тэрыторыі СССР урадам ускладзена на Гідромэтэоролёгічны Камітэт СССР, які арганізуе асобны комітэт 2-га МПГ. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства РСФСР пастанавіла ўзяць у гэтым актыўны ўдзел і стварыла для гэтага асобны штаб 2-га МПГ.

Ад камітэту 2-га МПГ можна атрымаць усе належныя даведкі і паказаньні, програмы і інструкцыі. [1])

13. Няхай кожны рабочы, калгасьнік, доктар, політасьветнік, настаўнік, вучань, агроном, статыстык залічыць сябе ў вялікую армію савецкіх байцоў на фронце аўладаньня грознымі паветранай і воднай стыхіямі, удзельнікаў правядзеньня 2-га МПГ.

**Бібліографія.**

1. Вангенгейм. „Краеведы на завоевание полярных стран“. „Советское Краеведение“, 1930. № 11-12.

2. Вангенгейм. „Актуальные задачи мироведения“. „Мироведение“, 1930, 10.

3. Вангенгейм. „Цветной уголь“, „Искра“, 1930, № 4.

4. Вангенгейм. „Гидрометеорологию на службу социалистическому земледелию“. „Социалистическое земледелие“, 1930 № 177 (428).

## Краязнаўчая пяцідзёнка ў Клімавіцкім раёне.

1—5 лютага ў Клімавіцкім раёне была праведзена „краязнаўчая пяцідзёнка“ пад лёзунгам „за савецкае краязнаўства“. Арганізаваны пры РК КП(б)Б Райштаб па правядзеньню краязнаўчай пяцідзёнкі правёў вялікую працу па популярызацыі ідэі і задач савецкага краязнаўства, па выяўленьню шкодніцкай працы нацдэмаў у галіне краязнаўства і па організацыі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах і вёсках. Праведзена 32 сходы колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства на раёне і 6 сходаў у горадзе. На раёне організавана 16 краязнаўчых гурткоў (250 членаў) і ў горадзе—4 гурткі (120 членаў). Для афармленьня краязнаўчай сеткі, вызначэньня конкрэтных задач краязнаўчай працы на раёне і выбара Раённага Бюро Краязнаўства на 5 сакавіка склікаецца раённая краязнаўчая конфэрэнцыя.

Краязнаўчая праца пераводзіцца на новыя рэйкі, на рэйкі абслугоўваньня і вырашэньня практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва.



[1]) Пры ЦБК таксама організуецца штаб 2 МПГ, куды і трэба зварочвацца за ўсімі ўказаньнямі.

## Аб укладаньні экскурсійнага пуцяводніка.

ЦБК прыступае да працы па ўкладаньню „экскурсійнага пуцяводніка па БССР", які павінен быць выдан у бліжэйшыя месяцы гэтага году. Гэту работу магчыма будзе выканаць толькі тады, калі мясцовыя краязнаўчыя організацыі прымуць самы актыўны ўдзел у апісаньні мясцовых маршрутаў для экскурсій і экскурсійных об'ектаў паводле спэцыяльнай програмы, якая будзе надрукавана ў наступным нумары „Савецкай Краіны" і разаслана па ўсіх краязнаўчых організацыях. Да апісаньня маршрутаў і экскурсійных об'ектаў трэба аднесьціся вельмі сур'ёзна і ўважліва і правесьці работу ў тэрміновым парадку, уцягнуўшы ў гэту працу ўсе краязнаўчыя гурткі, рабочых на прамысловых прадпрыемствах, у саўгасах і інш., колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкія масы, настаўніцтва, працаўнікоў савецкіх, коопэрацыйных і ўсіх культурна-асьветных устаноў (музэяў, бібліотэк, дашкольных устаноў і г. д.).

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

# Зьмест

*Стар.*

**В. Шчарбакоў.** Вынікі кампаніі па давыбарах акадэмікаў Беларускай Акадэміі Навук . . . . . . . . . 3

**В. Самцэвіч.** За актыўны ўдзел у выращэньні баявых задач спажывецкай коопэрацыі . . . . . . . . . 7

**Матвяёнак.** Рэволюцыя 1905 г. на Магілеўшчыне . . . 10

**Ф. П. Садоўскі.** Музэй—магутны агітатар і пропагандысты соцыялістычнага будаўніцтва . . . . . . . 19

**А. Ляўданскі.** Нацдэмы ў саюзе з рэлігіяй і царкоўнікамі супроць дыктатуры пролетарыяту . . . . . . . 24

**А. Нікалаеў, М. Лойка, С. Маргелаў.** Нацдэмаўская праца катэдры географіі БАН . . . . . . . . 31

**Проф. П. Салаўёў.** За колектывізм у навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы . . . . . . . . . . 38

**В. Самцэвіч.** Падрыхтуем кадры краязнаўцаў . . . . . 41

**Проф. П. Салаўёў.** Шкоднікі ільняных культур . . . . 44

**В. Самцэвіч.** Разгорнем пролетарскі турызм . . . . . 46

**Ц. Гурвіч, А. Зюзькоў, Н. Леўкова.** Нацыянал-дэмократызм, як агентура інтэрвэнцыі . . . . . . . . 48

**В. С-іч.** Задачы краязнаўчых організацый у падрыхтоўцы і пасьпяховым правядзеньні другой бальшавіцкай вясны . . . 58

**Л. Баброві́ч, Ів. Шпілеўскі.** Мовазнаўства, як сродак клясавай барацьбы ў руках беларускіх нацыянал-дэмократаў . . 61

## Хроніка.

**А. У. Шчапоцьцяў.** Спроба барацьбы з грызунамі . . . 74

Інструкцыя кіраўніком працай па барацьбе з грызунамі . . 74

Удзел краязнаўцаў у правядзеньні 2-га Міжнароднага полярнага году . . . . . . . . . . . 75

Краязнаўчая пяцідзёнка ў Клімавіцкім раёне . . . . 77

Аб укладаньні экскурсійнага пуцаводніка . . . . . 78

